КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 3 (324) ◂ 25 студзеня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



МІХАСЬ ЧАРНЯЎСКІ

Стар. 6

**ЛЕПШ ПАЕДУ Я Ў САРБОНУ**

Хуткім часам у Беларусі ў чарговы раз вырастуць кошты за навучанне, хаця ўжо цяпер у БДУ год навучання каштуе $1750. Дарэчы, Мюнхенскі тэхнічны ўніверсітэт (Германія) просіць за год $1800, а Сарбонскі ўніверсітэт (Францыя) — $1500

Стар. 5

**НАВОШТА ФРАНЦЫІ МАЛІ?**

Французскі палітыкум і грамадства не маюць кансэнсуса ў пытанні — ці трэба было Францыі дасылаць войскі ў Афрыку?

Стар. 29

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**НІБЫТА МЫ ЗНІКЛІ З БЕЛАГА СВЕТУ**

Размова Сяргея Шапрана з Міхасём Чарняўскім

▸ **АД РЭДАКТАРА**

# НІЧОГА АСАБІСТАГА, ТОЛЬКІ БІЗНЭС

*Сяргей ПУЛЬША*

**Крыху больш за тыдзень «шэры кардынал» Віктар Шэйман быў на пасадзе памочніка прэзідэнта Беларусі па асаблівых даручэннях. Напачатку тыдня прэзідэнт прызначыў Шэймана кіраўніком спраў Адміністрацыі прэзідэнта, выклікаўшы гэтым пэўнае здзіўленне ў аналітыкаў і прагназістаў.**




Віктар Шэйман — самы набліжаны да Лукашэнкі кадр улады. У 1994–2000 гадах ён быў дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі — памочнікам прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы. У 2000 годзе прызначаны генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь, у 2004 годзе заняў пасаду кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а ў 2006 годзе вярнуўся ў Савет бяспекі зноў дзяржаўным сакратаром.

З трэскам быў зняты з гэтай пасады пасля выбуху ў Мінску ў 2008 годзе на Дзень незалежнасці. Спачатку адпачываў, потым стаў памочнікам прэзідэнта па асаблівых даручэннях у структуры Дзяржаўнага сакратарыята Савета бяспекі.

Але, як кажа народная мудрасць, «не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек месца». Гэта ў поўнай ступені тычыцца Шэймана. Якую б пасаду ён ні займаў, гэтая пасада заўсёды была ўплывовай. Яшчэ б — найстарэйшы паплечнік Аляксандра Лукашэнкі, быў бы лепшы сябра, каб у Лукашэнкі былі сябры, незаменны памочнік прэзідэнта.

Многія пачалі шукаць у новым прызначэнні Шэймана чарговы палітычны кантэкст. Маўляў, Лукашэнка ніколі не адпусціць ад сябе Шэймана (што праўда), а прызначэнне яго на пасаду кіраўніка спраў Адміністрацыі прэзідэнта сведчыць пра тое, што палітыка ўлады, як мінімум, не зменіцца, а як максімум — нас чакае «закручванне гаек» (што сумнеўна). Вельмі блізка апынуўся сёння Шэйман да прэзідэнта, бліжэй, чым на пасадзе памочніка альбо генпракурора.

Але «дрыжаць» амерыканцам ці еўрапейцам не трэба: кіраўнік спраў — гэта не кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта. Ён не вырашае палітычных пытанняў, гэта «кіраўнік гаспадаркі», які сочыць, каб у прынтары была папера, у машыны прэзідэнта быў заліты бензін, а прэзідэнцкі «Майбах» стаяў там, дзе яму належыць стаяць. У прымітыўным плане — недзе так.

Каму варта зараз дрыжаць, дык гэта айчынным бізнэсмэнам. Менавіта гаспадарчае Кіраўніцтва спраў Адміністрацыі прэзідэнта кантралюе шмат які бізнэс у Беларусі. У прыватнасці — рынак алкаголю і тытуню, квоты на імпарт рыбы і морапрадуктаў. У падпарадкаванні Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь знаходзяцца чатыры нацыянальныя паркі — «Белавежская пушча», «Нарачанскі», «Прыпяцкі», «Браслаўскія азёры», а таксама Бярэзінскі запаведнік, з усімі іх лесанарыхтоўкамі, лесапілкамі і паляўнічымі магчымасцямі.

Немалаважна цяпер тое, што Кіраўніцтва справамі прэзідэнта распараджаецца сталічнымі гасцінічнымі комплексамі «Мінск», «Планета» і «Юбілейны», а таксама ў аператыўным упраўленні Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь знаходзяцца каля 400 адміністрацыйных і грамадскіх будынкаў Мінска. Улічваючы, колькі замежных інвестараў імкнуцца пабудаваць гатэлі і іншыя аб'екты ў Мінску, Кіраўніцтва спраў тут — залатая жыла.

Няшмат хто ведае, што Кіраўніцтва спраў займаецца яшчэ і «падтрымкай і развіццём беларускіх народных промыслаў, захаваннем гістарычных традыцый і рамеснага мастацтва» (так сказана ў іх на сайце). З гэтай нагоды Кіраўніцтва спраў кантралюе дзяржаўны канцэрн «Белхудожпромыслы», які складаецца з каля 20 фабрык народных промыслаў. Напярэдадні Чэмпіянату свету па хакеі Шэйман будзе адказным за сувеніры, што таксама неблагія грошыкі.

На такія грошы і магчымасці патрэбны самы надзейны чалавек. Віктар Шэйман на такую пасаду падыходзіць.

Не выключана таксама, што Беларусь стаіць на парозе маштабнай прыватызацыі. Пра «сейфавую прыватызацыю» і яе магчымы непразрысты характар, пра распродаж беларускай уласнасці і «фамільнага срэбра» неаднаразова выказваліся палітыкі і эксперты. Магчыма, што хутка Кіраўніцтва справамі прэзідэнта зоймецца і гэтым пытаннем, значна пашырыўшы свае функцыі на ўсю краіну. А на прыватызацыйных грошах тым больш павінен сядзець свой чалавек, бо, як казаў адзін бізнэсмэн з фільма «Брат–2», «такімі грашыма не рызыкуюць».

Так што ў прызначэнні Шэймана на пасаду кіраўніка спраў Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі няма, як кажуць кілеры, «нічога асабістага — проста бізнэс». Проста банальна трэба кантраляваць фінансавыя патокі, асабліва ў сітуацыі няўпэўненасці ў так званай «беларускай стабільнасці».

Адзінае пытанне ў тым, ці здолее Віктар Шэйман пацягнуць не палітычную, а гаспадарчую пасаду? Адказ на гэтае пытанне вельмі просты — здолее. На досведзе Віктара Шэймана — вельмі паспяховыя праекты па супрацоўніцтве Беларусі ў Венесуэле. Менавіта ён узначальвае двухбаковую камісію высокага ўзроўню з Венесуэлай. «Высокага ўзроўню» азначае, што ў яго паўнамоцтвы віцэ-прэм'ера. Шэйман таксама быў заўважаны ў «эканамічных» дэлегацыях Беларусі на Блізкім Усходзе і ў Лацінскай Амерыцы.

Усе кажуць, што Шэйман курыраваў у гэтых пытаннях такую далікатную сферу, як ваенна-тэхнічнае супрацоўніцтва і гандаль зброяй. Дык няўжо чалавек, які дамогся поспехаў у гэтай галіне, не можа дамагчыся поспеху на пасадзе Кіраўніцтва справамі Адміністрацыі прэзідэнта? Гэта ж усяго — толькі бізнэс.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОРКІ. У ШКОЛАХ ПРАКТЫКУЮЦЬ ПАБОРЫ З БАЦЬКОЎ

**Пры зборы «добраахвотнай бацькоўскай дапамогі» у СШ №4 горада Горкі існуюць шматлікія парушэнні — такую інфармацыю агучыў у пісьмовым звароце на сайт Horki.info адзін з бацькоў мясцовых школьнікаў.**

Дырэктар школы Васіль Бяляеў сцвярджае, што збор сродкаў з бацькоў вучняў у выглядзе «добраахвотных ахвяраванняў» знаходзіцца пад поўным кантролем з боку адміністрацыі і апякунскага камітэта.

«На сайт Horki.info прыйшоў ліст «Рэкет па-школьнаму», падпісаны Іванам Арцёмавічам, — распавядае рэдактар незалежнай горацкай газеты «Узгорак» Галіна Будная. — У сваім лісце аўтар сцвярджаў, што ў СШ №4 горада Горкі на сталай аснове збіраюць ахвяраванні з бацькоў вучняў, прычым выдаткоўваюцца гэтыя сабраныя сродкі вельмі непразрыста. Я наведала школу №4, паразмаўляла з яе дырэктарам Васілём Бяляевым. Ён не адмаўляе, што ў школе праводзіцца збор добраахвотнай бацькоўскай дапамогі, аднак сцвярджае, што ўся дапамога строга кантралюецца, усё робіцца цалкам адкрыта. Так, бацькам распавялі, што летась на сабраныя грошы быў куплены мультымедыйны праектар і фарба для рамонту. Грошы, што засталіся пасля гэтых выдаткаў, кажа дырэктар, былі ўкладзеныя ў рамонт школы і ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы школы».

Галіна Будная кажа, што ліст Івана Арцёмавіча ўсхваляваў чытачоў сайта і газеты «Узгорак», бо добраахвотныя бацькоўскія ахвяраванні збіраюць і ў іншых горацкіх школах.

«Ліст выклікаў шырокую рэакцыю з боку чытачоў, выказваліся самыя розныя меркаванні на яго конт. Відавочна, што праблема сапраўды існуе, разнастайныя добраахвотныя ахвяраванні ад бацькоў вучняў збіраюць і ў іншых горацкіх школах. На жаль, мы не здолелі знайсці Івана Арцёмавіча, каб атрымаць у яго больш падрабязную інфармацыю і выслухаць ягоны пункт гледжання», — кажа Галіна Будная.

Сумна, што ў «квітнеючай» Беларусі нават у Горках, горадзе, дзе толькі некалькі месяцаў таму прайшлі «Дажынкі», адміністрацыі школ вымушаны звяртацца па фінансавую падтрымку да бацькоў вучняў. Ды і адразу ж узнікае пытанне — як будуць ставіцца настаўнікі да тых вучняў, бацькі якіх з пэўных прычынаў не змогуць надаць школе «добраахвотную фінансавую дапамогу»?

### ЖЛОБІН. «СПРАВЯДЛІВЫ СВЕТ» ПАДАЎ СКАРГІ Ў КАМІТЭТ ААН

**Камітэт па правах чалавека ААН прыняў скаргі жлобінскіх сябраў партыі «Справядлівы свет» на адмову мясцовага райвыканкама ў правядзенні пікетаў у 2012 годзе. Пра гэта паведаміў кіраўнік раённага аддзялення партыі Валеры Рыбчанка.**

«Мы даслалі скаргі ў мінулым месяцы і на днях атрымалі адказ, што нашыя скаргі атрыманыя, — кажа спадар Рыбчанка. — Скаргі тычыліся не толькі забароны Жлобінскага райвыканкама нашых пікетаў у падтрымку палітзняволенных, але і тых, якія мы заяўлялі адносна фальсіфікацый прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Мы прайшлі ўсе ўнутраныя інстанцыі і таму вырашылі звяртацца ў ААН.

Сёння сябры партыі чакаюць рэгістрацыі сваіх скаргаў у Камітэце па правах чалавека ААН, якая павінна адбыцца, хутчэй за ўсё, ужо ў наступным месяцы.

Нагадаем, гэта не першы раз, калі жлобінскія сябры партыі левых «Справядлівы свет» накіроўваюць скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН на адмову ў правядзенні пікетаў мясцовымі ўладамі. Падобныя скаргі разглядаліся Камітэтам і ў 2011–2012 гг.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле інфармацыі сайта spring96.org**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ДЗІКУНСТВА ПАСЯРОД ЕЎРОПЫ

**Генадзь КЕСНЕР**

**Старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі Пётр Міклашэвіч не ведае, калі можа быць вырашанае пытанне пра ўвядзенне мараторыя альбо пра скасаванне смяротнага пакарання ў нашай краіне.**

23 студзеня падчас прэс-канферэнцыі ў Мінску Міклашэвіч адзначыў, што «пры наяўнасці адпаведных абставінаў прэзідэнт і парламент могуць вырашаць пытанне пра ўвядзенне мараторыя альбо скасаванне смяротнага пакарання».

Што ж перашкаджае кіраўніцтву Беларусі хаця б прыпыніць гэтае дзікунства з пункту гледжання цывілізаванага свету? Юрыст і праваабаронца Валянцін Стэфановіч мяркуе, што ўсё залежыць ад палітычнай волі вышэйшых службовых асобаў.

«Міклашэвіч сапраўды гэтага не ведае, бо ад яго як ад старшыні КС найменш залежыць вырашэнне гэтага пытання. Канстытуцыйны суд сапраўды ў 2004 годзе прымаў рашэнне адносна адпаведнага артыкула Канстытуцыі, і там было пытанне, ці трэба ўносіць змены ў Асноўны закон у выпадку скасавання смяротнага пакарання ці ўвядзення на яго мараторыя. І Канстытуцыйны суд адказаў, паколькі ў Канстытуцыі прадугледжана, што смяротнае пакаранне носіць часовы характар, то гэта значыць, што тая ж Канстытуцыя прадугледжвае скасаванне смяротнага пакарання ці ўвядзенне на яго мараторыя ў будучыні. Таму ніякіх зменаў у Асноўны закон у сувязі з гэтым уносіць не патрабуецца. А гэта значыць, што не патрабуецца правядзення ніякіх рэферэндумаў пра ўнясенне зменаў у Канстытуцыю, — падкрэслівае намеснік старшыні Праваабарончага цэнтру «Вясна».

То бок увесці мараторый можа кіраўнік дзяржавы сваім указам: гэта значыць, што адпаведны артыкул у заканадаўстве застаецца, але ён не ўжываецца, бо ўводзіцца мараторый на яго ўжыванне. Альбо (у выпадку скасавання смяротнага пакарання) дэпутаты парламента прымаюць закон пра ўнясенне зменаў у Крымінальны кодэкс, Крымінальна-выканаўчы кодэкс, Крымінальна-працэсуальны кодэкс, дзе проста скасоўваецца артыкул, што прадугледжвае смяротнае пакаранне.

«Але ўсё гэта патрабуе волі ад кіраўніцтва краіны. Увядзенне мараторыя альбо скасаванне смяротнага пакарання непасрэдна залежыць ад Лукашэнкі. Цяжка сказаць, чаму ён трымаецца за смяротнае пакаранне. Магчыма, з-за таго, што большасць беларускага грамадства ўсё яшчэ падтрымлівае ідэю наяўнасці смяротнага пакарання, — мяркуе Валянцін Стэфановіч. — Магчыма, Лукашэнка зыходзіць з таго, што гэта непапулярна сярод ягонага электарату, ягоных выбаршчыкаў. Дарэчы, апошнія апытанні НІСЭПД паказваюць, што менавіта сярод прыхільнікаў Лукашэнкі найбольш прыхільнікаў захавання смяротнага пакарання. То бок, прыхільнікі скасавання смяротнага пакарання — гэта не электарат Лукашэнкі».

Беларусь застаецца апошняй краінай у Еўропе, нават на постсавецкай прасторы, дзе дагэтуль ў якасці меры пакарання ўжываецца расстрэл. «Калі ўлады сапраўды будуць жадаць нейкім чынам упісацца ў агульнаеўрапейскі кантэкст і хаця б мець сяброўства ў Савеце Еўропы (бо Беларусь, апроч усяго іншага, не ўваходзіць у СЕ, у адрозненне ад Расіі, Азербайджана ды іншых краінаў былога Савецкага Саюза), то яны будуць змушаныя адмяніць смяротнае пакаранне ці ўвесці на яго мараторый. Бо гэта абавязковая ўмова сяброўства ў Савеце Еўропы. Я асабіста лічу, што рана ці позна Беларусь усё ж увядзе мараторый ці скасуе смяротнае пакаранне», — падсумаваў Валянцін Стэфановіч.

Значная частка беларускага грамадства сваё стаўленне да смяротнага пакарання ў той час, калі ішло змаганне за захаванне жыцця фігурантам справы пра выбух у мінскім метро Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву. Вялікая колькасць людзей не паверылі ў аб'ектыўнасць следства і суда. Нягледзячы на дзясяткі тысяч подпісаў пад заклікам не забіваць хлопцаў, маладзёнаў расстралялі.

ГАДАВІНА

## УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ПАЎСТАНЦАЎ

**Арцём ЛЯВА**

**22 студзеня пасол Рэспублікі Польшча Лешэк Шарэпка, генеральны консул у Гродна Анджэй Хадкевіч, прадстаўнікі амбасадаў Літвы і Латвіі наведалі помнікі Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту у горадзе Свіслач, а таксама магілу Віктара Каліноўскага.**



Менавіта 22 студзеня, 150 гадоў таму быў агучаны маніфест з патрабаваннем дэмакратызацыі і незалежнасці, пачаліся фармавацца паўстанцкія атрады.

Паездку ў Свіслач ініцыявалі польскія дыпламаты. Удзельнікі мерапрыемства запалілі знічкі і ўсклалі вянкі да помнікаў.

Да мерапрыемства далучыліся сябры незалежнага Саюза палякаў Беларусі, некалькі мясцовых актывістаў, журналісты. З Мінску ўшанаваць паўстанцаў прыехалі прадстаўнікі аргкамітэта па адзначэнні Года Каліноўскага кіраўнікі Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч і Юрась Губарэвіч, а таксама старшыня камітэта «Салідарнасць» Іна Кулей.

Ніхто з мясцовых чыноўнікаў, якіх таксама запрашалі прыняць удзел ва ўшанаванні памяці ўдзельнікаў вызвольнага паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, так і не з'явіўся. Яны раптам пахварэлі.

«У нашым грамадстве шмат людзей ужо лічаць Кастуся Каліноўскага адной з галоўных постацяў пантэона нацыянальных герояў. Ёсць і такія, якія азіраюцца на Маскву і ўспрымаюць сваю краіну як «Северо-западный край» Расійскай імперыі. Улады, відаць, яшчэ баяцца Каліноўскага, бо ён як рэвалюцыянер — кепскі прыклад для «аазіса стабільнасці». Відавочна, што афіцыйная ідэалогія не вытрымлівае простых выпрабаванняў, бо яна заклікае любіць дзяржаўны лад, а не сваю гісторыю, мову і культуру», — пракаментаваў адсутнасць прадстаўнікоў беларускіх уладаў Аляксандр Мілінкевіч.

Мясцовы актывіст незалежнай суполкі імя Братоў Каліноўскіх, сябра партыі БСДГ Віктар Дзісяцік лічыць 22 студзеня сапраўдным святам: «Я тут нарадзіўся, тут нарадзіліся і жылі такія змагары, як Каліноўскі і Траўгут. Іх ушанаваць прыехалі людзі з Гродна, Мінска. Таму мне вельмі прыемна прысутнічаць на гэтым мерапрыемстве. Мы са свайго боку ўвесь час займаемся ўпарадкаваннем сядзібы ў Якушоўцы, помнікаў у Свіслачы. Хачу шчыра падзякаваць за падтрымку нашай дзейнасці ў гэтай справе Асамблеі, Фонду Сапегі, партыі БСДГ.»

«У XIX стагоддзі палякі змагаліся некалькі разоў за незалежнасць: паўстанне Касцюшкі, Лістападаўскае паўстанне… Паўстанне ў студзені 1863 года было хоць і вельмі трагічным, але гэта стварыла міф пра гераічную барацьбу нашых народаў у цяжкіх варунках. Важна, каб сёння, праз 150 гадоў, моладзь памятала пра самаахвярны подзвіг мінулых пакаленняў, якім коштам дасталася тая Свабода», — падкрэсліў генеральны консул Польшчы ў Гродна Анджэй Хадкевіч.

Цікава, што помнікі Рамуальда Траўгута і Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы недарэчна суседнічаюць з помнікамі Леніну і Сталіну.

КАНФЕРЭНЦЫЯ

## ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ СТАЛІНІЗМУ

**Марат ГАРАВЫ**

**Напрыканцы лютага ў Мінску адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя па праблемах пошуку ў Беларусі месцаў згубы ахвяраў сталінізму і ўвекавечвання іх памяці.**

Такое рашэнне было прынятае 23 студзеня ў Мінску на чарговым пасяджэнні грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» па прапанове даследчыка гісторыі палітычных рэпрэсій 1920–1950-х гадоў Ігара Кузняцова.

Да ўдзелу ў канферэнцыі будуць запрошаныя гісторыкі і краязнаўцы, грамадскія дзеячы і палітыкі, мастакі і літаратары, а таксама прадстаўнікі дзяржаўных структур.

Па прапанове сябра суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў Алеся Цыркунова да канферэнцыі будзе падрыхтаваная адмысловая мастацкая выстава.

Свае меркаванні пра ўдзел ў канферэнцыі і назвы тэмаў запланаваных выступаў можна накіроўваць на электронны адрас memorial.bel@gmail.com

Наступнае пасяджэнне грамадскай ініцыятывы адбудзецца 31 студзеня.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЛІЧЫЦЕ ВАШЫЯ ГРОШЫКІ!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Не паспеў яшчэ заціхнуць маленькі скандал пра тое, як Белстат «скарэктаваў» ВУП у больш прымальны для кіраўніцтва краіны бок, як цяпер — новыя паказчыкі. Беларускія ўлады да канца 2012 года не проста выканалі, а нават перавыканалі даручэнне Аляксандра Лукашэнкі забяспечыць сярэдні па краіне месяцовы заробак на ўзроўні 500 долараў ЗША.**



Як паведамляе Белстат, налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў у снежні 2012 года склала 4.741.282 рублі і павялічылася на 11,7% у параўнанні з лістападам 2012 года. У доларавым эквіваленце заробак у снежні дасягнуў 553 долараў (па афіцыйным курсе на 1 студзеня 2013 года).

Верыць Белстату ці не верыць? Што такое «налічаны заробак»? Ці тое гэта, што трапляе ў нашыя гаманцы і кішэні? І на што мы гэты заробак трацім?

Як паведамляе той жа Белстат, збольшага сваю «дабаўку да бюджэту» Беларусы трацяць не так, як хацелася б уладзе. Прыкладам, на алкаголь.

Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у студзені-верасні 2012 года рэалізацыя гарэлкі павялічылася на 2,3% у параўнанні з такім жа перыядам 2011-га. Прададзена 8 млн. 965,2 тыс. дэкалітраў гарэлкі, яе доля ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю склала 49,7% (у студзені-верасні 2011 года — 44,9%).

Дык што, трэба даваць грошы толькі тым, хто не п'е?

Тым, хто не п'е, грошы даюць і без беларускай дзяржавы.

Беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі, які адбывае цяпер турэмны тэрмін, ізноў з'яўляецца прэтэндэнтам на прэстыжную сусветную прэмію. Гэтым разам ён прэтэндуе на штогадовую ўзнагароду брытанскай арганізацыі Index on Censorship («Індэкс цэнзуры») у намінацыі «Адстойванне пазіцыі».

«Алесь Бяляцкі з'яўляецца выбітным праваабаронцам, які прысвяціў сваё жыццё дапамозе ахвярам парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі», — гаворыцца ў паведамленні «Індэкса цэнзуры».

Штогадовая прэмія свабоды выказвання «Індэкса цэнзуры» сёлета будзе ўручацца ў 13-ы раз. Ею адзначаюцца журналісты, блогеры, анлайн-актывісты, праваабаронцы і мастакі, якія змагаюцца супраць цэнзуры ў любых яе праявах па ўсім свеце. «Гэта людзі, якія знаходзяцца на своеасаблівай «лініі фронту» барацьбы за свабоду слова; ім даводзіцца адчуваць гвалт, пагрозы і зняволенне за сваё перакананні, — гаворыцца ў заяве арганізацыі. — Адзначаючы іх дасягненні, мы спадзяемся звярнуць увагу сусветнай супольнасці да пагрозаў свабодзе выказвання, якія існуюць у сённяшнім свеце, — ад наўпраставай цэнзуры, скрыцця пераследу і празмернага ўжывання заканадаўства да анлайн-цэнзуравання, рэлігійнага і культурнага ціску, а таксама браку доступу да інфармацыі».

Разам з Алесем Бяляцкім на ўзнагароду ў намінацыі «Адстойванне пазіцыі» сёлета прэтэндуюць 15-гадовая актывістка за правы на адукацыю Малала Юсафзай з Пакістана, брытанская ініцыятыва «Hillsborough Family Support Group» і моладзевы рух «Girifna» з Судана. «Сёлетнія намінанты — гэта людзі, якія выявілі надзвычайную мужнасць у выказванні сваіх поглядаў, барацьбе з цэнзурай і несправядлівасцю, шмат хто з іх робіць гэта ў вельмі складаных умовах», — адзначыла выканаўчы дырэктар «Індэкса цэнзуры» Кірсці Х'юз.

Лаўрэаты прэміі будуць вызначаныя на гэтым тыдні. Уганараванне адбудзецца ў Лондане 21 сакавіка.

Але ўсіх у турму не перасаджаеш, каб не піліі. Таму зараз, акурат у год беражлівасці, нас будуць вучыць падлічваць свае прыбыткі і супастаўляць іх з выдаткамі. У Беларусі зацверджаны план дзеянняў дзяржаўных органаў і ўдзельнікаў фінансавага рынку па павышэнні фінансавай адукаванасці насельніцтва на 2013–2018 гады.

Згодна з планам павышэння фінансавай адукаванасці, будуць ажыццяўляцца «меры па развіцці культуры фінансавых паводзінаў насельніцтва», якія пачынаюцца з планавання сямейнага бюджэту, у тым ліку на працяглую перспектыву.

Паводле плана, грамадзяне павінны мець хаця б мінімальнае ўяўленне пра рызыкі і прыбытковасць, працэнтныя стаўкі, інфляцыю, адрозненне паміж наяўнымі і безнаяўнымі плацяжамі, іпатэку, прынцыпы функцыянавання фінансавага рынку, прыроду і функцыі фінансавых інстытутаў, фінансавыя інструменты. Таксама павінна быць разуменне пачаткаў юрыдычнай і падатковай адукаванасці, валоданне мінімальным фінансавым слоўнікам.

Акрамя таго, лічаць ва ўрадзе і Нацбанку, людзям неабходныя і ўменні чытаць дамову, разумець інфармацыю, што ўтрымліваецца ў ёй, параўноўваць прапановы розных фінансавых установаў, здольнасць падлічыць, колькі давядзецца плаціць па крэдыце, і шмат чаго іншага. У сувязі з гэтым пад фінансавай адукаванасцю насельніцтва ў дакуменце разумееца здольнасць грамадзян эфектыўна кіраваць асабістымі фінансамі, ажыццяўляць улік выдаткаў і прыбыткаў хатняй гаспадаркі, кароткатэрміновае і доўгатэрміновае фінансавае планаванне.

Планам прадугледжанае фінансавае навучанне моладзі, навучанне на месцы працы, праца са СМІ, іншыя інфармацыйна-тлумачальныя праграмы. Будуць праведзеныя даследаванні шляхам сацыялагічных апытанняў, анкетаванні па вымярэнні даступнасці фінансавых паслуг для насельніцтва і малога прадпрымальніцтва. Штогод будуць зацвярджацца планы ўзаемадзеяння са СМІ ў пытаннях асвятлення дзяржаўнай эканамічнай палітыкі.

Але баюся, калі Нацбанк і ўрад навучаць усё насельніцтва падлічваць свае грошы, адбудзецца адваротны эфект, як з жанчынай, якая на роўным месцы пасярод гіпермаркета заенчыла: «Рабуюць!». Калі ў яе спыталі, што здарылася, яна адказала: «На працы з мяне вылічваюць падаткі, у краме я плачу падатак на дададзеную вартасць, а іншым разам яшчэ і акцызы, і як да мяне гэта дайшло, то я і не стрымалася».

Больш верагодна, што, падлічыўшы свае сямейныя бюджэты і супаставіўшы кошты, беларусы зразумеюць, што танней жыць і зарабляць за межамі краіны. А калі ўсе пачнуць лаяцца за кардон і там размяшчаць свае грошыкі, з каго тады ўрад будзе браць падаткі і акцызы?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МІКАЛАЙ ЛУЗГІН



Нацбанк не бярэцца прагназаваць курс рубля ў 2013 годзе, бо цяжка зрабіць дакладны прагноз, заявіў першы намеснік старшыні Нацыянальнага банка Мікалай Лузгін.

Ён растлумачыў, што курс беларускага рубля фармуецца зыходзячы з рынкавых прынцыпаў, на яго дынаміку ўплывае мноства фактараў. У прыватнасці, курс беларускага рубля залежыць ад ваганняў курсу долара і еўра, іх суадносінаў, а спрагназаваць гэтыя курсы не можа практычна ніхто, перадае БелаПАН.

«Мы ўжо пэўны перыяд не публікуем і не агучваем афіцыйных прагнозаў курсу беларускага рубля да долара і іншых валют, — сказаў Мікалай Лузгін. — Ніхто не ведае, які будзе курс долара да еўра або да расійскага рубля праз пэўны перыяд, а гэта таксама будзе ўплываць на курс беларускага рубля, таму што ў нас прывязка да кошыка з трох валют. Не назаву лічбы, які будзе курс праз квартал ці праз год. Думаю, што ў нас захаваецца адносна стабільная сітуацыя, паколькі на гэты год у нас запланаваная і значна меншая інфляцыя».

Мікалай Лузгін падкрэсліў, што ў гэтым годзе перад Нацыянальным банкам па-ранейшаму не стаіць задача штучна стрымліваць курсаўтварэнне, ён накіраваны на згладжванне рэзкіх ваганняў, захаванне стабільнай сітуацыі на фінансавым рынку.

Мікалай Лузгін лічыць, што, безумоўна, у гэтым годзе будуць нейкія зрухі ў курсе беларускага рубля. Раней «НЧ» пісаў пра прагнозы эканамістаў наконт курсу рубля ў бягучым годзе. Ацэнкі былі вельмі раскідзістыя: ад 8950 да 14000 рублёў за долар на канец года.

### ВАДЗІМ ГІГІН



20 студзеня ў філіяле Расійскага дзяржаўнага сацыяльнага ўніверсітэта прайшла канферэнцыя «Польскае шляхецкае паўстанне 1863 года. Погляд на падзеі праз 150 гадоў». Як паведамляе «Наша ніва», нешматлікія ўдзельнікі імпрэзы рабілі ўсё, каб «разбіць на дробныя кавалкі легенду пра Каліноўскага як нацыянальнага героя Беларусі». Асабліва адзначыўся галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка», апалагет цяперашняга палітычнага рэжыму Вадзім Гігін. Ён заявіў, што легенду пра Каліноўскага стварылі бальшавікі, якім быў патрэбны сялянскі беларускі герой, а замацавалі яе ўжо ў 1990-я беларускія апазіцыянеры і нацыяналісты, якіх новая ўлада змагла выціснуць з палітычнага поля ў культурнае.

Інтэрнэт-газета «Салідарнасць» прыводзіць прыклады таго, як рэпрэзэнтуюць постаць Кастуся Каліноўскага ў падручніках. Так у навучальным дапаможніку па гісторыі Беларусі для вучняў 10 класа Якава Трашчанка (2008 год) ёсць нават адмысловы параграф пад назвай: «Гістарыяграфічны міф пра Вікенція (Кастуся) Каліноўскага». Тлустым шрыфтам там вылучаная фраза: «Паводле этнічнай ідэнтыфікацыі, ён быў палякам і ніколі не даваў загадаў беларусам». І далей робіцца выснова: «Няжкіх аб'ектыўных падставаў для пертварэння В. Каліноўскага ў нацыянальнага героя беларускага народа не існуе». А ў наступным параграфе гэтага падручніка кат Каліноўскага — генерал Мураўёў — названы «таленавітым адміністратарам і арганізатарам».

### АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА



Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька аштрафаваны на тры базавыя велічыні судом Савецкага раёна Мінска «за ўдзел у несанкцыянаваным Мінгарвыканкамам вулічным пікетаванні», у ходзе якога «раздаваў мінакам улёткі».

Як распавёў БелаПАН палітык, адпаведнае паведамленне пра рашэнне суда, прынятае 15 студзеня, ён атрымаў па пошце 22 студзеня. «Дарэчы, мяне самога забылі запрасіць на судовае пасяджэнне. Я б не адмовіў сабе ў задавальненні прысутнічаць на такім абсурдным працэсе, у ходзе якога высвятляецца, што любая раздача інфармацыйнага матэрыялу трапляе пад дзеянне Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях», — сказаў палітык.

Лябедзька паведаміў, што пратакол аб учыненні адміністрацыйнага правапарушэння таксама быў складзены без яго прысутнасці.

«Інфармацыйныя матэрыялы, у тым ліку пра пазіцыю партыі ў дачыненні да дзяржаўнай прыватызацыі, раздавалі 19 снежня ля Камароўскага рынку ў Мінску. Ні я, ні іншыя актывісты АГП не былі затрыманыя, хаця нас і здымаў на відэакамеру чалавек у цывільным. Толькі пазней мне прыслалі факс пра неабходнасць з'явіцца ў РАУС, але я таксама факсам паведаміў, што не змагу гэта зрабіць з прычыны хваробы», — распавёў ён.

ГЕАПАЛІТЫКА

# ПРЫЦЭЛ НА ЗАХАД

Вольга ХВОІН

**Напрыканцы мінулага года Беларусь актывізавала перамовы з дыпслужбамі краін ЕС. У студзені заходні кірунак дыпламатычнай працы актыўна працягваецца. Тым не менш, якія б пазітыўныя прэс-рэлізы не рассылала МЗС Беларусі — галоўная перашкода на шляху нармалізацыі знешнепалітычных узаемаадносінаў не прыбраная.**



Уладзімір Макей

Цягам снежня Уладзімір Макей сустрэўся з шасцю пасламі краін ЕС, з прадстаўніком Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Гунар Віганд, які летась заяўляў пра магчымасць пашырэння спісу персон нон-грата на тэрыторыі Еўрасаюза.

18 студзеня неўязны ў краіны Еўрасаюза міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей правёў рабочую сустрэчу з кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў дзяржаў-сябраў Еўрапейскага саюза, Ватыкана, ЗША і Швейцарыі. «У ходзе гутаркі быў абмеркаваны шырокі круг пытанняў, якія тычацца стану і перспектываў развіцця беларуска-еўрапейскіх адносінаў у шматбаковым і двухбаковым фарматах», — паведаміла прэс-служба МЗС Беларусі.

Прайшлі ў Мінску і беларуска-літоўскія кансультацыі паміж МЗС па праблематыцы «Усходняга партнёрства» на ўзроўні начальнікаў дэпартаментаў міністэрстваў замежных спраў дзвюх краін. З беларускага боку ў кансультацыях прыняў удзел начальнік упраўлення агульнаеўрапейскага супрацоўніцтва Раман Раманоўскі, з літоўскага — дырэктар дэпартамента Усходняга суседства Эдмінас Багдонас і амбасадар па асаблівых даручэннях Вайдотас Вярба. Літоўская дэлегацыя таксама была прынятая намеснікам міністра замежных спраў Беларусі Аленай Купчынай.

«У ходзе кансультацый бакі абмеркавалі пытанні развіцця сумеснай ініцыятывы Еўрапейскага саюза і краін — суседзяў ЕС «Усходняе партнёрства», у тым ліку падрыхтоўку да віленскага саміту УП у лістападзе 2013 года ў кантэксце будучага старшынства Літвы ў Еўрапейскім саюзе», — паведамляе прэс-служба знешнепалітычнага ведамства Беларусі. Пры гэтым дарадца прэзідэнта Літвы па замежных справах Йовіта Нелюпшэне заявіла журналістам у Вільнюсе, што на саміт «Усходняга партнёрства» ў літоўскую сталіцу прадстаўнікоў афіцыйнага Мінска літоўскі бок запрашаць не мае намеру.

Відавочна, беларускія ўлады не пакідаюць спробаў аднавіць дыялог з Захадам, што можа пазітыўна паўплываць на перамовы з фінансавымі інстытуцыямі, у чым найперш і зацікаўленае беларускае кіраўніцтва. Аднак на фоне негатовасці да змены ўнутранага палітычнага рэжыму гэтыя перамовы могуць застацца на ўзроўні ўжо знаёмых «арэляў» — калі ўзаемаадносіны паміж Беларуссю і ЕС вызначаюцца не доўгатэрміновай стратэгіяй, а бягучым станам справаў. Цяпер жа наяўнасць унутры краіны палітвязняў ніякім чынам не спрыяе зруху адносінаў у палітычны бок.

Пры гэтым Аляксандр Лукашэнка мяркуе, што ЕС не зацікаўлены ў паляпшэнні адносінаў ды навязвае неабгрунтаваныя прэтэнзіі да Беларусі. Хаця, як на тое будзе добрая воля еўракамісараў, то чаму б і не сесці за стол перамоваў.

Еўрасаюз цяпер крыху змяніў публічную палітыку з дачыненні да Беларусі. І замест візітаў высокапастаўленых асобаў у Беларусь для перамоваў на найвышэйшым узроўні прапануе пачаць перамовы наконт візавай падтрымкі і перагляду пагадненняў з тым, каб спрасціць беларусам наведванне краін ЕС. (Хаця на гэтым тыдні Беларусі наведваў «адстаўны чыноўнік» — былы віцэ-прэзідэнт Еўрапейскай камісіі прафесар Гюнтэр Ферхойген, яганы візіт у краіну, якая не становіцца на шлях дэмакратызацыі, аналітыкі не лічаць пазітыўным крокам як для палітыка).

Але нагадаем, што афіцыйны Мінск відавочна не зацікаўлены ў спрашчэнні працэдуры наведвання. Ад 2010 года падпісаныя пагадненні пра малы памежны рух насельніцтва з Польшчай і Літвой. Польскі бок завяршыў усе неабходныя працэдуры ў 2010 годзе, Літва — вясною 2012-га. Беларусь жа дагэтуль не паведаміла, што выкананая яе частка працы і што можна ўводзіць спрошчаны рэжым перамяшчэння праз мяжу. Аналітыкі, дыпламаты гавораць, нібыта на актывізацыю працэсу ўплывае «палітычны фактар». Цяпер у Беларусі дзейнічае пагадненне пра малы памежны рух насельніцтва толькі з Латвіяй.

Палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі гаворыць, што цяпер узаемаадносіны Беларусі і Еўрасаюза даволі непрадказальныя. З аднаго боку, усё той жа аўтарытарны рэжым, з іншага — апеляцыя да агульначалавечых каштоўнасцяў, што не надта ўспрымаецца кіраўніцтвам Беларусі. Але калі ідзе працэс, то мусіць быць і нейкі вынік. «Будзе выкананая галоўная ўмова — вызваленне палітвязняў і рэабілітацыя, то можна будзе гаварыць пра аднаўленне стасункаў, пра годную прысутнасць Беларусі на віленскім саміце «Усходняга партнёрства». Без гэтага руху наперад не можа быць, а дадумваць нешта цяпер бессэнсоўна. Не варта паддавацца на Макееўскія байкі, якія ён распавядае замежным дыпламатам», — папярэджвае Раман Якаўлеўскі.

Цяпер Еўрасаюз і ЗША прымяняюць санкцыі ў дачыненні да 243 фізічных асобаў і 32 прадпрыемстваў Беларусі.

РАЗВАЖАННІ

# ЯК ПРАПІЯРЫЦЬ ДЫКТАТУРУ?

Сяргей ПУЛЬША

**Беларусь, здаецца, стала такім «салодкім лохам» для замежных піяршчыкаў. На гэтай глебе раз-пораз узнікаюць скандалы. То нам спрабуюць уцюхаць другагатунковы і маральна састарэлы брэнд Мінска «Think Minsk», то да нас заварочваюць «на гадзінку» нейкія лорды Бэлы. Мэта ў іх адна — стрэсці як мага больш грошай пры як мага меншых працоўных затратах.**

У панядзелак Аляксандр Лукашэнка прыняў чатырох амерыканскіх даследнікаў. Імі былі прэзідэнт Джэймстаўнскага фонду Глен Говард, супрацоўнік таго ж фонду Улад Сокар, Януш Бугайскі з Цэнтру стратэгічных і міжнародных даследаванняў і прафесар Рэдфардскага ўніверсітэту Грыгорый Ёфэ.

Як сказаў пасля гутаркі Грыгорый Ёфэ, яна цягнулася дзве гадзіны, і, як заўсёды, анічога новага Аляксандр Лукашэнка гасцям з ЗША не распавёў. «Асноўным мэсэджам Аляксандра Лукашэнкі падчас сустрэчы было тое, што Беларусь вельмі хоча ўраўнаважыць сваю знешнюю палітыку, яна вельмі хоча мець нармальныя стасункі з ЗША, хоча, каб да яе ставіліся з павагай, як да незалежнай дзяржавы, яна не збіраецца ні з кім сябраваць ні супраць Расіі, ні супраць Амерыкі, што санкцыі абсурдныя, і гэта шмат хто пачынае разумець», — распавёў Ёфэ «Радыё Свабода».

Але ж амерыканцы не проста так трапілі на прыём да прэзідэнта — да яго з вуліцы не зойдзеш. Тут была патрэбная моцная падрыхтоўчая праца. Ды і сам беларускі прэзідэнт павінен быць зацікаўлены ў сустрэчы. А ў чым яганая цікавасць?

Ускосна на гэтае пытанне адказаў Ёфэ, распавёўшы, што з боку іншых удзельнікаў сустрэчы былі «не столькі пытанні, колькі выступы». У прыватнасці, Глен Говард казаў, што беларускія ўлады павінны навучыцца піяру, каб адбіваць у заходнім друку бессэнсоўныя і часта беспадстаўныя паведамленні, якія маюць варожы характар адносна Беларусі. Таксама ён казаў, што пазіцыя Джэймстаўнскага фонду палягае акурат у тым, каб супрацьпаставіць тэндэнцыйнай інфармацыі інфармацыю больш узважаную.

Януш Бугайскі, аказалася, асабіста ведае міністра замежных спраў Польшчы Радаслава Сікорскага і шматлікіх іншых прадстаўнікоў польскага палітычнага істэблішменту. Ён разумее, што з Беларуссю трэба будаваць сувязі, бо інакш могуць быць вельмі моцна падарваныя эканомікі Літвы, Латвіі і Усходняй Польшчы. І Бугайскі лічыць усіх гэтых заўзятых праваднікоў дэмакратыі «крыху страціўшымі розум».

То бок, прадстаўнікі заходняга боку казалі Лукашэнку тое, што ён жадае пачуць, і высвятлілі ягоную пазіцыю па найбольш праблемных пытаннях у міжнароднай сферы. Усё гэта выглядае на тое, што адбыліся «агледзіны» новых піяршчыкаў і лабістаў Беларусі на міжнароднай арэне.



Прафесар Рэдфардскага ўніверсітэту Грыгорый Ёфэ

Тады ўсё становіцца на свае месцы: і казкі пра «навучыцца піяру», і пра тое, як адбіваць негатыўныя публікацыі ў заходнім друку, і прысутнасць там «сябры» Сікорскага з яганым «асабістым веданнем польскага палітычнага істэблішменту». Знайшліся ахвочыя прысмактацца да кармушкі, ад якой адышоў лорд Бэл. Сітуацыя выглядае да камічнага люстэркава.

Лорд Цімаці Бэл з'яўляецца ў Беларусі 13 сакавіка 2008 года. І адразу пачынае сваю дзейнасць з сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, дзе абяцае распрацаваць план мерапрыемстваў па паляпшэнні іміджу нашай краіны на міжнароднай арэне. У жніўні 2008-га беларускі ўрад і «Bell Pottinger» падпісваюць кантракт. Ні тэрміны яго дзеяння, ні сума кантракту не агучваецца, але сам Бэл кажа, што на Беларусі ён заробіць мільёны долараў.

Неўзабаве пасля гэтага пачалося пацяпленне паміж афіцыйным Мінскам і Захадам. Часам паляпшэнне адносінаў прыпісвалася намаганням Цімаці Бэла, аднак ніякіх рэальных доказаў гэтага не было. Падчас узаемаадносінаў Беларусі з лордам Бэлам Лукашэнка даў некалькі інтэрв'ю замежным СМІ. Зноў жа, падчас партнёрства з Бэлам Беларусь даведалася, што ў прэзідэнта ёсць Коля Лукашэнка. Гэта, бадай, самы істотны вынік працы брытанскага піяршчыка.

У жніўні 2009 года беларускі ўрад адмовіўся працягнуць кантракт з «Bell Pottinger». А ў снежні 2012 года кіраўнік «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін выклаў у інтэрнэце квартальную справаздачу Бэла наконт зробленай ім працы. Інакш, чым прафанацыяй, гэтую справаздачу не назавеш.

Прыкладам, у якасці працы, зробленай па пункце дасягнення дыялогу з ЕС, Бэл прыводзіць свае сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, Наталляй Пяткевіч і на той час міністрам замежных спраў Сяргеем Мартынавым. Гэта ўсё роўна, каб працоўны ў якасці доказу выкананай працы прывёў бы ў прыклад сваю размову з кіраўніцтвам. Супрацоўнікі яганай фірмы правялі шэраг перамоваў з высокімі дыпламатычнымі асобамі ЕС і Вялікабрытаніі на прадмет прызнання парламенцкіх выбараў у Беларусі 2008 года. Але частка з гэтых асобаў, па-першае, не называецца (што ставіць пад сумненне сам факт перамоваў), а па-другое, вынікаў перамовы не далі. Ну і далей у такім жа стылі.

За сваю дзейнасць (хутчэй за яе імітацыю) Бэл атрымаў мільён долараў з 10 запланаваных.

Цяпер на месца Бэла прэтэндуюць новыя піяршчыкі. Але ці будзе ад іх хоць нейкая карысць?

Яшчэ раней старшы эксперт Інстытута дзяржаўных ідэалогій (Лондан) Наталля Лешчанка пісала, што піяр-агенцтвы наўрад ці здолеюць палепшыць імідж дзяржавы. «Хаця шматлікія піяр-агенцтвы з задавальненнем падпісваюць дзяржаўныя кантракты, вынік іх працы выяўляецца мінімальны… Піяр-агенцтвы прызначаны прадаваць прадукт, выбіраючы адну яго важную характарыстыку і накіроўваючы яго на пэўны сегмент аўдыторыі, што можна схіліць да пакупкі. Дзяржавам жа патрабуецца шматбаковае асвятленне сярод шырокіх грамадскіх масаў — а піяр-агенты, будучы замежнікамі, не валодаюць дастатковай экспертызай для разумення сутнасці пытання ў кожнай асобнай краіне. У выніку дзеяння піяр-агенцтваў аказваюцца аддзеленыя ад рэальных падзей ва ўрадзе і краіне з усімі іх асаблівасцямі і адметнымі рысамі: піяр асобна, урад асобна. Пакінуць працу з заходнімі аўдыторыямі на піяр-агенцтва — усё роўна, што даверыць запуск касмічнага карабля аўтамеханіку», — кажа Лешчанка.

ПРАБЛЕМА

# РАМЕСНІКІ — ГЭТА АМАЛЬ АЛІГАРХІ

Вольга ХВОІН

**Рамеснікі Беларусі збіраюць подпісы пад зваротам да заканатворцаў. Нагодай ёсць змены ў дзеёнае заканадаўства пра выплаты дапамогі на дзяцей.**

Новы год прынёс эканамічныя цікавосткі. Праўда, рост цэн і змяненне падыходу ў выплатах на дзяцей пазітыўнага водгуку ў грамадстве не знайшлі. У папярэднім нумары НЧ мы пісалі пра адмену дадатковых выплатаў для маці-адзіночак, што выклікала шырокую дыскусію ў грамадстве. Яшчэ адным спрэчным момантам новага закона стаў пералік катэгорый дэкрэтніц, якім абрэзалі выплаты на дзяцей на 50 працэнтаў — у іх лік патрапілі індывідуальныя прадпрымальнікі, адвакаты, рамеснікі ды іншыя.

Апошнім часам у краіне пачало развівацца рамесніцтва. Вырабы ручной працы — як то для інтэр'ераў, вопратку ці ўпрыгожванні — можна без праблем набыць на адмысловых кірмашах ці праз інтэрнэт, якія наблізілі рамеснікаў да патэнцыйных пакупнікоў. Рамеснік раз на год плаціць пошліну ў памеры адной базавай велічыні (цяпер гэта 100 тысяч рублёў) і можа легальна прадаваць вырабы, створаныя сваімі рукамі.

Лічыцца, што рамесніцтва не прыносіць шалёных прыбыткаў і ёсць хутчэй «узаконеным перад дзяржаваю хобі», гаворыць рамесніца Зоя Прышывалка. «Безумоўна, людзі спрабуюць нешта рабіць і прадаваць. Але зразумела, што мы не ІП і не плацім вялікіх падаткаў дзяржаве. Я сваім вязаннем зарабляю на тое, каб акупіць матэрыялы і быць задаволенай прыбыткам. Ёсць больш дарагія віды рамесніцтва з дарагімі матэрыяламі, і чалавек можа хіба што выходзіць у нуль. Як толькі ўсё гэта пачалося, то я пайшла і забрала дакументы на афармленне рамесніцтва. Праўда, улетку я выйду з дэкрэтнага і планую займацца гэтым надалей. Цяпер я проста стамілася, дый спробы дзяржавы такім чынам пераразмеркаваць грошы мне не падабаюцца. Трэба яшчэ разумець, што калі сур'ёзна займаешся рамесніцтвам, то крадзеш час ці ў сябе, ці ў сваіх дзяцей, выкройваеш яго са свайго сну... Гэта насамрэч праца, а не занятак ад няма чаго рабіць», — распавядае пра рамесныя справы Зоя Прышывалка.

Жанчыны-рамесніцы, шматлікія з якіх знаходзяцца ў дэкрэтным, маюць намер сабраць 5 000 подпісаў да заканатворцаў.



«Па сутнасці, мы і так з'яўляемся досыць уразлівым ва ўсіх сэнсах пластом насельніцтва, а тут яшчэ і закон, які ўдарыў не толькі па мамах у прыватнасці, але і па прэстыжы дзяржавы ў цэлым: бо рамеснікі — гэта не проста людзі, захопленыя хобі (пра заробак з рамесніцтва казаць не даводзіцца, у нас у краіне пакуль яшчэ не склалася паважлівае стаўленне да ручной працы, гэта хобі і творчасць, а не спосаб зарабіць), гэта яшчэ і тыя, хто адраджае беларускі фальклор і побыт, гісторыю, і паказвае гэта ў сваіх працах новаму пакаленню, замежнікам, якія з захапленнем разглядаюць вырабы беларускіх майстрых. Гэта людзі, якія ўдзельнічаюць у беларускіх і замежных выставах, прадстаўляючы нашую краіну, паказваючы яе самабытнасць і індывідуальнасць. Дзяржава павінна падтрымліваць такія імкненні, а не секчы іх на пні, выдаючы падобныя законы. Шматлікія рамеснікі і таленавітыя майстрыхі зрабіліся такімі менавіта ў дэкрэтных адпачынках... А зараз большасць матуль проста спыняць рамесную дзейнасць, мы можам страціць адораных майстрых. Замест таго, каб ствараць, мы руйнуем ручную працу, якая вось толькі-толькі пачала падымацца з каленяў», — гаворыцца ў звароце з просьбай адмяніць новаўвядзенні ў заканадаўстве.

«Я катэгарычна супраць новаўвядзенняў у закон «Аб дзярждапамогах...»! Менавіта ў дэкрэтным адпачынку я захапілася сваім хобі. Яно стала для мяне велізарнай аддушынай, але не ў матэрыяльным, а ў маральным плане. Праз некалькі гадоў хобі стала маёй асноўнай працай, я зарэгістраваная і як ІП, і як рамесніца плачу добрыя падаткі ў бюджэт нашай краіны. Гэтым новаўвядзеннем Вы літаральна забараняеце жанчыне афіцыйна захапляцца чым-небудзь! Пазбаўляеце права зарабіць зусім невялікія грошы сваёй руплівай працай у такі нялёгкі для любой жанчыны перыяд, як нараджэнне дзіцяці!» — абураецца майстрыха Анастасія Арыновіч.

Што да жанчын — індывідуальных прадпрымальнікаў то, як і ў выпадку з рамеснікамі, новаўвядзенні зробяцца стымулам для сыходу ў ценявы сегмент эканомікі для некаторых, хто меў намеры легалізаваць сваю дзейнасць. Напрыклад, цяпер на інтэрнэтпляцоўках аўкцыёнаў можна знайсці шмат абвестак наконт продажу тавараў, што прывозяць з-за мяжы. Вельмі часта такім гандлем займаюцца жанчыны, якія знаходзяцца ў дэкрэтным па доглядзе за дзіцём. «Наезд» дзяржавы на дзіцячыя выплаты выклікаў моцнае абурэнне і нежаданне саступаць — лепш заставацца ў цяні, чым узаконіць сваю дзейнасць ды даць магчымасць дзяржаве зэканоміць на дзецях.

АДУКАЦЫЯ

# ЛЕПШ ПАЕДУ Я Ў САРБОНУ

Сяргей ПУЛЬША

**Хуткім часам у Беларусі ў чарговы раз вырастуць кошты за навучанне. Тым, хто збіраецца паступіць у ВНУ ў 2013 годзе, варта ўжо зараз шукаць грошы. Адукацыя і так была не таннай, але цяпер падаражэе яшчэ.**




Па словах міністра адукацыі Сяргея Маскевіча рост кошту навучання ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах звязаны з павелічэннем з 1 студзеня 2013 года тарыфнай стаўкі першага разраду. «Натуральна, што ўслед за павелічэннем тарыфнай стаўкі першага разраду павінны вырасці і заробкі прафесарска-выкладчыцкага складу. А значыць, плата за навучанне будзе пераглядацца», — заявіў у інтэрв'ю газеце «Звязда» Сяргей Маскевіч.

Аднак, па яговых словах, стаўка павышэння кошту за навучанне яшчэ не ўсталяваная — пакуль няма інфармацыі пра каэфіцыенты да тарыфных разрадаў, таму, па словах міністра, з дакладнымі лічбамі вызначыцца праблематычна.

Але ў нашых умовах адукацыя і так нятанная. Паводле інфармацыі Мінадукацыі, у 2012–2013 навучальным годзе кошт платнага навучання на дзённай форме ў ВНУ складае ад 7 млн. 153 тыс. рублёў ($830) да 14 млн. 950 тыс. рублёў ($1740).

Лідарам у кошце за навучанне з'яўляецца Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт: менавіта там максімальная аплата на першым курсе $1850. І толькі крышачку ад яго адстае БДУ з максімальнай аплатай $1750 за год навучання. Між іншым, прыватныя навучальныя ўстановы Мінска прапануюць сярэдні кошт года навучання ў $1300.

З аднаго боку — грошы не такія ўжо і вялікія, асабліва калі верыць Белстату, што сярэдні заробак у Беларусі перасягнуў мяжу ў 500 «зялёных» і ўпэўнена рухаецца надалей. З іншага, як ні дзіўна, кошт за навучанне ў Беларусі дасягае еўрапейскага альбо расійскага ўзроўню, а вось заробкі за такім узроўнем не паспяваюць.

У сярэднім, за такія грошы можна навучацца і ў Маскве. Безумоўна, у Маскве ёсць МГУ, дзе кошт навучання — $10000 і ВШЭ за $12000. Але ж у знакамітай «баўманцы» кошт гадавога навучання ўсяго ў два разы перавышае БДУ — $3670 за год. А Нацыянальны даследчы ядзерны ўніверсітэт «МІФІ» і таго менш: $3050. Пагадзіцеся, лепш мець дыплом «баўманкі», чым БДУ.

Дарэчы, можна ў Маскве знайсці навучанне і па беларускіх коштах: год навучання ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце дызайну і тэхналогіі каштуе $1715.

Каму не падабаецца Масква, можна ехаць у Пецярбург. Там кошты крыху ніжэйшыя за маскоўскія, але ў цэлым супастаўляльныя — ад $2570 у піцерскім палітэху да $1830 у дзяржаўнай хіміка-фармацэўтычнай акадэміі СПБ.

Але, на жаль, не супастаўляльныя у нас заробкі з маскоўскімі альбо з піцерскімі. Калі ў нас $600 лічыцца высокім заробкам, то там за такую суму нават вуліцы месці наўрад ці пойдуць. Таму там і працуюць дворнікамі таджыкі.

Больш за тое, расійскія спецыялісты пры ўсім гэтым кажуць, што маскоўскія кошты на навучанне — занадта высокія! Што рост кошту навучання ў Расіі істотна апярэджвае тэмпы росту цаны адукацыі ў заходніх краінах, і гэта пагражае тым, што ўжо зусім хутка Расія зойме першае месца і ў спісе самых дарагіх універсітэтаў свету.

Крыху лепшае становішча для нас ва Украіне. Планку ў $2000 за навучанне там перагінаюць толькі знакамітыя і магістральныя ВНУ. Прыкладам, год навучання ў Кіеўскім нацыянальным універсітэце імя Тараса Шаўчэнкі каштуе $2230. Крыху больш у Кіеўскім Міжнародным універсітэце — $2260. Знакаміты Нацыянальны універсітэт «Кіева-Магілянская Акадэмія» прапануе год навучання за $2160.

Але нашыя грамадзяне чамусьці не любяць Кіеў. Некалькі маіх сяброў навучалася ва Украіне — і ўсе чамусьці ў Львове. Можа, з-за коштаў? Львоўскі нацыянальны ўніверсітэт імя Івана Франка — $1080 за год навучання, Львоўскі інстытут банкаўскай справы Універсітэта банкаўскага справы Нацыянальнага банка Украіны (Нацбанка Украіны — гэта вам не абы-што!) — усяго $920 за год! А на Львоўскі інстытут эканомікі і турызму можна ўвогуле зарабіць за два месяцы працы — $700 за год.

Значна працей беларусам з Літвой. Там існуе выгнаны з нашай краіны Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт, які прапануе навучанне, у тым ліку і платнае. Кошт за год навучання на асобных спецыяльнасцях ЕГУ даходзіць да 2500 еўра. Але гэта — самы максімальны кошт. У ЕГУ аплата навучання дыферэнцыяваная. Туды можна патрапіць і на бясплатнае навучанне, і на навучанне за 600 еўра, і за 1200 еўра, і за 1700. Так што выбар можна зрабіць заўсёды.

Дарэчы, не трэба пужацца і Еўропы. Відавочна, першымі ў спісе ўніверсітэтаў, што абдзіраюць студэнтаў і іх бацькоў, як ліпку, з'яўляюцца Кэмбрыдж (да $47000) і Гарвард (да $40000). Але можна знайсці і «бюджэтныя» варыянты. Напрыклад, Вышэйшая палітэхнічная школа Цюрыха (Швейцарыя), якая ўваходзіць ў першую дваццатку рэйтынга лепшых навучальных установаў свету прапануе навучанне усяго за $1200! Мюнхенскі тэхнічны ўніверсітэт просіць за год навучання $1800, а Сарбонскі ўніверсітэт (Францыя) — $1500 па максімуме.

Так што кошты за навучанне ў нас, у адрозненне ад заробкаў, еўрапейскія. І тут, выбіраючы месца навучання, варта падумаць яшчэ пра адну рэч. Літва, Украіна, Расія, не кажучы ўжо пра іншыя еўрапейскія краіны, з'яўляюцца ўдзельніцамі Балонскага працэсу. Гэта значыць, што дыпломы іх універсітэтаў прызнаюцца ва ўсіх краінах — удзельніцах гэтага працэсу, а такіх на дадзены момант 47. Беларусь жа да Балонскага працэсу не далучылася, і нават самы лепшы дыплом БДУ будзе выглядаць «фількінай граматай» перад самым горшым інстытутам Украіны альбо Расіі.

Так што лепш вучыцца ў Сарбоне за тыя ж грошы.

СМУТАК

# ПАМЯЦІ МІХАСЯ ЧАРНЯЎСКАГА

Аляксей КАРОЛЬ

**Ранішні званок Уладзіміра Арлова 20 студзеня прынёс мне скрушную навіну: памёр Міхась Чарняўскі. Вестка пра смерць блізкага чалавека заўсёды аглушае. У яе цяжка паверыць. Цяжка сабрацца з думкамі. Цяжка нешта вымавіць. А сказаць абавязкова трэба. І сказаць услых. Для ўсіх.**



Фота Арцёма Лявы

З той, галоўнай, прычыны, што Міхась Чарняўскі — асоба, чые словы і справы ўжо паўплывалі на развіццё беларускага грамадства, але не страцілі сваёй дзейснай актуальнасці. Гэтай справе ён прысвяціў усё сваё жыццё, аднак яна, на жаль, яшчэ не атрымала свайго лагічнага завяршэння.

Навуковец — гісторык, археолаг. Пісьменнік. Палітык. Грамадскі і культурны дзеяч. Гэта ўсё пра яго.

І ўсе гэтыя азначэнні лёгка абагульняюцца пад адно: Міхась Чарняўскі — выбітны асветнік і дзеяч Беларускага Адраджэння канца XX — пачатку XXI стагоддзя. Адзін з яго архітэктараў, яго творцаў.

Свядома абраны шлях. Не скажу, што са школы, бо не ведаю, але дакладна — са студэнцкіх часоў, пра што чуў ад яго. «Нічога сур'ёзнага, — з уласцівай яму тонкай іроніяй, жартаваў Міхась. — Так, асцярожна прашчупвалі адзін аднаго на інтарэс да беларушчыны, на жаданне размаўляць на беларускай мове. Своеасаблівая нефармальная кампанія, гуртoк, клуб па інтарэсах. Нацыянальная самаадукацыя. Праўда, падпольная. Таму, што добра ўсведамлялі, чым пагражае абвінавачванне ў нацыяналізме».

Сведкам аднаго з драматычных эпізодаў у яго біяграфіі, звязаных менавіта з нефармальнай дзейнасцю на ніве беларушчыны, мне давялося быць. А менавіта, з эпізодам па справе той самай групы, што пасля атрымала назву «акадэмічны асяродак» і была кваліфікавана КДБ і партыйным кіраўніцтвам краіны як «нацыяналізм» (1973–1974 гады).

Я толькі пачынаў свой шлях у навуку ў аспірантуры Інстытута гісторыі Акадэміі навук, а Міхась ужо быў старшым навуковым супрацоўнікам. І вось — сход працоўнага калектыву: інфармацыя кіраўніцтва пра выкрыццё групы нацыяналістаў. Што ўразіла — патрабаванні «крыві» Міхася Чарняўскага ў іх выступах не было. Як не было ў рэзалюцыі і патрабавання аб яго звальненні. Думаю, не з прычыны разумення нацыянальных прыярытэтаў, ад якога тагачасны склад навукоўцаў быў яшчэ вельмі далёкі, а з павагі да Міхася Чарняўскага. Яго звольнілі на год па рашэнні бюро ЦК Кампартыі Беларусі на чале з Машэравым. У чымсьці таксама вымушаным — пад ціскам з Масквы.

Ужо пазней, калі мы шчыльна супрацоўнічалі з Міхасём на палітычнай глебе, а менавіта, аднаўлення беларускай сацыял-дэмакратыі, я меў магчымасць пераканацца, як яго паважалі людзі самых розных поглядаў і пазіцый. І аднадумцы, і праціўнікі. Такім шчырым і добразычлівым ён быў у адносінах з людзьмі. Ён меў бясспрэчны маральны і інтэлектуальны аўтарытэт — для ўсіх, з кім зводзіў яго лёс, на ўсіх этапах жыцця і дзейнасці. Не выпадкова менавіта яму Ларыса Геніюш даверыла на захаванне сваю «Споведзь», якая была апублікаваная ўжо ў час палітычных пераменаў у Беларусі.

Археалогія была пакліканнем Міхася Чарняўскага. Але адначасова і інструментам у справе беларускага Адраджэння. Прычым, ці не адзіна легальным у савецкіх умовах. Праз навуковыя і папулярныя працы, мастацкія творы ён адкрываў Беларусь старажытную. А калі сталася магчымым, першы адкрыў нам і тэму антысавецкага супраціву. «Як пошуг маланкі» — кніжка пра Расціслава Лапіцкага — абрынула савецкі міф аб палітычнай еднасці савецкага рэжыму.

З навуковай сцяжыны Міхась ніколі не сыходзіў, нават ужо хварэючы, выбіраўся ў археалагічныя экспедыцыі. Планаваў іх і на гэтае лета. Але калі адчуваў мэтазгоднасць, якую вызначаў выключна па крытэры магчымай карысці беларускай справе, не гойдаючыся з галавой акунаўся ў практычную палітыку. Быў у ліку сябраў арганізацыйнага камітэта Беларускага народнага фронту. І ён жа першы падчас працы ўстаноўчага з'езду БНФ у Вільні (24 чэрвеня 1989 г.) выказаў ідэю неабходнасці адраджэння сацыял-дэмакратыі ў Беларусі. Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, потым Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Паклаў шмат высілкаў і нерваў на аб'яднанне сацыял-дэмакратыі. На жаль, пакуль не атрымалася.

Вярнуся да асветніцкай дзейнасці Міхася Чарняўскага. Мяне натхнялі яго станоўчыя ацэнкі «Новага часу» і прымушалі да роздуму крытычныя. Апошнім разам Міхась патэлефанаваў мне ў кастрычніку мінулага года, пасля чарговай выпіскі са шпіталя. З хваробаў сваіх жартаваў, ахвотна дзяліўся планамі. Прапанаваў нам да друку свой нарыс-успамін «Пра Максіма Танка і Ларысу Геніюш». 9 лістапада мы надрукавалі яго ў «Новым часе».

Мы аднаўляем нарыс на сайце. Перачытваем. Ён не толькі пра Танка і Геніюш. Ён яшчэ і пра самога Міхася. Пра наша мінулае з марай пра свабодную будучыню. Здабыткі Міхася Чарняўскага застаюцца ў практычным арсенале беларускага дэмакратычнага адраджэнскага руху.

З НАГОДЫ

# МІХАСЬ ЧАРНЯЎСКІ: «НІБЫТА МЫ ЗНІКЛІ З БЕЛАГА СВЕТУ...»

22 студзеня ў Доме смутку дэмакратычная Беларусь развіталася з Міхасём Чарняўскім. Правесці яго ў апошні шлях прыйшлі вядомыя літаратары, навукоўцы і грамадскія дзеячы. Ветэраны і моладзь беларускага адраджэння, паплечнікі і сябры, калегі і вучні. Сярод іх: Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў, Алесь Разанаў, Мікола Купава, Алесь Шатэрнік, Юрась Хадыка, Алег Трусаў … Сотні людзей, якія падзялялі жыццёвую пазіцыю Міхася Чарняўскага — змаганне за нацыянальныя каштоўнасці, вольную і незалежную Беларусь.

Труна патанала ў кветках. Жалобныя гукі дуды знакамітага музыкі, заснавальніка і кіраўніка ансамбля «Стары Ольса »Зміцера Сасноўскага рвалі душу, але ж і супакойвалі: волат адраджэння, як называлі Міхася выступоўцы, сышоў і застаецца. Сваім словам, сваімі справамі.

Міхась Чарняўскі стаяў ля вытокаў новай хвалі адраджэння з 1960-х гадоў. Пра той перыяд яго жыцця і дзейнасці яшчэ ў 2003 годзе падрабязна распытаў яго вядомы журналіст і літаратар Сяргей Шапран. Свой матэрыял ён прапанаваў НЧ.

**Аляксей Кароль**



Сяргей ШАПРАН

1960-я гады ў БССР паступова ліквідаваліся беларускія школы і беларускамоўны друк, нават беларускую літаратуру пачыналі вывучаць па перакладах на рускую мову. «Становішча ж у Акадэміі навук Беларусі могуць тлумачыць такія факты, — пісаў Міхась Чарняўскі ў артыкуле «Акадэмічны асяродак», — дырэктар Інстытута мовазнаўства не ўмеў гаварыць па-беларуску, тым больш не карысталіся беларушчынай дырэктары іншых навуковых інстытутаў, навуковая літаратура за рэдкімі выключэннямі друкавалася па-руску. І такая антыбеларуская завядзёнка практыкавалася ва ўсіх акадэмічных структурах».

Адкрытая антыбеларуская палітыка не магла не выклікаць незадавальненне і пратэстныя настроі ў пэўнай частцы беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку той, якая працавала ў Акадэміі навук Беларусі. У пачатку 1960-х у асяродку маладых навукоўцаў і аспірантаў сфармавалася кола людзей, якія былі незадаволеныя палітыкай КПСС. Аднак рух гэты не быў арганізаваным — ніякіх спісаў не існавала, пратаколы не вяліся, пісьмовыя рашэнні не прымаліся.

«Проста мы хацелі захаваць беларускую мову, нашу культуру і аўтэнтычнасць ва ўмовах абсалютнай русіфікацыі, — прыгадваў Міхась Чарняўскі. — Мы не хацелі нікога звяргаць. Нават рухам гэта можна назваць толькі ўмоўна».

Дарэчы, вызначэнне «акадэмічны асяродак» з'явілася значна пазней — самі яго ўдзельнікі так сябе не называлі. Больш за тое, многія нават не былі знаёмыя адзін з адным. Аднак практычна кожны так ці інакш кантактаваў з аднадумцамі па-за межамі Акадэміі навук — з групай студэнтаў-філфакаўцаў ці курсантаў МВІЗРУ, з нефармальным аб'яднаннем «На паддашку». Да таго ж мелі зносіны з апальнай паэткай Ларысай Геніюш, гісторыкам Міколам Ермаловічам, вядомым настаўнікам Алесем Белакозам ды іншымі выбітнымі асобамі, якія жылі па ўсёй Беларусі. Адной з самых знакамітых фігур «нацыяналістычнага руху» быў Уладзімір Караткевіч.

У «акадэмічным асяродку» было некалькі асобаў, пра якіх практычна ніхто нічога не ведаў. Перад імі была пастаўленая задача застацца на волі ў выпадку магчымага разгрому руху і арышту, каб яны маглі перадаць усю вядомую ім інфармацыю тым, хто ў далейшым падтрымае ідэю беларускага адраджэння.

Міхась Міхайлавіч распавядаў:

— Мы збіралі любую вусную і друкаваную інфармацыю — успаміны, кнігі і часопісы пераважна віленскага выдання ці часоў Інбелкульта. Дзеля гэтага ездзілі па вёсках і мястэчках Заходняй Беларусі, дзе, паводле нашых звестак, яшчэ жылі старыя настаўнікі, дзеячы Грамады і КПЗБ. Асабліва ўдалымі былі экспедыцыі да віленскіх букіністаў. Тое, што здабывалася, нярэдка памнажалася фотаспосабам ці на друкарскіх машынках, перадавалася сябрам і знаёмым, студэнтам. Даволі часта арганізоўваліся сустрэчы з ветэранамі Беларускага Адраджэння. У асноўным яны праходзілі на кватэры Язэпа Сушынскага, удзельніка 1-га Усебеларускага кангрэса 1917 г. У іншых выпадках збіраліся ў пакоях аспіранцкага інтэрната на вуліцы Акадэмічнай ці інтэрната для навуковых супрацоўнікаў на вуліцы Сурганава. Даволі часта сустракаліся на кватэры Уладзіміра Караткевіча. Абмяркоўвалі пытанні палітычнага і нацыянальнага жыцця, прагаворвалі магчымыя шляхі ўздзеяння на сітуацыю…

І разам з тым шукалі аднадумцаў (у выніку, напрыклад, былі наладжаныя кантакты з украінскім нацыяналрухам), а таксама дапамагалі здольным вучням з беларускіх сем'яў атрымаць адукацыю, а выпускнікоў вну, у якіх былі патрыятычныя перакананні, стымулявалі да паступлення ў аспірантуру. Больш за тое, імкнуліся праводзіць «сваіх» людзей на важныя службовыя пасады і, разумеючы рэальную ролю КПСС у СССР, пераконвалі аднадумцаў уступаць у партыю (папулярны лозунг тых часоў: «Усе прыбалтыйскія нацыяналісты — камуністы»), хоць паводле ўласных перакананняў заставаліся антыкамуністамі і дэмакратамі. Тым не менш, свядома імкнуліся пазбегнуць абвінавачанняў у антыкамуністычных настроях, бо, як меркавалі, аднадумцаў не так ужо і шмат, таму не трэба раскідваць сілы на рашэнне агульнадэмакратычных задач — хай пра гэта турбуецца маскоўская інтэлігенцыя, беларусы ж павінны канцэнтравацца на пытаннях нацыянальных. Таму, напрыклад, падчас акупацыі Чэхаславакіі ў 1968 г. савецкімі войскамі беларускія «падпольшчыкі», пасля дыскусій і роздуму, вырашылі адмовіцца ад публічных акцый пратэсту…

У 1973 годзе «нацдэмамі» заняўся КДБ. Хваля рэпрэсій, быў перакананы Чарняўскі, прыйшла з Украіны, дзе ўжо поўным ходам ішоў разгром мясцовага патрыятычнага руху. Хоць, вядома, не апошнюю ролю адыграла і тое, што ў шэрагах беларускага руху былі стукачы. Аднак ніводнага прозвішча Чарняўскі нам так і не назваў. Ён толькі казаў:

— У нашым аддзеле з дванаццаці чалавек стукачамі былі трое. Яны бывалі разам з намі на кватэры ў Язэпа Сушынскага. Аднак, ведаючы, па якой прычыне яны прыйшлі, ні пра што мы асабліва стараліся не гаварыць. Гэта як ваўкі і статак паўночных аленяў — яны заўсёды разам, і алені ведаюць ваўкоў па мордах. Таксама і мы ведалі стукачоў у твар. Яны і цяпер жывыя, можа, толькі некаторыя памерлі… Калі ж нас павыганялі з працы, яны атрымалі ці павышэнне, ці замежныя камандзіроўкі, прычым нават у капіталістычныя краіны… Аднак цяжка пра гэта гаварыць, бо з многімі з іх мы былі знаёмыя ледзь не з дзяцінства. Некаторыя былі завербаваныя яшчэ ў студэнцкія гады, калі ўдзельнічалі ў падпольных арганізацыях — у тым жа беларускім патрыятычным руху. Наколькі разумею, менавіта таму іх і зламалі. А калі сістэма прымусіла чалавека хоць аднойчы пайсці на здрадніцтва, яна яго ўжо не адпускала. Калі запэцкаешся, пасля ўжо не адмыешся. Таму мне проста шкада іх. Тым больш, што некаторыя шчыра пасля працавалі на беларускую культуру. Можа, яны ад пачатку былі свядомымі беларусамі, а магчыма, рабіліся такімі пад нашым уздзеяннем. Напрыклад, адна дзяўчына, якая, па ўласным прызнанні, спецыяльна была прыстаўленая да нас, так і сказала: «Вы добрыя, хлопцы. Я вас не закладваю».

Працяг у наступным нумары

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 30 студзеня, серада

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрая раніца, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** «Усё шляхам!» Забаўляльная праграма пра турызм.
**12.50** Заўтра - гэта мы!
**13.20** Паразагрузка.
**14.00** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**16.20** Зямельнае пытанне.
**16.50** Тэлефільм АТН «Волаты зямлі Віцебскай» цыкла «Зямля беларуская».
**17.05** Медычныя таямніцы.
**17.30** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 22.50** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**23.15** Дзень спорту.
**23.30** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад». (ЗША-Канада).
**00.15** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здароўейка!» з Генадзем Малахавым.
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавека». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Вікторыя». Заключныя серыі.
**23.10** Камедыя «Оптам танней 2».
**00.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гадзіна суда з Паўлам Астахавым».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Менск і мінчукі».
**13.50** «Кіно»: Джэкі Чан у фільме «Даспехі Бога». Ганконг-Югаславія, 1986 г.
**15.35** «Жывая тэма».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Тэатр». ЗША-Канада-Вялікабрытанія-Венгрыя, 2004 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Калі ласка, скардзіцеся».
**00.15** «Штурм свядомасці»: «Паляванне на экстрасэнсаў».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Наперад у мінулае.
**10.45** Дак.-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).
**11.45** Меладрама «Бальная сукенка».
**13.20** Фантастычна-прыгодніцкі фільм «Капітан Нэма» (СССР). 1-ая серыя.
**14.55** Камедыйны серыял «Деффчонки».
**15.30** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Дынама (Менск) - Трактар. Прамая трансляцыя.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**22.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Арсенал-.
**00.40** Камедыйны серыял «Деффчонки».
**01.05** Дак.-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весці.
**11.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Аб'ект 11».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Сонька. Працяг легенды».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчат». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** «Варажба пры свечках».
**22.15** «Адэса-мама».
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** «Планета Вавілон. Хронікі вялікай рэцэсіі». Фільм Кастуся Сёміна.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Таямнічая Расія».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Мужы».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыў «Пятровіч».
**21.20** Серыял «Самотны воўк».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Баявік «Брыгада».
**00.25** Вострасюжэтны серыял «Дэманы».

### Eurosport

**01.00** Аўта і Матаспорт.
**01.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Вікерсунд.
**02.15** Зімовыя віды спорту.
**02.30, 14.15, 15.00, 18.30, 19.45, 22.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**10.30** Аўта і Матаспорт.
**10.45** Алімпійскі часопіс.
**11.15** Зімовыя віды спорту.
**11.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Вікерсунд.
**12.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынства Аўстраліі - Фінал Мужчыны.
**13.45** Тэніс: «Матс пойнт».
**16.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынства Аўстраліі - Фінал Мужчыны.
**17.30** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. Групавы этап.
**23.00** Усе віды спорту.
**23.35** Ўсе віды спорту: Выбранае па серадах.
**23.40** Конны спорт.

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Чорным па белым.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Доктар Марцін», серыял: 4 серыя.
**11.00** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.10** Форум (ток-шоў).
**11.55** Студыя «Белсат».
**13.25** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**13.55** Аб'ектыў.
**14.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.35** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.05** «Доктар Марцін», серыял: 4 серыя.
**15.55** Форум (ток-шоў).
**16.40** «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 7 серыя.
**17.30** Асабісты капітал.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.00** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.25** Над Немнам (тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Маю права(юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Польская кухня», серыял: 4 серыя.
**22.50** Два на два (тэледыскусія).
**23.20** Невядомая Беларусь: «Прадвесне», дак. фільм, рэж. Юрый Стаюнічаў, 2011 г., Беларусь.
**23.50** Студыя «Белсат».
**01.25** Маю права(юрыдычная праграма).
**01.45** Аб'ектыў.
**02.15** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.30** «Калыханка» пекла Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 31 студзеня, чацвер

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрая раніца, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Дак. серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША). Фільм «Каляды ў Швейцарыі».
**12.55** Каробка перадач.
**13.30** Таямніцы следства.
**14.00** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**16.20** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**17.15** Тэлефільм АТН «Подых Чашніцкай зямлі» цыкла «Зямля беларуская».
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 22.50** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.45** Калыханка.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**23.20** Дзень спорту.
**23.30** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**00.15** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здароўейка!» з Генадзем Малахавым.
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавека». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Начныя ластаўкі».
**23.10** «На ноч глядзячы».
**00.05** Камедыя «Здохні, Джон Такер!».
**01.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Не хлусі мне!».
**10.05** «Калі ласка, скардзіцеся».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** «ТЭАТР». ЗША-Канада-Вялікабрытанія-Венгрыя, 2004 г.
**15.40** «Якія людзі!».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** «Кіно»: «Белае золата». ЗША-Расія, 2003 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Штурм свядомасці»: «Рай асуджаных».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы». (Канада).
**10.10** Вышэй дахі.
**10.45** Дакументальна-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).
**11.50** Цела чалавека.
**12.20** Фантастычна-прыгодніцкі фільм «Капітан Нэма». (СССР). 2-я і 3-я, закл., серыі.
**14.55** Камедыйны серыял «Деффчонки» (Расія).
**15.30** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Прыгодніцкі баявік «Крапавы берэт» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**20.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**22.35** Камедыйны серыял «Деффчонки» (Расія).
**23.05** Футбол.Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**00.00** Дак.-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весці.
**11.30** «ХА». Маленькія камедыі.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Аб'ект 11».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Сонька. Працяг легенды».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчат». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** «Варажба пры свечках».
**22.15** «Адэса-мама».
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** «Паядынак». Праграма Ўладзіміра Салаўёва.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Мужы».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыў «Пятровіч».
**21.20** Серыял «Самотны воўк».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Баявік «Брыгада».
**00.20** Вострасюжэтны серыял «Дэманы».

### Eurosport

**00.40** Навіны коннага спорту.
**00.45** Гольф: Тур PGA.
**01.45** Гольф: Гольф Клуб.
**01.50** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**01.55** Ўсе віды спорту.
**02.05** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**03.15** Ўсе віды спорту: Восьдык так!
**10.30** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**12.00, 16.15, 17.00, 21.15, 22.00** Снукер: прафесійны снукерны турнір - Дзень 2.
**15.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**20.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Маю права(юрыдычная праграма).
**08.55, 13.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40, 14.40** Праект «Будучыня».
**10.05** «Польская кухня», серыял: 4 серыя.
**11.15** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**11.25** «Прадвесне», дак. фільм, рэж. Юрый Стаюнічаў, 2011 г., Беларусь.
**11.55** Студыя «Белсат».
**13.35** Маю права(юрыдычная праграма).
**14.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**15.05** «Польская кухня», серыял: 4 серыя.
**16.15** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.25** Невядомая Беларусь: «Прадвесне», дак. фільм, рэж. Юрый Стаюнічаў, 2011 г.
**17.00** «Гадзіна гонару», серыял: 7 серыя.
**17.45** Маю права(юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx.
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял.
**22.30** «Кніга рэкордаў Шуткі», 2005 г., Сербія і Чарнагорыя-Чэхія-Славаччына.
**23.50** Студыя «Белсат».
**01.20** Рэпартэр.
**01.45** Аб'ектыў.
**02.15** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.30** «Калыханка» пекла Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №1 (77) (студзень)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



**КНІГАСФЕРА**

# ПРЫДУМАНА ПІСЬМЕННІКАМІ

## ДЗЕСЯЦЬ ІДЭЙ, ЯКІЯ З'ЯВІЛІСЯ Ў КНІГАХ, І ТОЛЬКІ ПОТЫМ БЫЛІ РЭАЛІЗАВАНЫ Ў ЖЫЦЦІ

**У свеце існуе шэраг рэчаў, якія перш былі апісаны ў кнігах — створаны-выдуманы пісьменнікамі, і толькі потым з'явіліся ў рэальным жыцці. Вось пералік найбольш вядомай дзясяткі «літаратурных адкрыццяў»:**



### Схема «адмывання грошай»

На думку novosti-literatury.ru, такая геніяльная злачынная схема была ўпершыню ўжыта ў «Мёртвых душах» Мікалая Гогаля. Галоўны герой паэмы Павел Іванавіч Чычыкаў, скупляючы «не існыя па факце» душы, але зафіксаваныя на паперы, паклаў аснову сучаснай практыцы «левых» замоў падрадным фірмам, калі па той жа схеме аплата робіцца за працу, выкананую толькі па дакументах.

### Падводная лодка

Ў 1869 годзе ў кнізе «20 000 лье пад вадой» Жуль Верн апісаў новы тып транспарту — падводную лодку. У тыя часы ідэя «глыбіннага карабля» толькі зараджалася, і яго «Наўтылус» стаў увасабленнем тэхнічнага прагрэсу. Гэта імя здабыло папулярнасць, а Верна сталі зваць «бацькам падводных лодак». І цяпер у гонар «Наўтылуса» называюць кампутары, электронныя прыборы, касмічныя апараты, а таксама рокгурты, рэстараны, гатэлі, спартовыя клубы і інш.

### Дэдуктыўны і іншыя метады раскрыцця злачынстваў

У сваіх апавяданнях пра Шэрлака Холмса Артур Конан Дойль апісаў многія метады крыміналістыкі, якія на час публікацыі кнігі яшчэ былі невядомыя паліцыі. Напрыклад — такія метады вышуку, як збор недакуркаў і попелу цыгарэт, ідэнтыфікацыя пішучых машынак і разглядванне ў лупу слядоў на месцы здарэння. У далейшым паліцыянты ўзялі на ўзбраенне і іншыя метады «вялікага» Холмса.

### Ідэя звышчалавека

Ідэю «звышчалавека» ў творы «Так казаў Заратустра» пазначыў нямецкі філосаф Фрыдрых Ніцшэ. Паводле гэтай ідэі, людзі былі не «вянком тварэння», а толькі правадырамі да вышэйшай расы звышлюдзей. Гэтая думка ў далейшым актыўна выкарыстоўвалася Адольфам Гітлерам, які ствараў фашысцкую філасофію, паводле якой падобнай вышэйшай расай з'яўлялася арыйская.

### Атамная бомба

Аўтарства дадзенага словазлучэння належыць ангельскаму пісьменніку-фантасту Герберту Уэлсу. Упершыню яно з'явілася на старонках яго навукова-фантастычнага рамана «Вызвалены свет», апублікаванага ў 1914 годзе. І гэта — за дваццаць гадоў да таго, як муж і жонка Жоліо-Кюры распавялі Французскай акадэміі навук пра атрыманне радыяцыйных атамаў фосфару. Досвед лёг у аснову вынаходства атамнай бомбы, упершыню ўжытай напрыканцы Другой сусветнай вайны ў 1945 годзе.

### Мабільны тэлефон і слухаўкі-«кропелькі»

Цяпер яны (навушнікі) з'яўляюцца паўсядзённым прадметам жыцця любога падлетка, а таксама і іхніх бацькоў. Слухаўкі-«кропелькі» ў выглядзе ідэі з'явіліся ў вядомай кнізе фантаста Рэя Брэдберы — «451 градус па Фарэнгейце». У раздзеле згаданага рамана «Агмень і саламандра» пісьменнік так апісаў сучасны гаджэт: «У вушах у яе шчыльна ўстаўлены мініяцюрныя «Ракавінкі», малюсенькія, з напарстак, радыёпрымачы-ўтулкі, і электронны акіян гукаў — музыка і галасы, музыка і галасы — хвалямі абмывае берагі яе бяссоннага мозга». Раман быў напісаны ў 1950 годзе, а апублікаваны ў 1953-м; да «галаўных мікрафонаў» — слухавак-навушнікаў нашага часу было вельмі далёка.

Ну а магчымасць гаварыць па тэлефоне ў грамадскім транспарце першым з беларусаў (і не толькі) убачылася Рыгору Барадуліну — калі той спазняўся і ў кватэры падымаў слухаўку гарадскога тэлефана, дык запэўніваў: «Хутка буду. Я ўжо з тралейбуса гавару…». А быў толькі пачатак «безмабільных» 1960-х…

### Байцоўскі клуб

У знакамітым «Байцоўскім клубе» Чака Паланіка аднайменная арганізацыя становіцца месцам, дзе з дапамогай сумленнай бойкі людзі могуць выплюхнуць свае эмоцыі. Ідэя падобнага клуба аказалася настолькі запатрабаванай, што пасля экранізацыі твора ў многіх гарадах свету з'явіліся яго падпольныя аналагі. Нямала з іх існуе і сёння.

### Рэкламная гульня слоў

Віктар Пялевін у «Generation П» упершыню супрацьпаставіў рускі квас папулярнай кока-коле, у выніку чаго нарадзіўся новы брэнд «Никола» са слоганам «Не кола для Николы!». Затым такая марка квасу сапраўды з'явілася на прылаўках крам. А яшчэ раней падобным чынам «літаратурны брэнд» Аляксея Дударава «Белыя росы» (згадайма вядомы фільм па сцэнарыю беларускага аўтара) пачаў «пералівацца» алкагольнай прадукцыяй у бутэлькі.

### «Шахматная сістэма»

У рамане «Поўдзень, XXII стагоддзе» братоў Стругацкіх згадваецца метад, які дазваляў зняць «копіі» мозгу і пабудаваць яго матэматычную мадэль. Ён называўся… сістэма «Каспара-Карпава». Дзіўна тое, што аповесць была апублікавана ў 1962 годзе, калі шахматысту Анатолю Карпаву было толькі 11 гадоў, а Гары Каспараў наогул яшчэ не нарадзіўся.

### Легальныя лахатроны

Аўтары «Аскетскай Расіі» Арцём Сенатараў і Алег Логвінаў у сваёй кнізе апісалі звычайныя аўтаматы папаўнення рахунку мабільных тэлефонаў, якія прапанавалі арыгінальную паслугу. Пасля занясення сродкаў, на экране прылады з'яўлялася прапанова згуляць у гульню «цот-лішка». У выпадку выйгрышу, занесеная сума падвойвалася, пройгрыш прыводзіў да страты ўсіх грошай. Рызыкоўныя гульцы «спускалі» ўсе грошы. Ідэя «ўкаранення» такіх аўтаматаў абмяркоўвалася ў рэчаіснасці, але з-за заканадаўчага абмежавання ігральнага бізнесу ў Расіі пакуль не прыжылася.

▸ ПАЛІЦА

# КАРАТКЕВІЧ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

**Брытанскае выдавецтва «Glagoslav Publications» выдала ў перакладзе на ангельскую мову Мэры Мінц аповесць Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха».**




«Аповесць класіка беларускай прыгодніцкай прозы — гэта містычны трылер на гістарычным фоне, — гаворыцца ў анатацыі кнігі на сайце выдавецтва. — З першых старонак чытач занураецца ў атмасферу цёмнага страху перад непазбежным. Яму не спатрэбіцца шмат часу, каб пачаць з трывогай суправаджаць Беларэцкага на балотах у сустрэчах з дзіўнымі асобамі, якія аказваюцца вар'ятамі ці напалоханымі або хаваюць нешта важнае, а часам і проста няшчаснымі».

Адзначаецца, што канва аповесці «ўключае і асабістую тэму сумных разважанняў аўтара пра лёс нацыі».

Як паведамляецца на сайце выдавецтва «Glagoslav Publications», кніга выдадзеная ў мяккім і цвёрдым пераплётах, ёсць таксама магчымасць купіць яе ў электронным выглядзе. Цана выдання ў цвёрдай вокладцы складае 25,5 фунтаў, у мяккай — 18,8 фунта, у электронным выглядзе — 9,95 фунта.

**ПрайдзіСвет**

▸ САЛІДАРНАСЦЬ

# СВЯТЫ БЕЗ ВОЛІ

**Прайшлі Калядныя і навагоднія святы. На жаль, не ўсе правялі іх у коле родных і блізкіх. Як і два беларускія літаратары, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Бяляцкі і Павал Севярынец (які 30 снежня адзначыў дзень нараджэння).**

Вязню Бабруйскай калоніі Алесю Бяляцкаму падрыхтавалі падарункі: радыё «Свабода» — кнігу Валера Каліноўскага «Справа Бяляцкага», канал «Белсат» — фільм пра дзейнасць «Вясны» (з падарункамі літаратар і праваабаронца азнаёміцца не змог). Цэнтральная постаць стужкі — Алесь Бяляцкі. Ён прысутнічае на архіўных здымках і кадрах кінахронікі, але ў фільме няма выказванняў самога Алеся, акрамя апошняга слова ў судовай зале. І ўсё ж ён звяртаецца да гледача — вуснамі сваёй жонкі, якая распавядае, чаму Алесь абраў у жыцці беларускі шлях, чаму заняўся абаронай людзей ад посткамуністычных улад, як паступова абвыкаў да думкі, што і сам стане ахвярай рэпрэсій, як жыў з усведамленнем непазбежнасці гэтага.

Палітвязню Паўлу Севярынцу, верніку праваслаўнай царквы, які адбывае тэрмін на «хіміі», было дазволена памаліцца ў царкве. Астатні расклад застаўся без зменаў, паведаміў «Свабодзе» Павал Севярынец: «Новы год і Нараджэнне Хрыстова сустракаў у камендатуры. Але на Раство адпускалі ў царкву, меў магчымасць быць на службе. Ну, а далей — 22.00, адбой і ніякіх, як кажуць, «паслабленняў» у гэтыя дні для «хімікаў» не робяць. Таму свята даволі сціплае — «хімія» ёсць «хімія». Але цягам дня запаліш свечку, памолішся і — свята. Свята ёсць свята»…


Алесь Бяляцкі


Павал Севярынец

▸ КОНКУРС

# ЧАРГОВЫ «ЭКСЛІБРЫС»

**ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і Беларускі ПЭН-цэнтр з 1 студзеня 2013 года абвясцілі пра пачатак прыёму твораў на Конкурс маладых пісьменнікаў «Экслібрыс» імя Янкі Маўра. У 2013 годзе спаўніцца 130 гадоў з дня нараджэння вядомага дзіцячага пісьменніка. А таму сёлета тэмай конкурса (які праводзіцца з 2011 года) абраная дзіцячая літаратура.**

Да разгляду конкурснага журы будуць прымацца творы для дзяцей у наступных жанрах: проза (апавяданні, казкі і г.д.), паэзія (вершы, байкі і г.д.), п'есы, тэксты песняў, коміксы, а таксама пераклады замежных дзіцячых твораў на беларускую мову.

Асаблівая ўвага будзе нададзеная:

- творам для падлеткаў;
- творам, у якіх апісаны цікавы сучасны вобраз героя/гераіні;
- творам з надзвычай арыгінальным сюжэтам;
- творам у незвычайных для беларускай літаратуры жанрах: комікс, графічны раман і г.д.;
- творам, якія пераасэнсоўваюць сюжэты і герояў класічных дзіцячых твораў.

Узяць удзел у конкурсе могуць пісьменнікі, літаратурныя крытыкі і перакладчыкі, не старэйшыя за 40 гадоў.

Журы конкурса: Алена Масла, Людміла Рублеўская, Алесь Пашкевіч, Пятро Васючэнка, Серж Мінскевіч.

Тэксты на конкурс можна дасылаць да 1 жніўня 2013 на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Конкурс». У лісце мусіць быць інфармацыя пра імя, прозвішча, дату нараджэння ўдзельніка/ў, іх кантактныя нумары тэлефонаў і e-mail.

Па выніках літаратурнага конкурса пройдзе вечарына ўзнагароджання, творы пераможцаў будуць надрукаваныя ў часопісе «Дзеяслоў» і дадатку «Літаратурная Беларусь», а іх саміх запросяць на літаратурны пленэр. Найлепшыя творы, дасланыя на конкурс, могуць выйсці асобнай кнігай.

**Прэсавая служба СБП**

▸ ПРЭМІІ

# ДЗМІТРЫ ПЛАКС УГАНАРАВАНЫ ШВЕДСКАЙ АКАДЭМІЯЙ

**Беларускі пісьменнік і перакладчык Дзмітры Плакс атрымаў узнагароду ад Шведскай акадэміі. Прэмія ў памеры 40000 шведскіх крон (каля $6000) яму прысуджаная за падтрымку шведскай культуры за мяжой.**



У каментары для БелаПАН Дзмітры Плакс адзначыў: «Гэту прэмію далі не за нейкі асобны твор, які я пераклаў, а за шматгадовую працу на ніве беларуска-шведскай культуры, за ўсё тое, што было мной зроблена для азнаямлення беларусаў са шведскай мовай, літаратурай, культурай. Вядома, прыемна атрымліваць такую прэмію, як і любую іншую. Але быць узнагароджаным Шведскай акадэміяй прыемна асабліва, бо акадэмія мае мэтай і задачай падтрымку мовы і літаратуры». На пытанне, на што плануе пісьменнік выдаткаваць атрыманыя грошы, ён адказаў: «Першае, што павінен купіць, гэта новы кампутар: мой якраз надаўна паляцеў, таму гэтыя грошы вельмі дарэчы. Напярэдзе святы, таму ёсць куды выдаткаваць грошы».

Дзмітры Плакс стала жыве ў Стакгольме ўжо амаль дваццаць гадоў. За гэты час добра вывучыў шведскую мову ды неаднаразова перакладаў вядомых шведскіх аўтараў на беларускую мову. У ягоным перакладзе выйшла, да напрыкладу, кніга «Піпі Доўгаяпанчоха» Астрыд Ліндгрэн, а зборнік паэзіі культавай шведскай аўтаркі Катарыны Фростэнсан па-беларуску быў адзначаны ў спісе намінантаў на прэмію часопіса «ПрайдзіСвет» за лепшую перакладную кнігу 2011 года.

Але спадар Плакс не толькі папулярызуе шведскую літаратуру за мяжой. Ён шмат перакладае беларускіх пісьменнікаў на шведскую мову. Дзякуючы яму ў Швецыі выйшлі дзве кнігі Барыса Пятровіча — «Фрэскі» і «Плошча», паэтычны зборнік Андрэя Хадановіча «Вольныя вершы». На шведскім радыё прагучаў зроблены Дз. Плаксам спектакль паводле аповесці Васіля Быкава «Афганец» (пераклад Нільса Хакансана). Цяпер рыхтуецца кніга Уладзіміра Някляева «Вяртанне Веры». У шведскай перыёдыцы рэгулярна з'яўляюцца творы іншых беларускіх аўтараў у перакладах спадара Плакса. Ён — аўтар арыгінальнай беларускамоўнай кнігі «Трыццаць тэкстаў».

Як стваральнік і нязменны кіраўнік беларускай службы «Радыё Швецыя» (2004–2009), літаратар шмат зрабіў дзеля пашырэння беларускай прасторы ў скандынаўскіх краінах і шведскай — на радзіме. Цяпер ён піша п'есы ды прадусіруе на «Радыё Швецыя» спектаклі пра знакавых асобаў розных краінаў свету. 14 лютага ў гэтым радыё-тэатры прагучыць ягоная п'еса пра Алеся Бяляцкага.

## ▼ ЛЮТАЎСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



03.02.1948 — Вячаслаў Іванавіч Зайцаў (Адам Выгодскі)
05.02.1948 — Фелікс Барысавіч Баторын
10.02.1943 — Міхаіл Аляксандравіч Тычына
12.02.1973 — Віталія Мікалаеўна Новікава (Багун)
13.02.1973 — Андрэй Валер'евіч Хадановіч
17.02.1928 — Уладзімір Максімавіч Дамашэвіч
18.02.1963 — Сяргей Анатольевіч Барысавец
18.02.1948 — Міхаіл Канстанцінавіч Міраговіч
20.02.1968 — Юрый Іванавіч Залоска
20.02.1928 — Мікалай Рыгоравіч Цялічка
20.02.1933 — Міхаіл Серафімовіч Шушкевіч
21.02.1938 — Ізяслаў Рыгоравіч Катляроў

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# ПРЭМІЯ ГЕДРОЙЦА

**У студзені быў абвешчаны лонг-ліст літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца. У спіс трапіла дванаццаць кніг.**

Сёлета на прэмію былі вылучаныя 43 кнігі, сярод якіх ёсць і раманы, і зборнікі нон-фікшн літаратуры.

У выніку лонг-ліст выглядае так:

- Сяргей Балахонаў, «Зямля пад крыламі Фенікса»
- Альгерд Бахарэвіч, «Гамбургскі рахунак Бахарэвіча»
- Адам Глобус, «Сказы»
- Алена Брава, «Рай даўно перанаселены»
- Паліна Качаткова, «Матылі»
- Уладзімір Някляеў, «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без»
- Андрэй Пакроўскі, «Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза»
- Алесь Пашкевіч, «Сімъ Побѣдиши»
- Людміла Рублеўская, «Авантуры Пранціша. Вырвіча, шкаляра і шпега»
- Юры Станкевіч, «Шал»
- Уладзімір Сціпан, «Адна капейка»
- Андрэй Федарэнка, «Ланцуг»

Літаратурная прэмія Гедройца заснаваная ў 2011 годзе, яе памер складае 105 мільёнаў рублёў.

Прэмія прысуджаецца штогод за найлепшую кнігу, якая была выдадзеная (у папяровым або электронным варыянтах) на беларускай мове ў жанрах «мастацкая проза», «эсэістыка».

Намінаванне праходзіць у тры этапы. Спачатку абвяшчаецца лонг-ліст прэміі (12 пазіцый), за ім — шорт-ліст (6 пазіцый).

Абвяшчэнне і ўшанаванне пераможцаў адбываецца 3 сакавіка 2013 году, у Міжнародны дзень пісьменніка. Сярод узнагародаў — магчымасць выдаць кнігу ў Польшчы, літаратурныя стыпендыі і запрашэнні ў еўрапейскія дамы творчасці.

ПАРТРЭТ

# «ЛЮБІЦЕ ПАЭТАЎ, ЛЮБІЦЕ...»

Алесь ЖУК

**З Рыгорам Семашкевічам пазнаёміцца мы былі проста асуджаны: я паступіў ва ўніверсітэт у тысяча дзевяцьсот шэсцьдзясят шостым годзе, а ў шэсцьдзясят сёмым Семашкевіч пасля свайго дырэктарства ў вясковай школе стаў аспірантам.**



Рыгор Семашкевіч. 1968 г.

Знаёмства адбылося на пасяджэнні Лойкавага «Узлёту», куды мяне прывёў Юрка Голуб. Аб'яднанне было паэтычным, і я хадзіў на яго паседжанні проста за кампанію. Вось там я і ўбачыў худзенькага акулярчыка, ніяк не падобнага на аспіранта, а болей на гэтакіх жа як і мы студэнтаў. Тады мы ўсе былі і маладыя і худыя. Семашкевіч не чытаў свае вершы, а разбіраў вершы ўзлётаўцаў. Ды і паседжанне праводзіў не Лойка, а ён. Семашкевіч ужо быў вядомы і прызнаны паэт, на наступны год у выдавецтве была запланавана яго першая кніга вершаў «Лесніčоўка», за якую ён быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў.

Пасля паседжання мы завіталі ў пакой у інтэрнаце на Свярдлова, які Семашкевіч дзяліў з Яўгенам Лецкам, таксама аспірантам. Не думалі мы, што гэты пакой стане адметным у нашым жыцці. Пасля таго, як Семашкевіч ажаніўся, месца ў інтэрнаце ён захаваў за сабою. Давялося і мне дажываць апошні год студэнцтва ў тым пакоі, бо пасля паўгадовай пераддыпломнай практыкі, у час якой я працаваў настаўнікам у вясковай школе ў Цеплені Уздзенскага раёна, я астаўся без месца ў інтэрнаце. У тым жа пакоі перабываў з намі зіму і Міхась Стральцоў з паламанай нагою. Ён тады перажываў самыя ліхія часіны ў сваім жыцці. У суседнім з намі пакоі жыў і будучы Бацька Рыгоравай вясёлай аповесці. Той рэальны Бацька часам і кампанію дзяліў з намі, не толькі крупнікі варыў.

Але ўсё гэта будзе потым, на прыканцы студэнцтва. А тады пакой быў для нас месцам, дзе мы маглі сабрацца кампаніяй, чытаць і Юркавы, і Рыгоравы вешы, дзяліцца ўражаннямі і прыдзірацца ледзь не да кожнага радка. Нам гэта было цікава. Вершы чыталі па паперы. А ўслых чыталася прачытанае ў зборніках, у часопісах, у газетах. І нашых, беларускіх, і рускіх. І кнігі, і часопісы нам былі даступныя. Тады былі шасцідзясятыя гады, была мода на паэзію. Паслухаць беларускіх паэтаў адвячоркамі людзі збіраліся і ля тэатра Юнага гледача, і ля былога кінатэатра «Навіны дня». Было і такое.

У нас, студэнтаў, літаратурнае жыццё што называецца кіпела. Акрамя Лойкавага «Узлёту» актыўна працавала літаб'яднанне пры «Чырвонай змене,» якім важна кіраваў сам Алесь Сяргеевіч Ставер, а пазней і Валянцін Лукша. Рэгулярна выходзілі літаратурныя старонкі, на якія можна было трапіць не толькі з паэзіяй, але і з прозай. Але і нас, творцаў, назбіралася даволі. Толькі філфак пастаўляў ледзь не тузін паэтаў. На нашым курсе вучыліся Юрка Голуб, Алесь Камароўскі, Іван Станкевіч, Леанід Радкевіч, Іван Клімянкоў, маладзей — Яўгенія Янішчыц, Алесь Разанаў, Віктар Ярац, Яўген Хвалей, а на старэйшых — Мар'ян Дукса, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Дзюба, Міхась Губернатараў, Генрых Далідовіч. А яшчэ старэй — Мікола Маляўка, Казімір Камейша, Генадзь Дзмітрыеў, Хведар Чэрня, Эдуард Зубрыцкі... Па памяці ўсіх не магу згадаць, урэшце, калі каго гэта зацікавіць, то перагартайце калектыўныя ўніверсітэцкія зборнікі. Першы «Падарунак» быў выдадзены ў 1958 годзе пад рэдакцыяй Міхася Ларчанкі і з прадмовай Івана Навуменкі. Наступны «Узлёт» у 1965 годзе быў складзены Алегам Лойкам. Пачынаецца ён вершам Рыгора Семашкевіча:

*Спакойныя, магутныя дубы,*
*Крыніца разам з птушкамі*
*шчабеча,*
*Прызыўны кліч ласіные трубы*
*Заве на баравое веча.*

Гэта была невялікая фарматам і аб'ёмам кніжачка, затое наступная — у 1967 годзе, — «Натхненне», была выдадзена раскошна, на мелаванай паперы, даволі аб'ёмная. У 1971-м выйдзе анталагічны зборнік «Універсітэт паэтычны», прымеркаваны да 50-годдзя БДУ. Потым будуць яшчэ «Вёсны» ў 1977 годзе — усё з той жа лёгкай рукі Алега Лойкі і дзякуючы яго клопату. Сведчаннем увагі філфакаўскіх выкладчыкаў да літаратурных пачаткоўцаў у мяне захоўваецца зборнік апавяданняў Івана Навуменкі «Хлопцы-равеснікі» з добрым пажадальным аўтографам студэнту-першакурсніку, датаваны 1966 годам.

Акрамя літаратурных аб'яднанняў не менш значнымі былі гуртаванні маладых вакол часопіса «Маладосць», дзе аддзелам паэзіі загадваў Мікола Аўрамчык, а для тых, хто ўжо пачаў, была падтрымка загадчыка аддзела паэзіі часопіса «Полымя». Рэдакцыі былі своеасаблівымі літаратурнымі клубамі, дзе маглі сустракацца пісьменнікі рознага ўзросту. Я ўжо не гавару пра сяброўскую падтрымку старэйшымі маладых. Мне давялося некалькі разоў пабываць на сяброўскіх пасядзелках на кватэры ў Анатоля Сцяпанавіча Вялюгіна, дзе часта бывалі Рыгор Семашкевіч і Юрка Голуб. Яны мелі свае стальныя рангі і званні. Семашкевіч чамусьці быў ахрышчаны Гамлетам, Голуб меў званне юнгі, Казімір Камейша — карнета, Рыгор Барадулін — боцмана. А сам Вялюгін ці не з лёгкай рукі Барадуліна насіў званне адмірала. Там бывалі і старэйшыя паэты, і артысты, і кіношнікі...

Рыгор Семашкевіч заявіў пра сябе як пра паэта на старонках рэспубліканскага друку ў 1959 годзе, у чатырнаццаць гадоў, і цяпер найперш успрымаецца як паэт. Але яшчэ са студэнцкіх часоў ён настойліва працаваў як даследчык, навуковец. Увага яго была скіравана на адметныя з'явы беларускага нацыянальнага руху, што ў тыя часы не асабліва віталася.

Яшчэ студэнтам ён напісаў навукова-даследчы нарыс «Браніслаў Эпімах-Шыпіла» пра вельмі адметную постаць у беларускім літаратурна-культурным адраджэнні ў Пецярбурзе. Кніга выйшла ў выдавецтве «Навука і тэхніка» ў 1968 годзе. Праз тры гады ім выдадзена даследаванне «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. (Канец XIX — пачатак XXст.)». Гэта грунтоўная работа аб'ёмам пад восем друкаваных аркушаў. Распрацоўваць тэму беларускага адраджэння Семашкевіч будзе і далей — пісаць пра стасункі Янкі Купалы і Браніслава Эпімахі-Шыпілы, пра «нашаніўскі» перыяд жыцця і творчасці Янкі Купалы. Да Купалы ў Рыгора Семашкевіа было сваё асабістае стаўленне як да генія не толькі нацыянальнай, але і сусветнай літаратуры. Была крыўда і горыч за тое, што ён «не данесены» не толькі свету, але нават і свайму народу, якому калі і вядомы, то не сапраўдны глыбінны, а павярхоўны, шарачковы. Пра ролю Ігната Буйніцкага ў станаўленні беларускага тэатра Семашкевіч напіша эсэ «Світка Буйніцкага». Яшчэ ў Рыгора Міхайлавіча была задума напісаць пра Алеся Бурбіса, цікавую і значную постаць у беларускім адраджэнні, які быў адным з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады, простым акцёрам у трупе Буйніцкага, сам паставіў некалькі спектакляў, пазней працаваў намеснікам наркома замежных спраў БССР. Ён збіраў пра яго матэрыялы ў архівах, і не толькі.

Аднойчы Семашкевіч паказаў мне копію матэрыяла з газеты «Звязда» пра пахаванне Алеся Бурбіса, які памёр у 1922 годзе. Яго труну пад жалобную музыку духавога аркестра неслі на руках з плошчы Свабоды на Старажоўскія могілкі, дзе і адбыўся жалобны мітынг. Пахаваны Алесь Бурбіс быў побач са Сцяпанам Булатам, што служыла Рыгору арыенцірам у пошуках магілы. Мы за дзень літаральна на каленях абпаўзалі ўжо даволі парушаныя Старажоўскія могілкі, знаходзілі амаль дашчэнту ўрослыя ў зямлю надмагільныя камяні пачатку дзевятнаццатага стагоддзя з надпісамі і на польскай мове, але ні адной, ні другой магілы не знайшлі. Потым у Семашкевіча з'явіліся звесткі, што прах Алеся Бурбіса і Сцяпана Булата быў перанесены на Вайсковыя могілкі. Мы абгледзелі і Вайсковыя могілкі, але магіл не знайшлі, затое на самым краёчку могілак, пры самым уваходзе, наткнуліся на зусім разбуранае надмагілле Усевалада Ігнатоўскага. Мы тады вырашылі, што тыя перазахаванні маглі быць «падрэзаны», калі пры пасляваеннай забудове Даўгабродскую пашыралі, ці, наогул, прах тых нацыяналкамуністаў і «нацдэмаў» ніхто нікуды і не перазахоўваў...

Навукова-даследчыцкая дзейнасць патрабавала працы ў архівах Вільні і Ленінграда, гарадах, якія Семашкевіч любіў. Вільню за тое, што гэта наша Вільня, а паўночную сталіцу за тое, што з ёй было звязана жыццё Анны Ахматавай.

Рыгор Семашкевіч пачаў літаратурны шлях з паэзіі. Паэзію ён ведаў, любіў, адчуваў. Чытаў яе многа, сваю, рускую, замежную, кола паважаных ім паэтаў было вялікае. Але Анна Ахматава займала ў ім асаблівае месца, яе ён проста абагаўляў. Мала таго, што ведаў усё даступнае надрукаванае, ён збіраў пра Ахматаву нават самыя дробязныя звесткі, якія з'яўляліся ў друку. Яго можна было пакрыўдзіць, адмахнуўшыся ад новае знаходкі пра яго ікону.

Для самое Анны Ахматавай такім святым быў Пушкін. Пачынаючы з 20-ых гадоў яна займалася сваім вывучэннем жыцця і творчасці Аляксандра Сяргеевіча, не спыняла гэту работу праз усё жыццё, намерваючыся выдаць кнігу пра Пушкіна. На жаль, рукапіс гэтай кнігі не захаваўся, аднак захаваўся складзены ёй «Змест» таго, што яна мелася ўключыць у кнігу. На аснове гэтага «Зместу» ў выдавецтве «Советский писатель» у Ленінградзе ў 1977 годзе выйшла кніга Анны Ахматавай «О Пушкине» з вельмі падрабязным навуковым каментаром.

Там да артыкула «Гибель Пушкина» быў змешчаны чарнавы тэкст верша, у якім яна і ў паэтычным варыянце віну за смерць паэта ўскладала на прыдворны свет, прыдворнае акружэнне цара і на самога Мікалая І.

*И отнять у них не возможно*
*То, что в руки они берут,*
*Хищно, бережно, осторожно*
*Как... меж ладоней трут.*

*..........поэта убили,*
*Николай правей, чем Ликург.*
*Через столетие получили*
*Имя — Пушкинский Петербург.*

Рыгор Семашкевіч тады якраз адпачываў у Каралішчавічах. Па тэлефоне я сказаў яму прыемную навіну пра кнігу, якая прыслана і яму з маскоўскай «Кнігарні пісьменніка». Прачытаў і ўразіўшы мяне строфы, дзе замест ненарматыўнай лексікі выдаўцам давялося ставіць шматкроп'е. Рыгор быў шакіраваны, што яго кумір магла зарыфмаваць такое. Як расказаў мне потым, вырашыў, што гэта мой розыгрыш, што я прачытаў яму не ахматаўскія радкі, і ўгаманіўся толькі пасля таго, як вечарам дазваніўся Алежку (так ён завочна ласкава называў Алега Лойку) і той развеяў яго сумненні.

Дзякуючы той захопленасці Семашкевіча Ахматавай у мяне на магнітафоннай стужцы застаўся жывы Рыгораў голас. У той час купіць вінілавую пласцінку Булата Акуджавы не заўсёды ўдавалася. У Рыгора пласцінка была, і я прыехаў да яго з магнітафонам перапісаць песні на стужку.

Праз многа гадоў, калі ў мяне ўжо былі нават вінілавыя альбомы з песнямі Акуджавы, я выпадкова ўключыў тую забытую магнітафонную касету і між песень пачуў хрыплаваты Рыгораў голас, які чытаў Ахматаву.

Працяг на стар. 12 (4) ▸

ПАРТРЭТ

# «ЛЮБІЦЕ ПАЭТАЎ, ЛЮБІЦЕ…»

◂ **Працяг.**
**Пачатак на стар. 11 (3).**

*Никого нет в мире неприютней*
*И бездомнее, наверно, нет.*
*Для меня ты словно голос лютни*
*Сквозь загробный призрачный*
*рассвет.*
*Я рукой своей тебя не трону,*
*Не взглянув ни разу разлюблю,*
*Но твоим невероятным стоном*
*Жажду наконец я утолю.*
*Ту, что до меня блуждала в мире.*
*Льда суровей, огненнее дня,*
*Ту, что и сейчас стоит в эфире, —*
*От нее освободи меня.*

Колькі маладой сілы, прагі, ненатоленасці жыццём у тым далёкім ужо голасе.

У паэзіі Рыгор Семашкевіч імкнуўся да засвоенай ад Анны Ахматавай дакладнасці і велічнасці сказанага словам:

*Спыніся далёкі ці блізкі, –*
*Тут маршалы нацыі спяць.*

Рыгорам Семашкевічам выдадзены два зборнікі — «Леснічоўка» і «Субота». Усё ў іх ёсць, пачынаючы з самых ранніх вершаў, што сведчыць пра дакладнае паэтычнае бачанне свету, натуральная прастата і яснасць, здзіўленне навакольным светам, найперш прыродай, ёсць і іронія, што немалаважна.

*Сад вартую, і не спіцца мне,*
*Дзіўнае начное наваселле.*
*У маім прасторным будане*
*Смачна пахнуць яблыкі і сена.*

*Цішыня у садзе шмат начэй…*
*Мо чакае хто гадзіны лепшай?*
*І сабака мой зусім здзічэў, –*
*Як на зоры, на ранеты брэша.*

*Спяць дарогі, вербы ля ракі.*
*Я не сплю. І ціхі сум і змора.*
*Хай бы ў сад залезлі хлапчукі,*
*Абтраслі і яблыні і зоры.*

Адчуваецца ўменне валодаць паэтычнай тэхнікай, жаданне паспрабаваць сябе ў розных вершаваных формах — і небяспаспяховае, — настойлівае намацванне галоўнай стрыжнявой тэмы і яе стылю.Таму паэт вельмі сур'ёзна адносіўся да культуры пісьма, да строгасці ў інтанацыі, дакладнасці напісанага слова. Нават у вершах Рыгора Семашкевіча яўна грамадзянскай накіраванасці святлееца пранізлівая лірычнасць. Паэзія немагчымая без дакладнасці ў слове.

Слова шукалася настойліва. Позні начны званок. У трубцы Рыгораў голас: «Сашок, ты не спіш? Слухай, не магу ўспомніць… Разумееш, асенні вечар, ужо цёмна. Цішыня, і толькі падвода чутна ў полі, калёсы… Толькі так, як чутно восенню. Вясною падводы не чутно, зямля мяккая…». Вось такая прыкладна гаворка.

Што толькі не можа не грукаць-стукаць у той асенняй начной калгаснай падводзе! І спіцы ў разбітым вобадзе колаў, і абруч, які зваліўся з калодкі на вось да атосы, і падгерац аб шворань… Пачынаем перабіраць словы, пакуль не даходзім да лёстак — тоненькіх драўляных дошачак між асновай воза і аглабінамі, каб паклажа не выпадала. Гэтыя лёсткі ніколі шчыльна не трымаюцца ў гнёздах і меладычна ксілафонна пагрукваюць. Пасля гэтых «лёстак» выдых палёгкі — і трубка пакладзена. Потым будзе паэзія.



Рыгор Семашкевіч і Алесь Жук. 70-я гады

*Дзесьці ў полі ляскоча падвода.*
*Што яна лічыць — выбоіны, годы?*
*Стылая далеч асенняй прасторы*
*Чуйна разносіць усё, што гавораць*

*Людзі, дарогі, падводы, машыны*
*І ў паднябессі клін жураўліны.*
*Не, не здарма самым родным*
*і блізкім*
*Здасца зямля, гэта поле-калыска.*

Паэтычнае сталенне Рыгора Семашкевіча адметна і ў чыста лірычных вершах, і ў настойліва праступаючым тэматычным напрамку: «Вяртанне кніг», «Кастусь Каліноўскі», «Апошняя ноч Кастуся Каліноўскага», «Таполі Максіма Багдановіча», «Францішак Багушэвіч»: «…Імжыць праз гады сіратлівы пагляд. На ўсю Беларусь міліён пракурораў І толькі адзін, толькі ён адвакат». І «Вайсковыя могілкі Мінска»:

*Вайсковыя могілкі Мінска*
*Не будуць варот зачыняць.*
*Спыніся далёкі ці блізкі, –*
*Тут маршалы нацыі спяць.*

*Купала і Колас…*
*Раптоўна*
*Адчуеш свабодна зусім –*
*Не толькі радком загалоўным –*
*Ты ўсім абавязаны ім.*

*Трывожаць ні рангі і званні,*
*Інакшы азначыўся плён —*
*Дзяржаўная важкасць гучання*
*Адзіных і розных імён*
*………………………*
*І не пры магільным граніце,*
*А скрозь на вялікай зямлі*
*Любіце паэтаў, любіце!*
*Іх так ненавідзець маглі.*

Адказнае стаўленне да паэзіі, да напоўненасці паэтычнага радка змястоўнасцю, да дакладнасці і ў пачуццях, і ў слове давала Семашкевічу-крытыку права на патрабавальную ацэнку калег па паэтычным цэху. Семашкевіч не раскідваўся агульнымі папрокамі, ён аналізаваў, паказваў і ўмеў радавацца удачы калег. Ад гэтага яго крытыка была прынцыповай, але ніколі не крытыканскай, яна пісалася не з-за асобаў, а ў імя паэзіі. Ён і пісаў крытыку найбольш тады, калі сутыкаўся з сапраўдным талентам і паэзіяй, найперш каб падтрымаць і дапамагчы. Не заўважанымі ім не маглі застацца Рыгор Барадулін, Яўгенія Янішчыц, Ніна Мацяш, Валянціна Коўтун, Юрка Голуб, Алесь Разанаў і многія іншыя паэты. А перападала найперш радкагонству, прыблізнасці, паэтычнай глухаце, дэкларацыйнасці, барабаннай надзённасці, спекулятыўнасці на ёй.

Адна з крытычных кніг Рыгора Бярозкіна мае назву «Постаці». Дык вось, пішучы пра Рыгора Семашкевіча, думаю, як сёння нам не хапае ў крытыцы паэзіі — ды не толькі паэзіі, наогул літаратуры — кагорты такіх постацяў, як Рыгор Бярозкін, Варлен Бечык, Міхась Стральцоў, Рыгор Семашкевіч…

З'яўленне аповесці «Бацька ў калаўроце» было нечаканасцю. Аповесць атрымалася адметнай, сталай, сапраўды смешнай і вясёлай. Прайшлі дзясяткі гадоў, і калі я сёлета перачытваў яе, з прыемнасцю адчуў, што яна і перачытваецца што называецца на поўным прыёме.

Цяпер мне відавочна, што Семашкевіч даўно прыцэльваўся на прозу. Яшчэ ў першым сваім эсэ «Лічыла дні зязюля» ён можа яшчэ і падсвядома прабаваў на зуб празаічную фразу, лавіў лад, малюнак. Расказваючы пра сваё дырэктарства ў васьмігодцы, ён больш трымаўся журналісцкай нарысовасці, але з яе часта вынырвалі чыста празаічныя штрыхі, дэталі, сцэны.

Эсэ «Світка Буйніцкага», акрамя бясспрэчных даследчыцкіх вартасцяў пра станаўленне беларускага тэатра, пра асобу Буйніцкага, акцёраў яго трупы, — гэта яшчэ і дабротная проза, у якой прафесійна вытрыманы жанр.

У аповесці, натуральна, цяжка было вытрымаць чыстату жанра, гэта прыходзіць з вопытам. Але яна мае новую якасць, без якое не магчыма мастацкая літаратура. «Бацька ў калаўроце» — аповесць ад пачатку і да канца «сачынітельная» ў самым добрым значэнні гэтага слова, як разумеў яго Гогаль, называючы сябе не інакш як «сочинителем».

Сапраўды, быў у нашым жыцці чалавек, якога мы звалі Бацькам, было ў Вільні кафэ з басейнам у дворыку, і філфакаўскім выкладчыкам з колішніх ускраінных новабудоўляў без гумавых ботаў было не дабрацца да працы. Для тых з нас, хто вучыўся на філфаку, і абліччы герояў былі знаёмыя, і іхнія жэсты, і звычкі. Гэта было пазнаваема, а ўсё астатняе сфантазіравана аўтарам. Не лазіў жа Бацька ніякую мемарыяльную дошку чытаць, і ніякіх рыбак не карміў, і солі суседкам у суп не падсыпаў. Хаця нас, галадранцаў, якія жылі ў інтэрнаце на Свярдлова, у тым ліку і аўтара аповесці, крупнікам падкармліваў.

«Бацька ў калаўроце» — сапраўдная таленавітая аповесць, створаная ў адпаведнасці з літаратурнымі прыёмамі, па законах літаратуры.

І гумар у ёй не здзеку дзеля, нават не для нейкага там выкрыцця ці павучання, а ад маладосці, ад жыццёвай перапоўненасці, калі проста так і самому пасмяяцца хочацца, і іншых пасмяшыць.

Тым не меней, у аповесці спрабавалі вышукваць і непавагу да выкладчыцкай інтэлігенцыі, і іншыя «падтэксты» знаходзіць. Праўда, да абвінавачвання ў ачарніцельстве, як у свой час было з аповесцю Аляксея Кулакоўскага «Дабрасельцы», не даходзіла. Будучы рэдактарам «Бацькі ў калаўроце», я быў сведкам рэдагавання кнігі на ўзроўні галоўнага рэдактара ў выдавецтве. Семашкевічу даводзілася выкрэсліваць і словы, і сказы, і абзацы.

Пасля гэтага Семашкевіч недаўмяваў: што змянілася пасля тых дробных выкрэсліванняў? Нічога.

Згадваючы, што ў нашай прозе з гумарыстычным жанрам не надта каб было густа, то пасля «Запісак Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя, «Дабрасельцаў» Аляксея Кулакоўскага, «Ніжніх Байдуноў» Янкі Брыля і «Бацькі ў калаўроце» я больш аповесцяў і не назаву.

«Такія вось паперы», як гаварыла на пачатку Рыгоравай аповесці вясковая цётка Мар'я.

Пасля «Бацькі ў калаўроце» Семашкевіч пачаў пісаць аповесць «Ясень». Напісанае заканчваецца такім абзацам:

«Ранняя ноч… Дажджавеюць і кіпяць маладыя яблынькі за акном».

Гэта ён яшчэ паспеў пабачыць і запісаць…

Быў на дзіва цёплы пачатак лета. Свежая маладая лістота на дрэвах яшчэ не ўмела шумець. Пасля работы праз дзіцячы парк Горкага я пайшоў да Рыгора Семашкевіча. Ён быў адзін дома ў прасторным прахалодным пакоі. Вясёлы, радасна ўзбуджаны — на стале ляжала прынесеная жонкай карэктура яго крытычнай кнігі «Выпрабаванне любоўю». З-за такой нагоды я вызваўся схадзіць па бутэлечку сухога балгарскага віна. Ён катэгарычна адмовіўся, паказаў на спінку крэсла, на якім вісела белая кашуля, чорны гальштук і пінжак.

— Заўтра ў мяне абарона дыпломнай.

Я ведаў, што для Рыгора абарона яго дыпломнікаў святая справа. Ён працягваў добрую традыцыю філфакаўскіх выкладчыкаў павагі да студэнтаў, тым болей да пачынаючых літаратараў. Гэта ён папрасіў мяне ўзяць на работу ў «ЛіМ» пасля заканчэння ўніверсітэта Алеся Пісьмянкова, добрага хлопца і добрага паэта, як было сказана.

Мы папілі кавы, пакурылі, палюбаваліся на Купалаўскі сквер.

А назаўтра раніцай тэлефонны званок і глухі голас Івана Антонавіча Брыля:

— Саша, няма Грышы.

Такога проста не магло быць. Я па-дзіцячы спытаўся:

— Што рабіць?

— Не ведаю.

— Іду да вас.

— Ідзі.

У тым жа пакоі гэтак жа насцеж было адчынена акно, на стале ляжала карэктура, на крэсле вісела пад чорным пінжаком белая кашуля і чорны гальштук.

Прысеў на канапу побач з Брылём. Сядзелі і маўчалі. Я толькі што абышоў дрэнна замытыя плямы крыві на асфальце… Сядзелі, здаецца, бясконца доўга, стары і малады. Але сядзець бясконца было нельга. Адважыўся і спытаўся-сказаў:

— Буду выклікаць машыну.

— Выклікай.

Потым мы ехалі па ранішнім такім чыстым і жывым горадзе на Слуцкую шашу ў бальніцу хуткай дапамогі па адпаведную даведку. У галаве ў мяне, як выкінутыя на бераг рыбіны, біліся чамусьці вось гэтыя Рыгоравы радкі:

*Недзе на Свірскім возеры*
*Дзікія гусі крычаць.*
*Скора ўжо, скора возьмецца*
*Неба іх калыхаць.*

Толькі трыццаць сем гадоў пакрычалі тыя гусі Рыгору. Толькі трыццаць сем гадоў пацешыла іх неба… Няўжо і праўда, што «тых, з кім дзеліцца неба сакрэтам, маладым забірае зямля»?

І праз трыццаць гадоў часам думаю: а можа каб было тое віно, то не браў бы ён на ноч сонную таблетку, не лез бы на той падаконнік курыць перад сном і любавацца скверам. Ён любіў расказваць пра гэтую радасць. У яго была дрэнная прывычка сядзець на шырокім падаконніку ўздоўж аконнага праёма. А калі жыў да гэтага ў Серабранцы на трэцім паверсе і мы выходзілі пакурыць на балкон, ніколі не абапіраўся на парэнчы, курыў прытуліўшыся да сцяны. Але хто ведае, куды сам хіснешся ці хісне цябе лёс пад гэтым небам, у якім дзікія гусі крычалі і будуць вечна крычаць. І не таму што дзікія, а таму, што прыходзіць пара адлятаць.

Чалавеку не дадзена ведаць пра сваю пару.

**ВЕРШЫ**

# КРЫЛОМ БУСЛОВЫМ ПАМАХАЛА ЛЕТА…

**Генадзь БУРАЎКІН**

***

*Як клікне нагода якая*
*З далёкіх краёў хоць на міг,*
*Я зноўку ўтрапёна блукаю*
*Ля родных аселіц сваіх.*

*І раптам*
*З засеяных гоняў*
*Юнацтва гукне мне:*
*«Генадзь!».*
*Вядома,*
*Гадоў не дагоніш,*
*Ды ўдачу ўсё ж можна дагнаць.*

*Адыдуць*
*І смерч навальнічны,*
*І слоты кастрычніцкай муць,*
*Ды тое,*
*Што вабіць і кліча,*
*Я ўсё ж паспрабую вярнуць.*

*І ўспомню*
*Асіны трымценне*
*І дуба загадкавы цень —*
*Хаця б толькі ў радасным*
*сненні,*
*Хаця б на адзін толькі дзень…*

***

*Не кідайце мне соль на душу,*
*Там даўно ные рана цяжкая —*
*Для каго,*
*Для чаго я пішу,*
*Ад каго разумення чакаю?*

*Я не нейкі бязвусы хлапчук,*
*Не сляпы,*
*Не глухі,*
*Не наіўны.*
*Сто разоў ад бяседнікаў чуў*
*Прагматызму*
*Натхнёныя гімны.*

*Я таксама вітаю прагрэс*
*І не супраць айфонаў і грошай.*
*Толькі як мне пражыць будзе*
*Без*
*Добрай казкі*
*і песні харошай?*

*Хай тупыя дзялкі барыша*
*Пацяшаюцца з вершаў ахвоча.*
*Ува мне*
*Трапяткая душа*
*Паміраць безгалоса*
*Не хоча.*

***

*Стань для шчасця асноваю,*
*Першай зелені хмель.*
*Абуджэнне вясновае,*
*Жаўруковая трэль.*

*Хай у сэрцы выроствае*
*На пачатку дарог*
*Летуценне дарослае*
*І дзявочы спалох.*

*Хай гуляюць,*
*Нябачныя,*
*Ля садоў маладых*
*І дыханне гарачае,*
*І прытоены ўздых.*

*І не ціхнуць да раніцы*
*Перашэпты надзей…*
*Хай усё паўтараецца,*
*Як у добрых людзей.*

*І хай стануць,*
*Як новыя —*
*Жаўруковая трэль,*
*Абуджэнне вясновае,*
*Першай зелені хмель…*

***

*Я стаю пад ялінамі стоена,*
*Дзе выблытваецца з травы*
*На чаромхавым чадзе настоены*
*Вецер ранішні баравы.*

*Я глытаю яго захмелена,*
*Як хлапчук пасівелы,*
*Рад,*
*Што на свеце ўсё*
*Молада-зелена,*
*Як і сорак гадоў назад.*

*Ох, вясна,*
*Прыгажуня-свавольніца,*
*Зноў ты сінім прасторам вядзеш,*
*І вакол мяне —*
*Вольная вольніца,*
*Ні дамоў,*
*Ні гасцінцаў,*
*Ні меж.*

### Ліпеньскі паўдзённы дождж

*Накрылі хмары сціхлую аселіцу —*
*І раптам пацямнела навакол,*
*І дробны цёплы дожджык нудна*
*сеецца*
*З-пад неба пацяжэлага*
*На дол.*



*Ад ветрыка лагоднага*
*Няспешна*
*Пагойдваюцца мокрыя кусты,*
*А над ракой*
*Пахілая алешына*
*Лянiва апаласквае лісты.*

*У хлапчукоў*
*Ляцяць з-пад пятак пырскі,*
*Калі матулі гоняць іх у дом.*
*І толькі*
*Непаседлівыя пліскі*
*Хавацца не спяшаюцца ў гняздо.*

***

*Над палянамі дажджы*
*І над кручамі.*
*Надакучылі дажджы,*
*Надакучылі.*

*Дзе ні ступіш —*
*Тут і там*
*Бліснуць лужыны.*
*Вецер шоргае ў кустах,*
*Як прастуджаны.*

*Намакаюць спакваля*
*Кветкі,*
*Зёлкі*
*І*
*Так і сыплюцца з галля*
*Кроплі золкія.*

*Ды ў завоблачнай смузе*
*Хмары гушкае,*
*З навальніцаю паўзе*
*Спёка душная…*

***

*Зноў хмары шэрыя збіраюцца,*
*Глядзяць звысоку на палі,*
*Нібыта між сабою раюцца,*
*Куды дажджы свае праліць.*

*А ўнізе*
*І жыты,*
*І кветкі*
*Маўкліва сцяліся на міг —*
*Каб толькі срэбраныя сеткі*
*Не працягнулі міма іх,*
*Каб іх,*
*Знямоджаных,*
*У пыле,*
*Заўважыць з вышыні змаглі,*
*І напаілі,*
*І абмылі,*
*І прыўзнялі з сухой зямлі…*

***

*Карацеюць дні.*
*Даўжэюць ночы.*
*Прытаіўся за вакном мароз.*
*А душа змірыцца ўсё не хоча,*
*Што зіма бярэцца ўжо ўсур'ёз,*
*Што ўжо хутка злая завіруха*
*Кіне кветкі высахлыя ніц.*
*У парывах ветру чуе вуха*
*Водгулле вясновых навальніц.*

*Не хачу я верыць,*
*Што пагода*
*Лёгка ўсё мяняе на зямлі*
*І што вечна*
*Толькі поры года*
*Усяму прычынаю былі…*

***

*Крылом бусловым памахала*
*лета,*
*Смугою ахінула луг пусты.*
*І восень забірае барвы ў кветак*
*І за сабой запальвае масты.*

*Успыхнуў клён.*
*Агнём гараць асіны.*
*Бярозы лісце сыплюць*
*на зямлю.*
*Каліны свой касцёр не загасілі —*
*І яшчэ цёпла чорнаму галлю.*

*А я шапчу*
*Віхуры белай масці:*
*«Не пасылай зімы дачаснай хоць*
*І трохі ў ціхім лесе затрымайся,*
*У спелы сад са сцюжай*
*не прыходзь…».*

***

*Прырода матчынага краю —*
*Лугі,*
*Азёры,*
*Сасняк.*
*Яна сама сябе стварае*
*На кожны дзень*
*І на вякі.*

*Захоўвае свае парадкі,*
*Ці ў свеце лета,*
*Ці зіма,*
*Сама загадвае загадкі*
*І іх разгадвае сама.*

*Перад віхурамі не кленчыць,*
*Не выхваляецца красой.*
*Сябе сваёй травою лечыць*
*І мыецца сваёй расой…*

*Прырода матчынага краю —*
*Лугі,*
*Азёры,*
*Сасняк…*
*Яна калі і паміpae,*
*Дык толькі ад людской рукі…*

***

*Ападае восень залатая*
*На гаі,*
*На сцежкі,*
*На сады.*
*Замятае восень,*
*Замятае*
*Маладыя нашыя сляды.*

*Толькі з даўняй памяці*
*Не сцерці*
*Той вясновы,*
*Той зялёны шум,*
*Што нам будзе грэць*
*Да самай смерці*
*Хмельную ад радасці душу.*

*Ты насустрач мне раскінеш*
*рукі.*
*Нам яшчэ далёка да зімы.*
*І з нябёс*
*Зляцяць літанняў гукі,*
*Што з табой калісь пачулі мы…*

***

*Ці не ўсё роўна,*
*Дзе ляжаць —*
*Пад камнем*
*Ці крыжом пахілым…*
*Каб толькі побач*
*Сенажаць*
*Шаптала пацеры магілам,*
*Каб толькі вецер верхавы*
*Прыносіў ад бацькоўскай вёскі*
*І вечаровы шум жывы,*
*І жніўных песень адгалоскі.*
*Каб не міргаючы,*
*З нябёс*
*У век наш тлумны і праклятым*
*З надзеяю на лепшы лёс*
*Глядзелі ўнукаў вачаняты…*

*Ці ж важна,*
*Дзе спачын далі —*
*Ці пад сасною,*
*Ці пад вязам?..*
*Каб толькі на сваёй зямлі.*
*Каб толькі з землякамі разам.*



ПАМЯЦЬ

# У РОДНЫМ ГАРАДЗЕ ЧУЖЫНЦАМ

Яўген ВАПА

**Услухоўваюся ў шум дажджу, углядаюся ў цемру ночы.**

Здаецца, зараз неспадзявана, ціха, непрыкметна, выплыве на чарговую сустрэчу гарадзенкі канспіратар канца савецкай эпохі і лукашэнкаўскіх часоў Дзіма Кісель. Ён любіў ноч. Ноччу адчуваў сябе больш бяспечна, больш утульна. Можа яшчэ і таму, што ўжо не мусіў углядацца ў твары людзей, якія штодзённа сваімі дзеяннямі і крывадушнымі словамі апаганьвалі святую яму беларускасць. Ноччу быў са сваімі. Таму ноч ставалася яму светлай прасторай. Таму так і любіў слухаць баладу свайго сябра пра самоту. «Ноч над Гродна – кіне свой цень. Аддзеліць цемру ад святла».

Аднак не аддзяліла. У родным горадзе, у якім нарадзіўся, глядзеўшы на ўсё рэальнае, прыйдзецца яму з цягам гадоў адчуць сябе чужынцам, а не поўным годнасці гарадзенцам, які любуецца ў час нядзельнай, пасляабедняй прагулкі завулкамі неразбуранага яшчэ старога горада. І тады ноч у жыцці сябра заменіцца з лякарства ў атруту. Невыносны гэта выклік, калі прысуджана вечна табе быць толькі начным матылём, і – толькі адзіная, вызначаная, прастора нараджэння, мараў, смерці.

Цяпер лаўлю сябе на думцы: а ў які еўрапейскі горад змагла б упісацца ягоная рагатая, беларуская душа. Першае, што прыходзіць мне на думку, гэта Мадрыд. Кісель, так наперамен мы да яго звярталіся, страшэнна не любіў холаду. Колькі памятаю, заўсёды, калі мы былі на двары, ад восені да вясны ён увесь час дрыжаў. І няважна, як быў апрануты. А калі яшчэ ў гэты момант курыў папяросу, ляскаючы пры тым так моцна зубамі, што было чуваць у прамежку некалькі метраў, то я, глядзеўшы на яго, дзякаваў Богу, што я ўжо не курэц. Пра ягоныя мары аб падарожжах я з ім ніколі не размаўляў. Ніколі сам таксама не быў у Мадрыдзе. А вось нешта прываблівае і характэрнае тоіцца ў іспанскай сталіцы ды яе жыхарах (такое маё ўяўленне на аснове кніжак і фільмаў), што Дзіма са сваімі летуценнямі ў іншым месцы варот Еўропы адчуваў бы сябе натуральна. Цывілізацыйны стык, веліч гісторыі, цёплы клімат, апякунчыя жанчыны, сонечныя прамяні, што прыглядаюцца і адбіваюцца ў смачным віне, далі б яму неблагое задавальненне. Напэўна палагаднела б там і ягоная нацыянальная напорыстасць. Па сваім характары быў ён увогуле лагодным чалавекам, і калі б ажаніўся, быў бы добрым кандыдатам трапіць пад пяту жонкі.

Мабыць, другім горадам, у якім час ад часу хацела б загасцяваць ягоная душа, калі наступае бязмежная меланхолія — стаўся б Парыж. Але менавіта толькі той начны горад, у якім незаўважана кожнаму з нас перасякаецца мяжа паміж геданізмам і клашардызмам. Было нешта ў вобразе Дзімы з добрай французскай літаратуры, калі герой патрапляе адначасна ў пастку гісторыіі і абсурднасць вакольнага свету. І яшчэ як інтэлігенту аж надта ўсё гэтае становіцца зразумелым. Уцякаць і вяртацца. Доўгія начныя размовы здаюць паступова месца доўгім начным бадзяннем па кабаках у маўчанні. Да гэтага характэрны берэт на галаве, быццам шапка-няўгледка. Такімі і былі нашыя апошнія спатканні.

Калі мы з гадáмі пасябравалі і гаварылі пра каштоўнасці дарослых, то для яго самым важным было захаваць каштоўнасці сваіх бацькоў: быць прадаўжальнікам нацыянальнага і пазітывісцкага дзеяння. Аднак такія справы не заўсёды сумяшчальны. З аднаго боку выдаваць незалежныя часопісы, заўсёды быць гатовым на кліч сяброў і... палітычныя паражэнні. З прыходам да ўлады Лукашэнкі наступіў таксама і правал ягоных спадзяванняў на якую-колечы легальную пазітывісцкую, беларускую дзейнасць.

А потым былі пытанні: чым займацца, каму верыць, ці ж звыкаць з думкай, што сны аб Беларусі і не цяпер, і не хутка. Аднаго шкадую, што нашых размоваў, а часта пераходзіла гэта ў ягоны шматгадзінны маналог, я ніколі не запісаў на дыктафон. Ну, што ж, кубкі з гарбатай і кавай, пакуленыя разам чаркі, дзясяткі супольных сустрэч зманліва абяцаюць вечныя непарыўныя сяброўскія сустрэчы. Запішам размову наступным разам, абяцалі мы сабе. А цяпер усё цяжэй прыходзіцца мне прыгадваць, як гучаў натуральны голас Дзімы. Спачатку ўсплывае твар з ягонай усмешкай, а толькі потым пачынаю выхоплiваць, быццам радар з касмічнага пылу, паасобныя гукі, што праз некалькі хвілін пачнуць складвацца ў прызабытыя словы, якія толькі тады нагадваюць ягоную мелодыку мовы.

Пэўна ж не раз і не два запісвалі яго тыя, супраць каго накіроўваў ён свой гнеў і супраціў. Спадзяюся, мо хаця адзін з іх можа зразумеў і адчуў, што ад такіх людзей, як Дзіма Кісель, павінны былі яны таксама вучыцца вернасці сваёй Бацькаўшчыне.

КАНЦЭПТ

# ДЗВЕ КРЫВІІ. РАСЧЫТВАЮЧЫ ЛАСТОЎСКАГА

Алесь МІКУС

**У Мінску перавыдадзеная «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі», якую ў 1926 годзе ў Коўне выдрукаваў Вацлаў Ластоўскі.**

Фаліянт на 775 старонак буйным фарматам накладам у тысячу асобнікаў .

Звычайна, калі ідзе гаворка пра выдавецкую спадчыну В. Ластоўскага, на першы план выходзіць рэдагаваны ім часопіс «Крывіч», які ён выдаваў у летувіскім Коўне ў 1923–1927 гадах. «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» згадваецца больш сціпла, але менавіта яна — галоўны дабрак В. Ластоўскага. Артыкулы з «Крывіча», калі адкінуць нататкі з нагоды актуалій, у гэтай кнізе сплятаюцца ў гарманічны і цэльны выклад.

## I. Ластоўскі-дэміург

Вацлаў Ластоўскі ўспрымаў мінуўшчыну як выходзец з вясковай Дзісеншчыны, з роду, дзе ад бацькі да сына перадавалася знахарскае ўменне. Таму ён успрымаў пачатнасць на архаічны лад: асноўная вартасць — гэта цэнтр, вакол якога ўсё круціцца, а адбывацца павінна ўпарадкаванне хаосу, ператварэнне яго ў парадак.

Што да цэнтру, дык гэтым найлепей тлумачыцца тое, чаму В. Ластоўскі так заступаўся за крывічоў і «крыўскую» назву для Беларусі.

Не велічыня крывіцкага племя, відаць, мела быць падставай.

На самым пачатку «Гісторыі...» ён піша: крывічы сядзелі «ў Смаленску, у землях якога выходзяцца вярхі чатырох вялікіх рэк, скіраваных на ўсход, поўдзень, захад і поўнач (Волгі, Дняпра, Дзьвіны і Волхава)» (с. 2).

В. Ластоўскага матываваў цэнтр скрыжавання, пачатак пашырэння парадку ў свеце на чатыры бакі.

Хаос В. Ластоўскі ўпарадкоўваў на космас праз працу з гісторыяй, з фіксаванай пісьмова мінуўшчынай. Жыццё нашага Краю, яго жыхароў ён разглядаў неад'емна ад стаpажытнасці да нашых дзён. (Дарэчная тут гэтая цытата ці не, але нельга не прывесці: «Праўдзівая зямля — толькі тая, на якой жыве крыўскі народ, гэта — крыўская зямля» (с. 57).

Пісаў: «Крывія, Русь, Літва — патройны вузел, трохпаверхі лабірынт, у якім блудзіць і дагэтуль блудзіць нашае нацыянальнае "я", наша зборная душа».

В. Ластоўскі прапанаваў канцэпцыю пераадолення гістарычнага расколу: «Напоў містычнаму імені Крывія празначана ў жыцці народу замкнуць круг гісторыі, быць ачышчальным агнём, магічным дарожным знакам, гаючай і жывучай вадой Адраджэньня Народу» (с. 138). Толькі ў такім кантэксце можна адэкватна асэнсаваць разуменне В. Ластоўскім «Крывіі». Ён не меркаваў штучна «насунуць» назву «Крывія» на «Беларусь». Як праўдзівы нашчадак знахароў, В. Ластоўскі прапанаваў ужыць знахарскі прынцып лекавання: зварот да першапачаткаў, каб «сабраць» у здаровае цэлае раздзертую сучаснасць.

Зрэшты, гэты прынцып В. Ластоўскі прапанаваў, але належна ўсё ж не дастасаваў — толькі апісаў, класіфікаваў («авалодаў» праз называнне, пералічэнне рэчаў) падзеі мінуўшчыны, але ўласна «крыўскае», архаічна-першапачатковае, як бачыцца, так і не «прывіў».

Відаць, не знайшоў, як. Бо ўхапіўся, аказалася, за рэалію больш складаную і разгалінаваную (і фундаментальна мазаічную), чым тое, што меў у сябе на малой радзіме.

В. Ластоўкі з асаблівым «постзнахарскім» тыпам мыслення не мае інтэнцыі змагацца з сістэмай, што ўстаялася, з праяўленым парадкам. Тое хутчэй уласціва людзям «ваярскага» тыпу. У нашым выпадку маем дачыненне з прыродній інтэнцыяй тварыць парадак з хаосу, здабываць гліну з каламуці.

Час адкрытых магчымасцяў (выяўленых «шчылінаў» паміж светамі) пры канцы 1920-х гадоў мінуў, перыяд нацыятварэння скончыўся, парадкі ўстаяліся. Трэба было або будаваць парадак меншага ўзроўню (унутры ўжо створанага большага), або стварыць такую мадэль, у якую існы парадак убудоўваўся б як цаглінка.






В. Ластоўскі выбраў першае...

## II. Крыўя ў мінуласці і сучаснасці

Грунтам для В. Ластоўскага пры стварэнні цэльнасці, цэльнага вобразу быў моўны фактар. Тым, што змацоўвала ўсё, была для В. Ластоўскага «жывая крыўская мова».

Мова бачылася нязменнай (прынамсі, ядрава) ад старакрывіцкіх часоў (калі крывічы сядзелі на вярхах рэк) і да нашых дзён. Гэта значыць: славянская ў пераважнай большасці мова, уходнеславянская. Цэльнасць, пра якою так рупіўся В. Ластоўскі, распадаецца, калі абвяргаецца моўная «славяна-крыўскасць».

Такім чынам, «крыўскае» для В. Ластоўскага — гэта не толькі вяртанне да вытокаў ці пачатак новага цыклу. «Крыўскай» для яго была мова, нібыта адвечная ды спракаветная, чырвоная нітка, што праходзіць праз усе перыяды і злучае ўсё ад няпамятнай старажытнасці да сучаснасці.

Ці быў В. Ластоўскі прыхільным да архаікі? Думаецца, архаіку ён не абагаўляў. Яна была пачаткам нашай гісторыі, але не стала для яго самамэтай, безумоўнай каштоўнасцю.

Такою была для В. Ластоўскага «народная крыўская мова».

Сучасная крыўская ідэя (пра такую можна казаць з пачатку 1990-х гадоў) у гэтым сэнсе, наадварот, абрынула гмах Крывіі паводле Ластоўскага.

Скарыстаўшы найноўшыя (другая палова XX ст.) навуковыя звесткі пра балцкасць і балцкамоўнасць першапродкаў беларусаў, размылі галоўнае апірышча В. Ластоўскага — тэзіс пра адвечнасць беларускай, крыўскай мовы.

Замест гэтага сучасная крыўская ідэя за кутні камень паставіла архаіку, даўнейшасць. Балцкую спадчыну беларусаў (што казаць, калі нават назва Крывіі, калі верыць навуцы, паходзіць ад балцкага krivis 'жрэц, крэў').

І гэтым — што найбольш істотна — падкрэсліў мазаічнасць вобразу нашай мінуўшчыны. Выкасавалі пазнейшае (дакладней, талеруецца толькі тое, што так ці іначай суадносіцца з пяравейшым, з архаічным, з балцкаўскім).

Як бы там ні было, але крыўская ідэя В. Ластоўскага ды цяперашняя крыўская ідэя адрозніваюцца. Першая ўсё, што было на нашых землях раней, прызнавала і ўзвышала на п'едэстал. Другая — сегрэгуе і суадносіць з найдаўнейшай архаікай, з пачаткамі чалавечай супольнасці, дыферэнцыяванай этнічна.

...Няма, відаць, у Еўропе яшчэ такога народа, як наш, які на працягу сваёй агляднай гісторыі так падзяляўся, расколваўся, размяжоўваўся. Вацлаў Ластоўскі надзвычай чуйна вызначыў, адкрыў гэты «нэрвус» нашай этна-нацыянальнай экзістэнцыі. І па-свойму ўмела яго вывучыў.

У адрозненне, напэўна, ад нас...

ВЕРШЫ

# АБРАНЫЯ ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

Іна СНАРСКАЯ

* * *

*«Дрэва кожнае на зямлі*
*паўтарае Дрэва Сусвету...»*
**Рыгор Барадулін**

*Прыснілася дрэва жыцця —*
*Вярбіна мая каля хаты,*
*А там на галінах — буцян,*
*У прымы прыбіўся, ці ў сваты.*

*І свята было на зямлі,*
*Босае бегла дарогай,*
*І рушнікі плылі*
*Ракою, журбою, трывогай.*

*І недзе гармонік ляцеў*
*Ад ганку да небакраю,*
*І не было чысцей*
*Сярмяжнага гэтага раю.*

*Абраныя для жыцця*
*Пісалі свой першы спомін.*
*А ў небе кружыў буцян,*
*І я з ім, і сон, і поўня.*

* * *

*Пасля гразы так сонечна душы.*
*Ляці, мая любоў, на крылах ветру,*
*Вышэй бяроз і тапалёў вышэй.*
*Я прарастаю ў неба сінім вецем.*

*А як там без цябе?*
*Вярнуся. Пачакай.*
*Бо карані мае нацягнуты, як струны.*
*Ад сэрца напрасткі цячэ гадоў рака,*
*А берагі яе — радкі, пісьмёны, руны.*

*Дык беражы душу.*
*Пасля гразы сусвет*
*Сунічнай чысцінёй усе шляхі напоўніць.*
*З далёкіх-далячынь я ліст табе пішу*
*Пра карані травы і пра галінкі поўні.*

* * *

*Прадзень маю песню, як нітку — у голку,*
*Жыццё зацыруй, кожны ўсхліп гарлавы.*
*Бо рвецца душа, дзе балюча і тонка,*
*І дзень не падыме сваёй галавы.*

*А цяжка спяваць — агарні жаўрукамі*
*Зямлю і траву, і гаротных людзей.*
*Бяду развядзі, нібы мора, рукамі.*
*Я пакланюся вялікай вадзе.*

*Крочу па дне на знаёмы ўжо бераг.*
*Змые вада гарады і сляды...*
*Песня жыве, як спрадвечная вера.*
*Цяжэюць павекі, лягчэюць гады.*

* * *

*Ці ёсць птушыны рай на свеце?*
*Сярод пустэль, сярод снягоў,*
*Дзе вые воўчы шэры вецер,*
*Сляды прыстанішча таго.*

*І чым глыбей крывавяць раны,*
*Чым недасяжней чысціня,*
*Тым саладзей пяшчота раніц*
*І даражэй лагода дня.*

* * *

**Светлай памяці Міхася Цімошчанкі**

*Жыццё і смерць пароўну падзялілі*
*Усіх, каго любіла і люблю.*



*Ляцелі дні, завеі вылі,*
*Калматы снег ўкрываў зямлю.*

*Стаялі сосны, быццам горы,*
*І не было за іх мацней.*
*Так цяжка быць гарою ў горы*
*І нават свечкай у вакне.*

*Мне не хапае іх адчайна,*
*Тых, на самотных берагах,*
*З такімі добрымі вачамі,*
*З такімі сумнымі плячамі,*
*З такой душой без апранах.*

* * *

*Што не заб'е, то зробіць нас мацнейшымі.*
*І выйдзе воўк снягоў хадой адважнай.*
*Ён, князь лясоў, ступіў на след мой першым,*
*Ён ведае чаго свабода важыць.*

*І я ваўку зірнула прама ў вочы,*
*Пабачыла паходні і капканы,*
*І зоркі спелыя сярод сірочай ночы,*
*І кінуты у звера чорны камень.*

*Што не заб'е, то зробіць нас мацнейшымі.*
*Мы па адной цяпер ішлі сцяжыне.*
*Душу сваю я ратавала вершамі,*
*А воўк снягоў застыў кустом ажыны.*

* * *

*А ластаўка на крылах ноч трымала.*
*А я прыймала здраду і журбу.*
*І біліся аб бераг чорны хвалі*
*Усіх спакус і патаемных бур.*

*Я ведала: настане дзень ласкавы,*
*І сціхне бура. На сівых гарбах*
*Смарагдавая вырасце атава*
*І выдаве з маёй душы раба.*

### Сэрца

*Стамлёныя рукі, жывая і звонкая гліна...*
*А неба высока, а сэрца глыбока. Хвіліны*
*Ляцяць зарападам да сэрца, на самае дно,*
*І дзень дагарае, і п'е залатое віно.*

*Народзішся з гліны і ў гліну калісьці вернешся.*
*А сэрца? А сэрца натоліцца вершам,*
*І траўнем чаромхавым, веранём*
*жоўтагаловым.*
*А сэрца застанецца босым і шчырым*
*словам.*

ВЕРШЫ

# ДЗІКАЯ КОТКА

Дзмітрый ЛАВІЦКІ

* * *

*Ні цябе, ні сябе я не збярог ад ліхога вока,*
*ты са шкатулкай ліпавай засталася,*
*я адыходзіў з колавай лірай жабрацкай*
*ужо не крокам людскім, а хадою гнанага*
*воўка.*
*І адзіны сваяк мне быў лес —*
*абымшэлы бацька,*
*ён з дакорам глядзеў і яліны выстройваў*
*брамай:*
*«Адпачынак вазьмі тут, воўк ты,*
*а твар чалавечы,*
*адпачынак вазьмі давеку, ці то на вечар,*
*птушкі лёгкія апяюць тваю поўсць*
*і зубы*
*і сцяжыну пакажуць ці ўбок, ці прама».*



### Дзікая котка

*Вяртайся ў цень, не крадзіся па вуліцах,*
*запоўненых ліхтарамі*
*і дурнымі аб'едкамі,*
*вяртайся і не выходзь, вяртайся,*
*праходзь,*
*ты можаш быць злоўлена падлеткамі.*

*Хто цябе чуе, тварам той бледны*
*і потны.*
*Хіба ты бачыла, каб параджэнне лесу*
*любілі ці хаця б не баяліся?*
*На табе сурокі не адной сотні.*

*І мне вельмі блізкае гэта тваё жаданне*
*нарэшце спраўдзіць крывавую помсту,*
*але далёка не ўсё так проста,*
*вяртайся, я бласлаўляю тваё вяртанне.*

### Дзвіна

*Войска маё было падабранае ладна,*
*кожны салдат меў літасць і гонар,*
*пыл на нас наліпаў, як ладан,*
*і зброя цанілася за карону.*
*Я ведаў, калі выпадковы вораг*
*аздобіць мой пояс стралой,*
*гэта апошні гліняны пагорак —*
*і гліну поўніць спакой.*

*Салдатам сваім я прызначыў плату –*
*шклянка вады і проса,*
*і мовіў: «Не вам апранацца ў латы,*
*не вам сцерагчыся лёсу».*
*Галіны вярбы збягалі на вочы,*
*як пасмы, я браў іх рукой,*
*гэта становіцца кавалак ночы —*
*і гліну поўніць спакой.*

*Войска маё не мела прастояў,*
*і не спужаўся конь:*
*калі салдат не бярэцца за зброю,*
*значыць — ён возьме скон.*
*Я пальцам крануў свой пояс парваны,*
*нікога няма са мной,*
*кроў выліваецца з дробнай раны —*
*і гліну поўніць спакой.*

*Войска маё плыве*
*мёртвае па Дзвіне,*
*і наўкол пустыя палі,*
*я згадаў, як дзед навучаў мяне,*
*калі быў я малы:*
*«Рыбам тут не стае прасторы,*
*іх выносіць цёмнай ракой*
*адразу ў паўночнае мора» —*
*і гліну поўніць спакой.*

### Спальня

*Мае крокі гучаць толькі ў межах пакою —*
*такое вяртанне да вечнае спальні.*
*Я чую, сёння туманнай хадою*
*цемра абыдзе свае капальні.*

*Яна вяртаецца той жа сцежкай:*
*заўсёды праз сырасць, вакол пустэчы —*
*такое спаўзанне халоднай усмешкі*
*ад таемных, старанна схаваных рэчаў.*

*Я чую — гасцей запрашаюць на свята,*
*правер, зачыні вокны шчыльней:*
*груган павядзе старэйшага брата,*
*каб паказваць яму людзей.*

* * *

*Дождж і ноч запаўняюць сцёкі,*
*ты не адрозніш ластаўку ад кажана,*
*гэта заўжды нечакана,*
*калі штосьці кранае шчокі.*
*Дарога па звычцы збірае воды,*
*яны не тояцца, не сціскаюць вуснаў,*
*нават калі становіцца пуста,*
*кроплі не сцішваюць карагода.*

*Вада як сны, і яна не можа*
*доўга знаходзіцца ў ролі зніклай,*
*пачакай, табе стане звыклым:*
*дождж залівае твой ложак.*

### Песня Фальмера

*Спіць млынар, але не спыняецца млын,*
*і мука абсыпаецца з жорнаў,*
*сёлета ў пойме разросся палын,*
*колерам быццам чорны.*

*я не ведаю гэтых знакаў*
*сыра тут і спакойна*

*Лес здзічэў, раку зацягнула глеем,*
*на месцы нашых сустрэч*
*з кожнай хваляю халаднее,*
*і жывёлы збягаюць прэч.*

*я не ведаю гэтых знакаў*
*сыра тут і спакойна*

*Сябра мой, мой адзіны сябра заўзяты,*
*хворы духам, а сілай наліты,*
*кажа, бачыў тут буслянятаў*
*асцярожнага чорнага віду.*

*я не ведаю гэтых знакаў*
*сыра тут і спакойна*

*Сябра кажа: «Рэч ёсць, важная болей*
*за шчасце, ці ўзмах касы,*
*ці за адчуванне волі —*
*светлыя валасы».*

*я не ведаю гэтых знакаў*
*сыра тут і спакойна*

*Дуб папераду нас на адхоне*
*выгляд мае нібы прарочы,*
*сябра мой на мяжы сутоння,*
*чорныя яго вочы.*

*я не ведаю гэтых знакаў*
*сыра тут і спакойна*

ФАНТАСТЫЧНАЕ АПАВЯДАННЕ

# АПАВЯШЧАЛЬНІК

Таццяна МЯДЗВЕДЗЕВА

*Аўтаномны пажарны апавяшчальнік — у кожны дом!*
*Сацыяльная рэклама*

Люба ўжо стаяла ў дзвярах з дзіцячым вазком, збіраючыся выходзіць на дзённы шпацыр, як у вітальні забрыньчаў тэлефон.

— Любоў Паўлаўна? — запытаўся са слухаўкі бясколерны голас.

— Так.

— Сацаддзел, — прадставіўся голас. — Ці ўсталяваны ў вашай кватэры аўтаномны пажарны апавяшчальнік?

— Не, — адказала Люба, на ўсялякі пажарны агледзеўшы даўно не бялёную (а, можа: даўно бялёную) столь.

— Вы адна выхоўваеце дзіця, так? — зрабіўшы націск на лічэбніку, удакладніў голас.

— Ну, як...

— То бок — без мужа?

— Т-так.

— Сацыяльныя аддзелы горада праводзяць акцыю: бясплатная раздача і ўсталёўка аўтаномнага пажарнага апавяшчальніка для інвалідаў, мнагадзетных, мацярок-адзіночак ды іншых катэгорый малазабяспечаных грамадзян, — у пяцьдзясят другі за сёння раз прадэкламаваў голас. — Паколькі вы пражываеце ў двухпакаёвай кватэры, вам належана дзве штукі апавяшчальнікаў. Скажыце калі ласка, калі вы бываеце дома?

— Ды я заўсёды бываю. Я ж з дзіцем сяджу, — на ўсялякі пажарны ўдакладніла Люба. — Ну, хіба што пагуляць выходзім удзень перад сном ці ў магазін…

— Добра, — з палёгкай выдыхнула слухаўка і ў пяцьдзясят другі раз паведаміла: — Работнік прыйдзе да вас у бліжэйшы час, каб здзейсніць усталёўку. Усяго добрага.

Насамрэч Люба не была маці-адзіночкай. І бацька ў дзіцёнка — Слаўкі — меўся, і жыў ён разам з дзіцем і жонкай. Праўда, у шлюбе грамадзянскім. Хоць і распісацца прапаноўваў, і вяселля хацеў, каб усё як палажана. Гэта Люба не захацела роспісу й вяселля. Прычына была простая.

Калі Люба даведалася пра цяжарнасць, стаяў шэры смаркаты лістапад. Не хацелася Любе вяселля ўвосень, калі шэрань, бруд і слота. Ні фотак прыгожых, ні свята. Ды й не так жа хутка вяселле тое робіцца. Ну, у ЗАГСе якраз чаргі не было — распісвайся не хачу. Гэта не Мінск, дзе, кажуць, за паўгады запісвацца трэба. А банкет, а тамада, а здымкі, а сукенка ўрэшце рэшт (якая, нават калі на пракат браць, палову ўсіх выдаткаў возьме)? Сяброўкавыя бацькі, напрыклад, дык адмысловы вясельны крэдыт у банку бралі. Ну а як?..

Узімку — тым больш не хацелася. Хто ж зімой замуж выходзіць? Спадзявалася: можа, у сакавіку яшчэ не будзе вельмі заўважна? Але ў сакавіку ўжо не проста заўважна стала, але яшчэ й такі таксікоз люты пачаўся, што ўжо ніхто ні пра якое вяселле й не думаў. Тут бы данасіць хоць да мінімальнага тэрміну. Двойчы ў рэанімацыі адлежвацца давялося, пракапвацца, бо ежа назад выходзіла, а што не выходзіла — на дзіцёнка й будаўніцтва яго дамка плацэнтавага ішло. У Мінск вазілі на захаванне. 80 км. Баялася, каб у дарозе спохваткі не пачаліся. Але нічога, абышлося.

Не, ну сучасная — асабліва айчынная — медыцына й на зусім маленькіх тэрмінах плод ратуе. Толькі, як змрочна жартаваў яе мінскі рэаніматолаг, з такіх дзетак «ліхтарат» вырастае. Той, які потым за Цыбуленку галасуе.

Ліхтарат Люба не хацела. Але й не вельмі разумела тых, хто на Цыбуленку гаўкае. У яе райцэнтры, праўда, ніхто асабліва й не гаўкаў. Гэта ў той мінскай лякарні, ад рэанімацыі адыходзячы, яна наслухалася і пра нячэсныя выбары, і пра нейкія рэпрэсіі, і пра эканамічны калапс. Ляжала з ёю кабета амаль пенсійнага веку. Мінчанка Святлана. Уся з сябе, выпешчаная, дагледжаная, з манікюрамі-педзікюрамі. Нібы й старая ўжо, калі па шыі глядзець, а цела, грудзі — як у маладухі (Люба маму сваю згадала адразу ж, калі пабачыла, як Святлана распраналася падчас агляду). І вось жа — на дзіцёнка наважылася. Сама на машыне прыехала, калі воды пачалі адыходзіць. (Дарэчы, лякарня была рэгіянальная, але ж у палаце з нямінскіх толькі Люба і дзеўчынёха нейкая, ці са Смалявічаў, ці са Смілавічаў былі — астатнія сталічныя: хто па аплаце, хто па блаце).

Мінчанка балбатлівая выявілася — жах. Ці гэта яе сперапуду пасля наркозу на базар прабіла? Увесь час фаніла — то пра мужоў сваіх, хто колькі зарабляў (Люба не вельмі веры давала, бо усіх нерэальныя лічбы гучалі), то пра дачку. Ні «Косма» пачытаць, ні скрыню паглядзець (хаця бабскіх баек, якіх Люба за тыдзень наслухалася, не на адзін серыял хопіць).

Дачка журналісткай працуе на тэлевізіі. Цяпер у Маскве, а пачынала тут, у Мінску. Рабіла адной чы гутарку з нейкім чыноўнікам для навінаў. Дык той штосьці ляпнуў пра неэфектыўнае кіраванне, а журналістка, маладая-зялёная, у сюжэт умантавала. Вядома ж, сюжэт не прапусцілі, а ў хаце на заўтра ж шмон учынілі. Усё ў кватэрыператрэслі, паліцы павыварочвалі, падушкі пераПатрашылі — кшталту каб копію касеты нідзе не прыхавала. Пасля гэтага і з'ехала дачка ў Маскву. Таксама рэпарцёрам уладкавалася. Калі апошнія выбары былі, яе ў Мінск накіравалі, «сюжэт» рабіць. Падчас разгону мітынга на плошчы ніхто не глядзеў, ці ёсць на табе бэйджык «Прэса», ці няма, і запаквалі ў бітма набіты аўтазак. Пакуль пакавалі і везлі, білі — Святлана казала, што ўсе грудзі былі сінія і паказвала на сабе. Яшчэ пашанцавала, што ў турэмным дворыку дачку мужаў знаёмы палкоўнік апазнаў і за руку з шэрагу вывеў. Слухала Люба — і не тое, што не верыла (які рэзон быў гэтай мінскай фіфе ілгаць ім?), але й не надта каб да сэрца брала: сама дзеўка вінаватая, няма чаго было туды перціся. Святлана ж ледзь не з гонарам пра дачку распавядала. Было б чым ганарыцца…

Ну, вось, данасіла Люба да саракавога тыдня, і ў чэрвені нарадзіла. Спярша думала, адыдзе крыху — і вяселле зладзіць, але Славік зусім кволенькі адразу быў. З хваробы ў хваробу кідала — то білірубін павышаны, то ротавірус нейкі… «І адкуль гэтая трасца сыплецца, — усё здзіўлялася Любіна маці. — Жылі ж раней нейк без гэтага…»

Ды й сама Люба паднабрала за цяжарнасць там, дзе і заўсёды празмерна было (матчына генетыка). Якія тут табе фоткі? На халеру яны трэба, калі сорамна будзе ў «Аднакласніках» павесіць?!

Ну і, да ўсяго, — са свякроўю будучай непанятки пачаліся. Паехалі яны спярша са Славікам і Колем (так хлопца яе звалі) да бацькоў, што лагічна было — у тых трохпакаёўка, добра абстаўленая, дом маналітна-блочны. Карацей, кожа-рожа-хай-тэк, усе дзялы. Але не ўжыліся яны з маці — ці то кухню не падзялілі, ці, можа, Колю? Рыкнула свякроў раз на Любу, другі. А Любаня не з тых, хто трывае: сабрала рэчы й вярнулася ў сталінку да бацькоў. Жыла там маці яе з дзяцінства. А наагул — яшчэ бабця ў пяцідзясятых са сваёй маці ў камуналцы гадавалася. Прыбіральня — дык толькі на Любінай памяці з'явілася. А так на двор хадзілі. Санвузел сумешчаны. Бацька Любін яго гаваннай заве — то бок гаўно і ванна разам.

На заўтра і Коля да іх прыехаў. Жыць пачалі ўпяцёх. Ушасцёх нават — калі ката лічыць. Бацькі — людзі вясёлыя. Самі ж у значна горшых умовах пачыналі. Ну, а пасля, покуль абжыліся-ўладкаваліся, ізноў смаркатая восень, шэрань і слота. Ніхто ўжо пра вяселле ўслых і не згадваў.

Коля ва ўніверы мінскім вучыўся. На завочным. У райцэнтры тэхнікум скончыў і сантэхнікам працаваў. З халтурамі штосьці выходзіла, але не дужа яму гэта, ясная справа, падабалася. Цяжарнасць Любіна як снег звалілася, і Коля — з мамкінай падказкі, пэўна, — нават паспрабаваў быў намякнуць: маўляў, давай мо пачакаем, час цяпер незразумелы, універ во яму хоць бы скончыць. Але Люба цвёрда абсекла: не хочаш — не трэба: я й сама дзіцёнка выгадую. Але тады, як затрымка здарылася, і Люба не адразу з лёсам змірылася. Да апошняга спадзявалася, што гэта толькі затрымка. Сама яна на рынку працавала. Рэалізатаркай. А хто ж табе на рынку які дэкрэтны адпачынак аформіць — у яе й працоўнай не было. Ну а як?..

А тады ні ў аднай аптэцы тэсту на цяжарнасць не знайшлося. І паехаў Коля ў Мінск — у яго якраз сесія пачыналася — са слоічкам Любінай мачы, набыў тэст і, не дачакаўшыся вечара, ва ўніверскай прыбіральні ўсё і спраўдзіў. Так хацелася, каб адна рысачка на тэсце праявілася, але ж не — праявіліся дзве!..



Малюнак mchs.gov.by

Цяпер пра ўсё гэта са смехам згадваецца. А насамрэч — і не згадваецца ўжо. Нібыта й ваганняў ніякіх не было. Такі Славічак ладненькі й пацешненькі выйшаў. Цьху-цьху-цьху…

Карацей, засталася Люба дэюрэ «адзіночкай». А тут сяброўка з рынку параіла: ты схадзіла б у сацаддзел, на дапамогу памперсную падала. І ў чаргу на кватэру запішыся, ці мала што? Ну, яна й пашла, і падала, і запісалася. Яе ўключылі ў нейкі нібыта хутчэйшы спіс — не самы хуткі, вядома ж: «Ну, вы ж разумеце, цяпер галоўны прыярытэт для дзяржавы — мнагадзетныя сем'і. Ну, і пра маці-адзіночак мы таксама, канешне, помнім», — запэўнілі.

Дапамогі той і сапраўды толькі на два пачкі «памперсаў» хапала. Затое неўзабаве прыйшлі з сацаддзела — правяраць, з кім яна ў кватэры жыве, як жыве і, зрэшты, ці жыве. Добра, што Колі дома не было. Прайшліся па пакоях, нават у шафу зазірнулі. Спыталі, чые красоўкі мужчынскія ў вітальні стаяць. Адказала: бацькавы. Пазіралі крыху падазрона, але нічога, абышлося. Сыйшлі.

І вось цяпер ізноў гэты сацаддзел са сваёй акцыяй па падтрымцы малазабяспечаных катэгорыяў...

Люба прачытала на нейкім мамскім форуме, што пад маркай усталёўкі апавяшчальнікаў насамрэч праводзяць дагляд кватэр: ці сапраўды мнагадзетныя альбо «адзіночкі» тут жывуць, ці ложкі дзіцячыя стаяць. Могуць і ў шафу зазірнуць (гэты факт асабліва абураў форумных змагароў) — паглядзець, якая вопратка на паліцах ляжыць. Хтосьці пісаў, нібыта прыйшлі так у кватэру, дзе шматдзетныя прапісаны, а там — толькі бабця з дзедам. Аказалася — яны на чарзе стаяць на жыллё, з бацькамі прапісаныя, а самі кватэру здымаюць (ну як ты рэальна ўсямёх у двухпакаёвай хрушчоўцы з 5-метровай кухняй памесцішся?). І суседзяў распыталі, ці часта яны дзіцячыя енкі чуюць. А насамрэч — не чуюць. Гэта ў хрушчоўцы! Карацей, выкінулі тых мнагадзетных з ільготнай чаргі. «Давай, дасвіданія», як кажуць…

Пісалі, што Цыбуленка даў загад скарачаць чэргі «нуждающихся», і вось пачаліся акцыі. Бясстрашныя форумныя жыхары абурана лямантавалі: ды хай бы да мяне прыйшлі са сваімі пажарнымі апавяшчальнікамі — я б іх на парог не пусціў! А яшчэ дазваляць столь псаваць? Ды з якое радасці? Ды я б іх!..

Тое ж самае, дарэчы, і Любін бацька сказаў: пасылаць іх куды падалей — але маці абачліва запярэчыла: хай сабе ўсталююць, і забудземся на іх. Нашто гусей дражніць? Ды й напраўду — а калі пажар? Праводка ж, пэўна, з пяцідзясятых гадоў не мянялася.

Званок у дзверы пачуўся праз тыдзень пасля тэлефанавання, калі Люба крыху страціла пільнасць, заспеўшы Колю дома: зайшоў перахапіць у абед. Коля прапанаваў не адчыняць, але Люба, завесіўшы фіранкі ў дзіцячым пакоі і замкнуўшы Колю з малым у «гаванне», дзе яны караблік пускалі (Славіка на ўсялякі пажарны шчэ й дунду ўсунула), усё ж адчыніла. На парозе стаяў мужык з перфаратарам і інструментальнай скрыняй. Са скрыні ён выцягнуў два апавяшчальнікі, падрабязна распавёў, як імі карыстацца (калі батарэйку мяняць, як чысціць). Збіраўся ўжо прадэманстраваць, як, уласна, апавяшчальнік апавяшчае, але Люба паверыла на слова, кіўнуўшы на дзверы пакоя, маўляў, дзіцёнак спіць. Таму й свідраваць нельга.

— Нашто вам час губляць. У вас жа, пэўна, шмат працы яшчэ. Мы самі ўсталюем. Бацька мой прыйдзе ўвечары і прыкруціць.

Мужчына не настойваў.

Калі ён ужо стаяў у дзвярах, з купальні пачуўся грукат.

— Гэта хто там у вас? — пацікавіўся ён.

— А-а, гэта кот. Ваду любіць піць з-пад крана. Напэўна, мыльніцу развярнуў.

— Кот? А-а… Усяго добрага.

Сацаддзел Дзяржынскага раёна месціўся рыхтык у такім жа двухпавярховіку, як і Любіна кватэра. У цэнтры райцэнтра такіх будынкаў, абабітых звонку вагонкаю — іх па старой памяці называлі баракамі — захавалася нямала яшчэ з даваеннага часу. У іх пераважна месціліся ўсялякія ўстановы. Абстаноўка ўнутры была не проста спартанская. Тут хутчэй падышоў бы эпітэт «жабрацкая»: рыпячая драўляная падлога з аблезлай фарбаю, патрэсканыя сцены, даўно не бялёная (ці: даўно бялёная) столь у жоўтых разводах. І сёй-той, хто ўваходзіў сюды з цвёрдым намерам прасіць і патрабаваць, ну, не тое, што пакідаў надзею, але тут жа губляў увесь імпэт і рашучасць. Маўляў, калі начальства ў такіх умовах жыве, то што ўжо нам-смяротным…

Хіба што супрацоўніцы са сваімі баявымі макіяжнымі расфарбоўкамі й сучасныя кампутары з пляскатымі маніторамі стваралі рэзкі дысбаланс з сірочасцю агульнай абстаноўкі. Ну і апавяшчальнікі, у вялізнай колькасці, нібы маленькія касмічныя апараты, прысмакталіся да жоўтае столі ўсіх калідораў і кабінетаў…

Начальнік сацыяльнага аддзела, вярнуўшыся з абедзеннага перапынку, з засяроджаным выглядам раскладваў пасьянс-павук, калі ў дзверы пагрукалі:

— Сяргей Аляксандравіч, вас просяць зайсці галава, — паведаміла бландзіністая сакратарка. — І дадала: — Зараз.

— Добра, дзякуй. Нешта здарылася?

— Ды не. — Сакратарка прычыніла дзверы і, панізіўшы голас, па-змоўніцку прамовіла. — Там у яго госць. Сказаў нікога не пускаць. Ужо дзве гадзіны сядзяць. Я на абед выходзіла, а яны там так і засталіся. Скрынку нейкую прывёз.

І, ужо ў дзвярах: — Нумары на машыне — з сямёрачкай…

— Знаёмцеся, гэта Алег Фёдаравіч. З Мінска да нас, — галава зрабіў шматзначную паўзу. Алег Фёдаравіч кіўнуў. Трымаўся ён ціха, але значна. Чамусьці ў Сяргея Фёдаравіча не ўзнікла сумневаў адносна месца яго працы.

Галава працягваў:

— Думаю, што каму-каму, а не вам, Сяргей Аляксандравіч, трэба нагадваць, пад якім дэвізам праходзіў гэты год. Беражлівасць, беражлівасць і яшчэ раз беражлівасць. Між тым, не ўсе разумеюць гэта, патрабуючы ад дзяржавы, у цяперашніх няпростых варунках, часам неадэкватнай падтрымкі і нават апекі. Недаравальным марнатраўствам было б, калі б мы, тыя, каму народ даверыў клопат пра сябе, сядзелі, склаўшы рукі, і пазіралі, нібы мышы з-пад веніка. — Галава важка заклаў руку за борт пінжака. — Ніякіх экстрэмісцкіх настрояў у нашым горадзе, дзякуй богу, не назіраецца. Незарэгістраваныя арганізацыі сваю дэструктыўную дзейнасць у нас не праводзяць, як у Мінску, — тут Алег Фёдаравіч прыўзняў і пачаў ссоўваць бровы. Галава хутка выправіўся. — Як у Мінску праводзілі да нядаўняга часу. Стараннямі Алега Фёдаравіча і яго калег усе намаганні ворагаў нашага спакою і дабрабыту пацярпелі суцэльны крах.

Бровы госця рассунуліся, заняўшы свае ранейшыя пазіцыі.

— Так, у нас сацыяльная дзяржава. Між тым, шмат хто спрабуе на гэтым паразітаваць. І вы, Сяргей Аляксандравіч, цудоўна ведаеце, што вышэйшым кіраўніцтвам краіны пастаўлена задача выявіць гэтых нядобрасумленных грамадзян. Асабіста вам пастаўлена… Па пэўных падліках, каля паловы чаргавікоў, якія прэтэндуюць на ільготнае жыллё, насамрэч ніякіх прывілеяў не маюць. Наколькі паспяхова вамі як начальнікам сацыяльнага аддзела праводзіцца праца па вычляненні такіх элементаў? — нечакана рэзка ва ўпор запытаў галава Сяргея Аляксандравіча.

— Ды… працуем э-э… у штатным рэжыме. — Сяргей Аляксандравіч зразумеў, што цяпер вырашаецца яго лёс. — Ды як ты іх вычленіш, гэтых элементаў? Колькі нас, правяральшчыкаў, а колькі іх?..

Галава хітравата па-змоўніцку зірнуў на Алега Фёдаравіча.

— А вось таму таварышы з Мінска і прыехалі да нас. Каб досведам з намі падзяліцца. Гэта вам, Сяргей Аляксандравіч, не пасьянсы раскладваць. Тут трэба дзейнічаць хутка й пэўна, — галава ледзь скрываў унутранае трыумфаванне ад выгляду раптоўна пачырванелага начальніка аддзела.

— Зірніце, калі ласка, вось на гэта. — Галава дастаў з вялікай скрыні, што стаяла за фіранкай, апавяшчальнік.

Сяргей Аляксандравіч узяў апарат, пакруціў у пальцах і паклаў на стол.

— Звычайны апік. Батарэйка толькі харошая. Такой на год а мо й на два хопіць. Не тое, што нашыя. Пару месяцаў — і капец.

Галава шырока пасміхаўся. Рэдка калі начаддзела бачыў шэфа ў нагэтулькі прыўзнятым настроі.

— А цяпер зірніце сюды, — галава развярнуў на 180 градусаў манітор свайго кампутара. — Можаце памахаць ручкай…

Агаломшаны начальнік аддзела бачыў у маніторы… сваю патыліцу. Ён рэзка павярнуўся й зірнуў на столь. Са столі на яго глядзеў аўтаномны пажарны апавяшчальнік.

— Можаце прайсці ў свой кабінет. Алег Фёдаравіч пазнаёміць вас з тэхнічнымі дэталямі вашай новай працы.

Люба ўжо стаяла ў дзвярах з вазком, збіраючыся выходзіць на дзённы шпацыр, як у вітальні забрыньчаў тэлефон.

— Алё?

— Сацаддзел. Ці прымацавалі вы да столі аўтаномны пажарны апавяшчальнік?

— Пакуль яшчэ не. Не паспелі, — не здолела ад такой нечаканкі схлусіць Люба. І хутка дадала: — Але яны знаходзяцца амаль пад столлю: адзін на лядоўні, другі на шафе, — усё-ткі схлусіла, гледзячы на «апікі», якія як ляжалі, так і ляжалі на тумбачцы ў вітальні.

— Не, ведаеце, трэба ўсё ж прымацаваць. Да нас паступаюць сігналы, што шмат у каго апавяшчальнікі не прымацаваныя. Але ж, па нормах і інструкцыі, яны гарантавана дзейнічаюць толькі ў палажэнні пад столлю сетачкай уніз. Зразумейце, нас жа таксама кантралююць. — Танальнасць голаса нечакана набыла штосьці, адрознае ад аўтаадказніка. — Вы ж не будзеце супраць, калі наш спецыяліст завітае да вас і ўсталюе іх?

— Ды вядома ж, калі ласка…

— Вось і добра. Там, дарэчы, у вас хутчэй за ўсё адзін бракаваны трапіўся. Заадно і заменіць…




АПОВЕД

# АПОШНІ СВІТАНАК

Антось УЛАСЕНКА

**Ізноў дождж, дробны, пранізлівы. Ізноў Лукішскі пляц — на світанку апошняга дня. І ўсё як быццам бы ўпершыню: і тыя кайданы, і тое шэрае неба над галавою. Зноўку пішу з-пад шыбеніцы, не цямячы ні халеры, хто ж я такі насамрэч: першы беларускі рэвалюцыянер Кастусь Каліноўскі? альбо polski dyktator Litwy Wincenty Konstanty Kalinowski? гарадзенскі шляхціц Ігнат Вітажэнец, што асеў у віленскіх Святаянскіх мурах? ці Викентий Калиновский, «самолюбивый безумный мятежник» і «мифический герой» з савецкіх падручнікаў? ці ж Яська-гаспадар з-пад Вільні, з дзядоў-прадзедаў мужык? а мо і lietuvos nacionalinis didvyris Kostas Kalinauskas? Не ведаю, не памятаю, не разумею…**

І бачыцца праз імжу дзясяты тралейбус, што ідзе на Антокаль. І чуецца знаёмы пяшчотны голас: «Stotelė Lukiškės. Kita — Kražių stotelė». З тралейбуса выцякае натоўп еўрапейскіх турыстаў з «мыльніцамі», якія сёння адмыслова сабраліся, каб паглядзець на маё павешанне. Калі ласка, калі ласка, запрашайма ўвесь паспаліты люд!

А паліцмейстары ўжо вядуць мяне да будынка Lietuvos muzikos ir teatro akademija, з вокнаў якога льецца маркотная фартэпіянная музыка. Што гэта: «Развітанне з Радзімай» Міхала Агінскага ці «Pożegnanie Ojczyzny» Michała Kleofasa Ogińskiego? Ніяк не пазнаю… Але ж навошта нам у той бок? Тамака няма маёй збавіцелькі, шыбеніцы, адно толькі крыж ахвярам савецкага генадыцу ды музей КДБ. Не, толькі не туды, прашу, прашу, толькі не ў НКВДэшныя катавальні…

Нібы пачулі. Канвой заварочвае, і вось я ўжо гляджу на касцёл святых Якуба і Піліпа, а пад самымі ягонымі мурамі бачу драўляны крыж, які паставяць тут з нагоды маёй смерці. Але ці ж маёй? Бо дата нараджэння на мемарыяльнай пліце не тая, ды і шыбеніца, здаецца, стаяла не на тым месцы. Здаецца… Ні ў чым ужо я не ўпэўнены. Столькі разоў даводзілася тут паміраць, а цяпер і месца ўласнага пахавання не ўзгадаю: часам прыемна думаць, быццам рэшткі мае знайшлі прытулак непадалёк — на вяршыні Замкавай гары, а часам не-не, ды і прымроіцца агульная магіла ў вёсачцы Плябань Маладзечанскага павета.

Можа, усё гэта здарылася не са мною? Не я рыхтаваў паўстанне, не я сядзеў у даміканцаў, не я пісаў pismo do ludu Białoruskiego z-pod szybienicy… Але хто ж тады? Мо так і пачынаецца вар'яцтва? Не ведаю. Ды што наогул я ведаю, калі нават дату сённяшнюю не назаву дакладна — ці то дзясятага, ці то дваццаць другога сакавіка.

Але паліцмейстар падштурхоўвае ў спіну, і мы праз натоўп рушым да шыбеніцы. Час ужо пераваліў за дзесяць гадзін, а сонейка ўсё ніяк не асвятліць гэтую золкую раніцу. Дажджыць.

Смела іду наперад. Трымаю сціснуты кулак ля сэрца і шукаю вачыма знаёмыя твары. Іх няма: усё гэта людзі не майго часу — чужыя, незразумелыя. Хто яны? Беларусы, краёўцы, ліцвіны, тутэйшыя, крывічы? Не разабраць. Іхнімі вачыма быццам глядзяць будучыя пакаленні майго народа і моляць: «Дай нам параду. Натхні нас. Ратуй нас».

Якой жа вам яшчэ парады? Зноў і зноў праходжу я свой шлях ад пачатку да самага канца, не баючыся і не азіраючыся. Вось і цяпер крочу да шыбеніцы, горда і годна трымаючы галаву. Ссечаны плецьмі, але незламаны. Ці мала вам такога прыкладу? Колькі яшчэ разоў падымацца мне на сваю Лукішскую Галгофу, покі вы не ўцяміце, што вам рабіць, каб удужыць волі?

У вачах вашых сумнеў. Бы кажаце: «Ты ж зараз загінеш. Які з цябе прыклад? Пабойся Бога, чаму ты здольны нас навучыць?».

Так, загіну. І што з таго? Я ўжо безліч разоў паміраў за вас і буду паміраць нанова, пакуль не ачуняеце. Буду, ведайце ж, рыхтаваць паўстанні, пісаць лісты дзецюкам сваім і бянтэжыць людскія сэрцы думкамі пра блізкую волю. І шчэ не аднойчы будзе той самы дождж, і той самы Лукішскі пляц — на світанку апошняга дня…

Але кожны раз перад смерцю кат скідвае з мяне кайданы — вы ж са сваімі не растаецеся да самай труны.

Маўчаць. Апускаюць вочы.

Як заўсёды.

Гляджу на іх, але не знаходжу той адзінай, якую больш за ўсё жадаю пабачыць. Дзе ты, мая галубка, Марыська мая чарнаброва? Чаму цябе няма побач? Няўжо — страшэнная думка — няўжо і ты нерэальная, як астатняе маё жыццё? Тады, атрымліваецца, не было ніякай Марыі з Ямантаў, а была адно алегорыя маёй зямлі, у якую я бязмерна закаханы… Добра, няхай так. Я гатовы адмовіцца хоць бы і ад кахання зямнога, каб толькі вы здолелі адчуць сапраўдную любоў да роднага краю.

Няма на пляцы і здрадніка. Хачу верыць, што сумленне не дазволіла б Вітаўту Парфіяновічу прыйсці сюды, што ў гэты момант ён спавядаецца перад святымі абразамі, зразумеўшы, якое вялікае зло ўчыніў. Хачу верыць…

Мінорнае «Развітанне з Радзімай» з вакон музычнай акадэміі тым часам змяняецца мажорным «Паланэзам смерці».

І бачу постаць мніха на званіцы святых Якуба і Піліпа. Бі, братка, бі ў званы! Чаго ж ты марудзіш? Няхай яны аплачуць мой канец, няхай звон той разнясецца па-над Вільняй, скліча сонейка, вясну ды надзею на гэтую шматпакутную зямельку.

А вось і ты, мая ратавальніца — сумна працягваеш да мяне пятлю. Людзі навокал расплываюцца і марнеюць, сумяшчаючца прастора і час, блытаюцца мары і ўспаміны. То прымроіцца зімовая плошча, залітая крывёю, дзесь далёка; то — гандлёвыя намёты Казюкоў увесну. І над усім лунаюць бел-чырвона-белыя сцягі.

Грымяць барабаны.

Узыходжу на эшафот. На шыю накідваюць вяроўку, скідваюць з ног кайданы. Зачытваюць мураўёўскую канфірмацыю.

А сонца ўсё няма, а дождж усё ліе. Так і не дацягну да сапраўднай вясны. На жаль.

Кідаю апошні позірк на свой народ, з чыім лёсам звязаны навечна, — і не веру вачам! Усе як адзін выпрамляюць спіны, усміхаюцца і пачынаюць пляскаць у ладкі, не зважаючы на шыкаючых паліцмейстараў. Няўжо?! Няўжо нарэшце хоць штосьці?.. Значыцца, ёсць шанец…

Галава ідзе кругам. Звіняць званы, грымяць барабаны, пляскаюць у далоні людзі, ільецца пошчак дажджу.

Я, Кастусь Каліноўскі, сын зямлі беларускай, у фінальныя імгненні свайго жыцця крычу ў шэрае неба, як крычаў незлічоныя разы да таго і буду крычаць зноў і зноў:

— Каго любіш?

І кожны раз, робячы апошні крок з эшафота, спадзяюся. Хачу. Жадаю. Прагну пачуць у адказ:

— Беларусь!

ВЕРШЫ

# НА ПОЎДЗЕНЬ АД ПАЎНОЧНАЙ КАРЭІ

Андрэй ХАДАНОВІЧ

## Цягнік Чыкага-Токіа

*Сёння я дабіраўся*
*з Чыкага ў Токіа на цягніку,*
*бо калі самалёт ляціць 13 гадзінаў,*
*гэта ўжо цягнік.*

*Гэта як стартаваць у Берасці*
*і цэлую ноч ехаць у Гомель,*
*адсочваючы па маніторы*
*рух свайго цягніка,*
*што мусіць абагнуць Ціхі Акіян*
*праз Канаду, Аляску,*
*Камчатку й Сахалін.*

*У агульным вагоне*
*гучыць класічная музыка.*
*Па калідоры праходзяць*
*бездакорна ветлівыя правадніцы,*
*разносячы рысавыя крэкеры.*

*Бліжэй да адзінаццатай,*
*ужо за канадскай мяжой,*
*пасажырам прапаноўваюць найлепшае ў Фаніпалі*
*слівовае віно з лёдам —*
*і я адчуваю, як у цемры, за ілюмінатарамі вагона,*
*расцвітаюць слівы, вішні й сакуры.*

*Апоўначы*
*у Петрапаўлаўску-Камчацкім*
*у цягнік заходзяць цёртыя жыццём мужчыны,*
*прапануючы памяняць украінскія грыўны*
*на японскія ены.*

*А пад раніцу ў Сапара*
*вагон запаўняюць мясцовыя бабулькі,*
*з гучным крыкам просячы купіць*
*яшчэ цёплае сакэ,*
*свежазгатаваныя хатнія сушы*
*і самаробныя нэцкэ*
*у выглядзе плюшавых мядзведзікаў,*
*якімі ім тут выдаюць зарплату.*

*Цягнік набліжаецца да станцыі прызначэння.*
*Машыніст з японскім прозвішчам,*
*што адзін у адзін супадае з тваім, любая,*
*у апошні раз звяртаецца да пасажыраў*
*на прыўкраснай беларускай мове*
*з ледзь прыкметным паўночна-карэйскім акцэнтам.*

*А я ў чарговы раз думаю, як гэта сумна:*
*большую частку дарогі*
*зноў ехаць без цябе,*
*бо ты сышла яшчэ ў Аранчыцах,*
*а я паехаў далей.*

## Раманы

*Ён нарадзіўся на пачатку XX ст.*
*Праз дваццаць год выдаў свой першы раман,*
*які адразу быў перакладзены на дваццаць моваў.*

*Герой, дваццаціgадовы паэт,*
*расчароўваецца ў творчасці,*
*але потым прыходзіць у літаратурны музей,*
*закохваецца ў прыгожую супрацоўніцу,*
*дабіваецца яе кахання, зноў пачынае пісаць,*
*але неўзабаве памірае ў ейных абдымках,*
*так і не паспеўшы нічога пакінуць нашчадкам.*

*У сябе на радзіме*
*раманіст атрымаў усе магчымыя ўзнагароды*
*і быў прызнаны жывым класікам.*

*Праз дваццаць год літаратурнай дзейнасці*
*ён быў вылучаны на Нобелеўскую прэмію,*
*якой не атрымаў,*
*што моцна абурыла ўсіх ягоных землякоў.*

*Яшчэ праз дваццаць год*
*ён памёр у сваім ложку,*
*так больш і не напісаўшы ніводнага рамана.*

*У год смерці класіка*
*ў яго родным горадзе быў заснаваны літаратурны музей,*



Фота www.budzma.org

*а трохі пазней — надрукаваны каляровы буклет*
*пра ягоныя жыццё і творчасць,*
*якім праз дваццаць год малады наведнік музею,*
*паэт-пачатковец,*
*захінуў ад ліўня прыгожую экскурсаводку,*
*што сама ніколі б не наважылася*
*так абыйсціся з каштоўным рарытэтам.*

*Праз дваццаць дзён*
*ён прыйшоў да яе на працу —*
*у панядзелак, калі ў музеі быў выходны*
*і ніхто не замінаў прызнацца ў каханні.*

*Яшчэ праз дваццаць дзён,*
*напісаўшы свой найлепшы любоўны верш,*
*ён наважыўся папрасіць у дзяўчыны рукі,*
*якую атрымаў,*
*што моцна абурыла ўсіх ейных землякоў.*

*Яшчэ праз дваццаць дзён,*
*упершыню займаючыся з ёй каханнем,*
*ён падумаў, што вельмі ўдзячны класіку*
*і абавязкова перачытае ягоны раман.*

*Праз дваццаць год ён памёр у сваім ложку*
*ў абдымках прыгожай жонкі,*
*якая да канца жыцця*
*працавала экскурсаводкай у музеі,*
*так больш і не завёўшы*
*ніводнага рамана.*

*Цяжка сказаць, які з двух атрымаўся лепшым.*

* * *

*Пасярэдзіне вялікага возера*
*пад праліўным дажджом*
*высока ў неба б'е фантан,*
*як помнік*
*чыстаму мастацтву.*

## Вершык для Тэадора Адорна

*«Яны нічога не ведаюць пра нас», —*
*кажа мне знаёмая,*
*варшаўская пісьменніца.*

*«Вядома ж, — адказваю ёй,*
*паказваючы на Скарыну з кухлем*
*на сваёй майцы. —*
*Усе пытаюць, што гэта за чувак з півам».*

*«Гэта што, — кажа яна, —*
*адзін сёння запытаўся:*
*«Польшча — гэта дзе?»*
*А потым яго азарыла:*
*«А, ведаю, Аўшвіц!»*

*Уяўляеш, Андрэю,*
*адзіная асацыяцыя з палякамі».*

*«З беларусамі і такой няма», —*
*кажу ёй.*
*А потым мяне азарыла:*

*«Не, і ў нас ёсць свой Аўшвіц,*
*і ты нават ведаеш яго прозвішча».*

## Высокія тэхналогіі

*Яблыкі ў Паўднёвай Карэі*
*нашмат большыя й саладзейшыя,*
*бо растуць адразу ў спецыяльных упакоўках.*

*«Плады высокіх тэхналогіяў», —*
*жартуе адзін падарожнік.*

*«Садавіна Samsung», —*
*працягвае другі.*

*«Яблыкі Apple», —*
*дадае трэці.*

*Кіроўцу-карэйцу падабаецца,*
*і ён пляскае проста на хаду,*
*не здымаючы са стырна*
*адной далоні.*

## Інь і Ян, або Вадзяністая бульба

*Хто можа прыйсці на сустрэчу*
*з беларускім літаратарам*
*на аддзяленне русістыкі ўніверсітэта*
*ў няблізкіх ваколіцах Сеулу?*

*Яна мела такія вейкі,*
*што веер быў непатрэбны.*

*Ейны голас звінеў,*
*як карэйскія званочкі,*
*збіраючы ўсіх навакольных турыстаў,*
*што слухалі разам са мной.*

*Яна папрасіла зваць яе Інай,*
*хоць так напраўду ейнае імя Ін Янь.*
*А, можа, нават Інь Ян?*

*Яе расійская мова*
*была таямнічая, як усходнія іерогліфы,*
*і магла значыць усё, што заўгодна.*

*«У вас ёсць відзіная картошка?»*

*Вадзяністая?*
*Я на адным дыханні*
*прачытаў ёй лекцыю пра бульбу*
*як крыніцу жыццёвай энергіі*
*і сэксуальнасці беларускіх мужчынаў.*

*Але яна відавочна хацела чагосьці іншага:*
*«У вас ёсць відзініая картошка?»*

*Я расказаў ёй рамантычную гісторыю*
*пра студэнта й студэнтку, што паехалі на бульбу*
*і аднойчы так прамоклі пад дажджом,*
*што дагэтуль жывуць разам.*

*Кроплі дажджу*
*стукалі па ўніверсітэцкім ганку,*
*не кранаючы ейных веек,*
*а яна, ужо ледзь не плачучы,*
*паўтарала: «У вас ёсць відзіная картошка?»*

*І тут да мяне дайшло.*
*Дай Бог здароўя прарэктару,*
*у кішэні якога знікла мая апошняя візітоўка:*
*цяпер я маю законную нагоду*
*уласнаручна накрэмзаць ёй усё, што захача.*

*«Я буду пісаць вам, — паабяцала Інь Ян. —*
*А калі вы раптам забудзеце, хто я,*
*пароль: вадзяністая бульба».*

*Я не забуду.*

**Кёнджу-Сеул, верасень 2012**



НАВЭЛЫ

# ТЭАТР У ВАКНЕ

Ільзэ АЙХІНГЭР





Жанчына абаперлася на падваконне і вызірнула на вуліцу. Вецер налятаў лёгкімі павевамі ад ракі і не прыносіў нічога новага. У жынчыны быў засяроджаны позірк цікаўных ненасытных людзей. Але яшчэ ніхто не зрабіў ёй задавальнення апынуцца пад коламі машыны перад ейным домам. Да таго ж яна жыла на перадапошнім паверсе, і дарога была далёка ўнізе. Толькі шум лёгка падымаўся наверх. Усё астатняе было далёка ўнізе. Калі яна ўжо хацела адысці ад акна, то заўважыла, што стары ў доме насупраць запаліў святло. Паколькі яшчэ было светла, тая лямпачка была ледзь заўважная. Яна стварала тое ж дзіўнае ўражанне, што і вулічныя ліхтары ў промнях сонца. Нібыта нехта запаліў свечкі на сваім акне да таго, як працэсія пакінула царкву. Жанчына засталася глядзець. Стары адчыніў акно і заківаў галавой у ейны бок. «Гэта ён мне?» — падумала жанчына. Кватэра над ёй была пустая, а знізу была майстэрня, якая ў гэты час ужо зачыненая. Яна крыху нахіліла галаву. Стары зноў заківаў. Ён крануў свой лоб, заўважыў, што не мае капелюша, і знік углыбіні пакоя.

Ён хутка вярнуўся ў капелюшы і паліто. Стары зняў капялюш і пасміхнуўся. Потым ён выцягнуў з кішэні белую насоўку і пачаў махаць. Спачатку асцярожна, затым усё хутчэй. Ён звесіўся з акна, і жанчына баялася, што ён можа вываліцца. Яна зрабіла крок назад, але гэта нібыта толькі падбухторвала яго. Стары выпусціў з рук насоўку, зняў з шыі шалік — вялікі стракаты шалік, — цяпер той лунаў у вакне. Стары пасміхаўся. Калі жанчына зрабіла яшчэ крок назад, стары рэзкім рухам скінуў капялюш і абматаў шалік вакол галавы нібы цюрбан. Потым ён скрыжаваў рукі на грудзях і пакланіўся. Падымаючы галаву, ён падміргваў левым вокам, нібыта між імі існуе нейкая таемная дамова. Усё гэта падабалася жанчыне, пакуль раптам яна не ўбачыла толькі ягоныя ногі ў тонкіх залатаных аксамітных штанах, якія боўталіся ў паветры. Ён стаяў на галаве. Калі з'явіўся ягоны твар, чырвоны, разгарачаны і лагодны твар, яна ўжо выклікала паліцыю.

Стары захінуўся ў ільняны абрус, з'яўляўся па чарзе ў двух сваіх вокнах, а жанчына ў гэты час ужо магла адрозніць сярод званкоў трамвая і прыглушанага шума вуліцы гук сірэны паліцэйскай машыны. Ейнае тлумачэнне прагучала не вельмі зразумела, а голас быў усхваляваны. Стары засмяяўся, ад гэтага на ягоным твары былі відны глыбокія маршчыны. Потым ён нейкім няпэўным рухам нібы зняў далонню ўсмешку з твара, пасур'ёзнеў. Здалося, нейкае імгненне ён трымаў тую ўсмешку ў руцэ, а затым кінуў яе наперад. Толькі калі машына з'явілася за рагом вуліцы, жанчына змагла адарваць ад яго позірк.

Ледзь дыхаючы, яна спусцілася. Вакол паліцэйскай машыны сабраўся натоўп. Паліцыянты заскочылі ў дом, за імі жанчына і іншыя людзі. Калі паліцыянты паспрабавалі выгнаць іх, яны ў адзін голас заявілі, што жывуць тут. Некаторыя падняліся на апошні паверх. Стоячы на сходах, яны назіралі, як мужчыны ўзламалі дзверы, пасля таго, як на грукат ніхто не адчыніў, званок, відаць, не працаваў. Яны дзейнічалі хутка і з такой упэўненасцю, якой мог бы пазайздросціць любы ўзломшчык. Яны апынуліся ў калідоры, вокны якога выходзілі на двор, і не згубілі ні секунды. Двое з іх знялі боты і пракраліся ў кватэру. Ужо цямнела. Яны наткнуліся на вешалку з вопраткай, заўважылі святло ў канцы вузкага праходу — і пайшлі на яго. Жанчына ішла за імі.

Калі дзверы адчыніліся, стары ўсё яшчэ стаяў ля акна спіной да іх. У яго на галаве была вялікая белая падушка, якую ён час ад часу здымаў, нібыта тлумачыў камусьці, што хоча спаць. На плячах у яго быў кілім, які раней ляжаў на падлозе. Стары быў глухаваты, таму ён не азірнуўся нават, калі мужчыны сталі зусім блізка ад яго, а жанчына глядзела паўз яго на сваё цёмнае вакно.

Майстэрня знізу, як жанчына і думала, была зачыненая. Але ў кватэру зверху ўжо, мусіць, засялілася новая сям'я. У адным з асветленых пакояў быў дзіцячы ложак, а ў ім стаяў маленькі хлопчык. Ён таксама трымаў падушку на галаве і коўдру на плячах. Хлопчык падскочыў, памахаў рукой, яго перапаўняла радасць. Ён засмяяўся, правёў далонню па твары, пасур'ёзнеў. Здалося, нейкае імгненне ён трымаў сваю ўсмешку ў руцэ. А затым кінуў яе з усяе моцы ў твар паліцыянтам.

# КАЗКА ПРА МАЛЕНЬКАГА СПАДАРА МОРЫЦА, У ЯКОГА З'ЯВІЛАСЯ ЛЫСІНА

Вольф БІРМАН



Жыў некалі адзін маленькі сталы спадар, якога звалі спадар Морыц. У яго былі вялікія боты і чорнае паліто, а яшчэ даўгі чорны парасон, які ён часта браў з сабой, ідучы на шпацыр.

Калі прыйшла даўгая зіма, найдаўжэйшая зіма ўсіх часоў у Берліне, людзі сталі часцей злавацца. Кіроўцы лаяліся, бо дарогі былі надта слізкія, і машыны заносіла. Рэгулёўшчыкі лаяліся, таму што ім увесь час даводзілася стаяць на холадзе. Гандляркі лаяліся, бо ў іхніх крамах было вельмі халодна. Працоўныя са смеццявозаў лаяліся, таму што снег не сканчаўся. Малочнік лаяўся, бо ў бітонах замёрла малако. Дзеці лаяліся, таму што іхнія вушы пазамярзалі да чырвані, а сабакі ўжо нават не брахалі ад злосці на холад, яны толькі дрыжэлі і стукалі зубамі ад марозу, і ад гэтага здаваліся раз'юшанымі.

У адзін з такіх халодных снежных дзён спадар Морыц выйшаў прагуляцца ў сваім сінім капелюшы. Ён думаў: «Якія ж злыя людзі навокал, самы час, каб зноў прыйшло лета і выраслі кветкі».

І вось ён ішоў з такімі думкамі праз натоўп на кірмашы, дзе паўсюль лаяліся людзі. А ў гэты час неверагодна хутка выраслі крокусы, цюльпаны і ландышы, ружы і гваздзікі, дзьмухаўцы і маргарыткі. Але ён гэтага зусім не заўважаў, хоць ягоны капялюш ужо даўно прыўзняўся над галавой, бо кветак станавілася ўсё больш і яны раслі вышэй і вышэй.

Адна жанчына спынілася перад ім і сказала: «Вой, якія ж прыгожыя кветкі растуць у Вас на галаве!». «Кветкі ў мяне на галаве! — ускрыкнуў спадар Морыц. — Быць такога не можа!»

«Можа! Зірніце вось у вітрыну, там відаць Вашае адлюстраванне. Дазволіце сарваць адну кветачку?» Спадар Морыц убачыў у сваім адлюстраванні ў вітрыне, што на ягонай галаве насамрэч растуць кветкі, рознакаляровыя і вялікія, усялякіх відаў, і ён сказаў: «Ды на здароўе, калі Вы хочаце кветку...».

«Мне б хацелася невялічкую ружу», — сказала жанчына і сарвала адну кветку.

«А мне б гваздзік для майго брацікa», — папрасіла маленькая дзяўчынка, і спадар Морыц нахіліўся, каб дзяўчо змагло дастаць да ягонай галавы. Але яму не давялося нахіляцца вельмі нізка, бо ён быў крыху меншы за іншых мужчынаў. Шмат людзей падышлі, каб сарваць сабе кветку з галавы маленькага спадара Морыца. Яму зусім не было балюча, а кветкі выраслі наноў. Ад гэтага было крыху казытна, нібыта нехта пяшчотна гладзіў па галаве. Спадар Морыц быў рады, што пасярод халоднай зімы ён мог дарыць людзям кветкі. Людзей станавілася ўсё больш, яны смяяліся і дзівіліся, зрывалі кветкі з галавы маленькага спадара Морыца. І ніхто з тых, што атрымалі кветкі, не сказаў ніводнага злога слова ў той дзень.

Нечакана з'явіўся паліцыянт Макс Кункэль. Макс Кункэль вось ужо дзесяць гадоў быў дзяжурным паліцыянтам на кірмашы, але такога ён яшчэ ніколі не бачыў! Мужчына з кветкамі на галаве! Ён ледзь праціснуўся праз усіх гэтых людзей, а, калі апынуўся каля маленькага спадара Морыца, закрычаў: «Гэта яшчэ што такое? Кветкі на галаве, спадарства! Пакажыце зараз жа Ваш пашпарт!».

Маленькі спадар Морыц шукаў-шукаў ды і кажа ў адчаі: «Ён жа заўсёды быў пры мне, заўсёды быў у кішэні!».

І чым болей ён шукаў, тым хутчэй зніклі кветкі з ягонай галавы.

«Ага, — сказаў паліцыянт Макс Кункэль. — Як кветкі на галаве — дык ёсць, а пашпарта ў кішэні няма!»

Спадар Морыц працягваў пошукі пашпарта, баючыся паліцыянта, і ўсё больш засмучаўся ды чырванеў, і чым болей ён шукаў (нават у падкладцы курткі), тым хутчэй зніклі кветкі, а капялюш паступова апускаўся на галаву. У адчаі спадар Морыц зняў капялюш, і ўбачыў, што там, у патрапаным гумовым футарале ляжыць пашпарт. Але што ж гэта? Ягоныя валасы зніклі! Ніводнай валасінкі больш не было на галаве маленькага спадара Морыца. Ён разгублена правёў далонню па лысай галаве і хуценька надзеў капялюш.

«Ну вось і пашпарт, — спакойна сказаў паліцыянт Макс Кункэль. — Але ж і кветак ужо няма ў Вас на галаве?!»

«Няма...» — адказаў спадар Морыц, схаваў свой пашпарт і пабег, наколькі хутка можна бегчы па слізкіх вуліцах, дадому. А дома ён доўга стаяў перад люстэркам і паўтараў сабе: «Цяпер у цябе лысіна, спадар Морыц!».

Пераклад з нямецкай
Наталлі Рудак

ФЕЛЬЕТОН

# АГРЫЗКІ

Кузьма ВЯСЁЛЫ

У школе яго амаль не заўважалі. Ва ўніверсітэце не заўважалі таксама. Дзякуючы маці, што працавала ў бухгалтэрыі аддзела адукацыі, ён імкліва зрабіў кар'еру — ад настаўніка да дырэктара школы. Далей кар'ерны рост застопарыўся. Начальнік аддзела адукацыі, якой маці дырэктара дапамагала ўдала размяркоўваць казённыя будаўнічыя матэрыялы для ўласных патрэб, пайшла на пенсію.

На працягу дзесяці гадоў Сан Саныч праседжваў дырэктарскія штаны з патаемным жаданнем пераскочыць у раённую адміністрацыю абласнога цэнтра. Але там яго не дужа чакалі, хаця па інтэлектуальных здольнасцях ён ідэальна падыходзіў для пасады важнага чыноўніка з вялікімі амбіцыямі і мінімальным розумам.

— Сукі-лядзі, — вылаяўся Сан Саныч, калі ўбачыў, як выхаванцы ягонай школы раскідвалі ў двары агрызкі ад яблык.

— Выродкі, — падтрымаў шэфа пузаценькі і ружовашчокі намеснік па гаспадарчых пытаннях Віталь Аляксеевіч.

Яны ўдвох на ўскрайку школьнага двара абмяркоўвалі цэны на патрыманыя аўтамабілі. На вуліцы стаяла цёплае майскае надвор'е. Заканчваўся навучальны год. Словам, можна было крыху перадыхнуць ад напружанага працоўнага дня.

За школьным плотам прадэфіліравала маладая прыгажуня ў кароткай спадніцы. Віталь Аляксеевіч правёў яе пажадным позіркам і аблізнуўся.

— Аддзерці б такую… — летуценна заўважыў намеснік па гаспадарчых пытаннях.

Сан Саныч уважліва паглядзеў на дзяўчыну, ацаніў і з выглядам профі ўдакладніў:

— Такую і ўпяцярых можна…

Пачулася дружнае: «Гы-гы-гы».

У амурных справах Сан Саныч быў добра падкаваны. За 40 гадоў ён паспеў двойчы ажаніцца і развесціся, зрабіць траіх дзяцей і падабраць палюбоўніцу з ліку маладых спецыялістак. Цяпер ён жыў з 25-гадовай настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў інтэрнаце, размешчаным непадалёку ад школы, і актыўна будаваў дачу за горадам, каб неўзабаве перабрацца жыць туды. На будаўніцтва ішлі старыя школьныя дзверы і аконныя рамы, цэгла, цэмент і іншы казённы інвентар, які Сан Саныч рэгулярна і старанна вывозіў на сваёй машыне з навучальнай установы, не зважаючы на цікаўныя позіркі настаўнікаў.

У савецкі час такога прадпрымальнага лавеласа даўно выгналі б з работы за амаральшчыну, ды яшчэ некалькі гадоў за злоўжыванне службовым становішчам уляпілі б. Але сучаснае пакаленне кіраўнікоў паводзіла сябе нахабна і беспакарана. Тое, чым займаўся Сан Саныч, мела яшчэ надта малыя маштабы. Вось, скажам, 63-гадовы мэр горада ўсіх сваіх палюбоўніц забяспечыў бясплатнымі кватэрамі, а яго аднагодак губернатар за 8 гадоў самаахвярнай працы на карысць роднай дзяржавы пабудаваў у прыгарадзе ажно 5 катэджаў. Нядзіўна, што і падначаленыя імкнуліся не адставаць у карупцыйным марафоне ад кіраўнікоў вышэйшага звяна…

Сан Саныч з апанураным выглядам, які яскрава сведчыў пра стаўленне дырэктара да сваёй работы, пайшоў збіраць па двары агрызкі і выкідваць іх у густыя кусты ля кветкавых клумбаў.

На вачах Сан Саныча трое падлеткаў пачалі футболіць агрызкі. Дырэктар такога нахабства стрываць не мог.

— Бля… Мігам падабралі і выкінулі ў смятніцу! — злосна запатрабаваў Сан Саныч, ледзь стрымліваючыся, каб не запусціць у школьнікаў якой-небудзь арматурынай.

— Падонкі і далба…бы… — тут жа пацвердзіў Віталь Аляксеевіч.

— Наплодзяць дурні дзяцей і вешаюць іх потым нам на шыю…

Кантынгент, які вучыўся ў Сан Саныча, не вызначаўся асаблівымі дасягненнямі ў алімпіядах і конкурсах. Тым не менш, дырэктар марыў зрабіць са школы кадэцкае вучылішча, нягледзячы на тое, што навучальную ўстанову наведвала шмат дзяцей з разумовымі і фізічнымі адхіленнямі. Ды і добрыя педагогі ўжо даўно разбегліся са школы, дзе пасля прыходу Сан Саныча панавала поўная анархія. Дырэктар абыякава ставіўся да праблем калектыву, кадравай работы і прафесійнага росту настаўнікаў, якіх лічыў быдлам. Прэміі за ўдарную работу дзяліліся паміж асобамі, набліжанымі да кіраўніка з улікам ягоных спецыфічных густаў і сімпатый.

Вярнуўшыся ў кабінет, Сан Саныч патэлефанаваў свайму калегу ў музычную гімназію.

— Прыпылены дырэктар слухае, — пачуўся ў трубцы сонны голас 60-гадовага Анатоля Міхайлавіча.

— Вы так з усімі вітаецеся? — усміхнуўся Сан Саныч і дадаў: — Гапанюк турбуе…

— Што вам усім трэба ад старога і хворага чалавека? Не дадуць спакойна памерці на рабочым месцы ці хаця б паспаць…

У Анатоля Міхайлавіча ўжо даўно з-за ўзросту, злоўжывання алкаголем і дыябету назіраліся неадэкватныя паводзіны. Дырэктар мог спакойна праблытаць будні з выхаднымі і прыйсці ў гімназію ў трыко, а потым шчыра здзіўляцца, чаму ў нядзелю ідуць заняткі. Аднак пакідаць пасаду Анатоль Міхайлавіч не збіраўся, хаця ўжо нават з цяжкасцю перасоўваў ногі. Хто ж добраахвотна пакіне месца, дзе можна выпісваць на «верных людзей» унушальныя прэміі, якія потым асядуць у дырэктарскіх кішэнях?

Нягледзячы на тое, што яго адпраўлялі на пенсію, Анатоль Міхайлавіч да апошняга страчваў скаргі на ворагаў, наўдзячных настаўнікаў, хадзіў па кабінетах розных начальнікаў і нават пабываў на прыёме ў губернатара, дзе даказваў сваю незаменнасць і высокі прафесіяналізм. І гэта пры тым, што браў з бацькоў пры паступленні іх дзяцей у гімназію па 250 долараў. Ды і падчас праверак у навучальнай установе пастаянна выяўлялася безліч недахопаў.

Пасля «карысных» парадаў Сан Саныч паехаў у раённы аддзел адукацыі, які ўзначальваў колішні настаўнік фізкультуры Юрый Мікалаевіч. Начальнік усіх дырэктараў школ называў па-панібрацку — Коля, Саня, Валя, Люда, Наташа, не зважаючы на іх узрост і элементарныя нормы этыкету, а таксама мог паслаць без лішніх сантыментаў любога падначаленага далёка-далёка і глыбока-глыбока. На любоўным фронце ён быў паслядоўнікам амурнай стратэгіі Сан Саныча: чым больш — тым лепш. У 45 гадоў павёў другую дачку ў першы клас і амаль адначасова стаў бацькам трэці раз.

Палова супрацоўнікаў аддзела адукацыі на працу амаль не хадзіла, прынамсі ў другую палову дня. Гэта дазвалялася толькі асабліва блізкім да начальніка людзям. За іх усю цякучку цягнулі іншыя, тыя, хто з-за свайго інтэлекту не карыстаўся аўтарытэтам у шэфа і хто ў ягоных вачах быў заўсёды ва ўсім вінаваты.

Юрый Мікалаевіч працаваць не любіў, а любіў, спасылаючыся на пільныя справы, знікнуць невядома дзе, з кім і на колькі. На публічных жа мерапрыемствах мог гадзінамі ставіць задачы перад педагогамі, якія сам не ведаў, як вырашыць.

**На ўсіх калегіях начальнік заклікаў падначаленых да дысцыплінаванасці, сумленнасці і прыстойнасці, а сам цішком дабудоўваў другі катэдж ды раз'язджаў на новым службовым «Фальксваген Пасат» па ўласных справах па ўсёй вобласці**

Але пасаду ўсё ж давялося пакінуць. Анатоль Міхайлавіч моцна шкадаваў страчаных магчымасцяў, бо ўжо не мог запрашаць у кабінет маладых дзяўчат-педагогаў для таго, каб мімаходам прыабняць па-бацькоўску за плечы ды незнарок пакласці руку на аголеную каленку…

Сан Саныч часта званіў старэйшаму калегу, каб той падзяліўся «перадавым» вопытам кіраўніцтва. Вось і напярэдадні пенсіі Анатоля Міхайлавіча хацеў вырашыць некалькі важных пытанняў.

Сан Саныч хацеў выбіць у шэфа грошай на падрыхтоўку школы да новага навучальнага года. Ведаў, што гэта амаль марная справа, тым не менш школа, як і дача, патрабавала пастаянных фінанансавых уліванняў.

— Саня, грошай няма і не будзе, — адрэзаў Юрый Мікалаевіч. — Мэр накіраваў сродкі на добраўпарадкаванне спартыўных аб'ектаў. Выкручвайся сам: падключай бацькоў, прасі-ўпрошвай шэфскія прадпрыемствы… Ты не адзін у мяне… Такіх, як ты, просьбітаў некалькі дзясяткаў…

А цяпер прабач, трэба тэрмінова ехаць у аблвыканкам: нейкая сволач скаргу накатала, маўляў, у школах грошы гвалтам вымагаем… Ім што — грошай на сваіх дзяцей шкада, ...лядзі? А мне потым даказвай, што такога няма і быць не можа…

Расчараваны, Сан Саныч паехаў назад у школу, а Юрый Мікалаевіч накіраваўся да начальніка «аблана» на выхаваўчую гутарку.

— Зноў бацькі сігналізуюць, Юрый Мікалаевіч… — пачаў ушчуваць начальнік «аблана» Міхаіл Андрэевіч, хітраваты жукаваты паляшук, які дзеля сытнага месца мог пайсці на любыя маральныя ахвяры. — Добра, што хоць нам, а не адразу ў Адміністрацыю прэзідэнта… Не ўмееце з людзьмі працаваць, і дырэктары вашы не ўмеюць… Трэба даходліва тлумачыць, а не патрабаваць… Каб навучыліся правільна і эфектыўна кіраваць, накіроўваем вас у Акадэмію кіравання… Калі ж і пасля яе не справіцеся з людзьмі, тады пойдзеце назад у школу настаўнікам… Развялі ў сябе там, панімаеш, дэмакратыю… Жошчэ працаваць трэба, жошчэ…

Юрый Мікалаевіч уважліва выслухаў заўвагі і рэкамендацыі шэфа і з вінаватым выглядам пайшоў увасабляць іх у жыццё. «Тожа мне спецыяліст вялікі знайшоўся, — падумаў начальнік раённага аддзела адукацыі за дзвярыма шэфа. — Двух слоў звязаць не можа, а павучае… Жошчэ яму падавай, ёлупень…»

Міхаіл Андрэевіч любіў выступаць у ролі важнага і строгага начальніка. Збоку гэта выглядала даволі камічна. Нізкарослы, квадратненькі, коснаязыкі, з пастаянна чырвонымі вачыма ды ботамі з задранымі, як у Маленькага Мука, насамі — ён выклікаў хутчэй смех, чым страх і павагу. На ўсіх калегіях начальнік заклікаў падначаленых да дысцыплінаванасці, сумленнасці і прыстойнасці, а сам цішком дабудоўваў другі катэдж ды раз'язджаў на новым службовым «Фальксваген Пасат» па ўласных справах па ўсёй вобласці. Разумных людзей Міхаіл Андрэевіч пабойваўся, бо хацеў дасядзець да пенсіі, таму акружыў сябе намеснікамі-падхалімамі, якія на ягоным фоне выглядалі значна горшымі. За 15 гадоў дзяржслужбы начальнік добра разбіраўся ў правільнай кадравай палітыцы.

Нядаўна Міхаіл Андрэевіч атрымаў добрага прачуханца ад губернатара. Ягоная ўнучка паскардзілася любімаму дзядулю на злых настаўнікаў, якія не пусцілі яе з сяброўкай і півам на дыскатэку ў гімназію. Дырэктара навучальнай установы ледзь не выгналі з работы, а Міхаілу Андрэевічу нагадалі пра прафнепрыгоднасць. Пасля гэтага ўсе зразумелі, што калі ўнучка губернатара прыязджае на дзедавай службовай «Аўдзі А8L» на заняткі са значным спазненнем, а потым, не дачакаўшыся заканчэння ўрокаў, пакідае гімназію, — гэта цалкам нармальна. А хто маркуе інакш — няхай піша ў аблвыканкам і адразу забірае працоўную кніжку ў аддзеле кадраў…

— Паўсюль суцэльнае …лядства, — паскардзіўся Сан Саныч свайму намесніку пасля паездкі ў раённы аддзел адукацыі.

— І не кажыце, — пацвердзіў Віталь Аляксеевіч, па-гаспадарску пакуючы ў сваю машыну тэлевізар з інвентарным нумарам…




Малюнак С.Белаяра

РОЗДУМ

# НЕ ДАМО!..

## НЕКАЛЬКІ РАЗВАГ НАД СТАРОНКАМІ «ВЯЛІКАГА СЛОЎНІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ»

Васіль ЗУЁНАК

**Немагчыма без трапяткога адчування важкасці ўзнімаць на руках том «Вялікага слоўніка беларускай мовы».**




Гэтак на Вялікіх святочных службах у храме ўзнімаюць над галавою Святую Кнігу, выносячы яе на людское пакланенне…

Гэтую якасна-вызначальную важкасць не я першы заўважаю. Ніл Гілевіч падкрэсліў яе адмысловым вершам…

Такое яно, знаёмства і ўражанне, што, пэўна, ці не ў большыні ўзнікала (альбо яшчэ ўзнікне): захапленне, здзіўленне — і тут жа гэтакае паважнае, на ўскідку, узважванне… Хоць і разумееш: нельга зважыць словы, гэтыя часцінкі душы, праменьчыкі думкі чалавечай…

Выйшаў Слоўнік у выдавецтве Змiцера Коласа. Аўтар яго — не які-небудзь шматлюдны калектыў, а ўсяго адзін чалавек — Фёдар Антонавіч Піскуноў. З'ява не звычайна-будзённая, а, па нашым часе, выключная. І, можна сказаць, прэтэнцыёзная. Як зазначае сам аўтар, «нароўні з граматычнай класіфікацыяй спадарожнай задачай… было істотнае пашырэнне рэестру як за кошт уліку лексікі новых рэалій, так і за кошт максімальнага ахопу даўнейшых здабыткаў жывой мовы, большасць з якіх да гэтага часу фактычна не мела доступу ў слоўнікі ўніверсальнага тыпу і месцілася ў «запасніках» — дыялектных зборніках і слоўніках. Такі штучны падзел — вынік зацяглай практыкі змагання з лексіка-граматычнай варыянтнасцю і канструявання «правільнай» беларускай мовы з жорсткімі нарматыўнымі ляшчоткамі дзеля рэалізацыі ідэалагічных канцэпцый ці навукова-ведамасных установак — груба сказіў натуральнае эвалюцыйнае развіццё мовы, прывёў да шматлікіх дэфармацый…».

Як і ўсякая новая справа, з'яўленне Слоўніка выклікала ажыўленую дыскусію — і гарачую падтрымку, і разважліва-халаднаватае прыцэньванне (іншы раз — і спробы на замоўчванне).

Я не магу адразу кінуцца з берага ў бурлівую плынь гэтых спрэчак, бо не маю на тое дастаткова «вучоных падстаў». Мне толькі хочацца, без аніякіх агаворак, падтрымаць тых, хто са шчырай прыхільнасцю вітаў выхад у свет гэтага, і менавіта такога, Слоўніка. І, зазначым, не толькі ў кніжнай, але і ў электроннай распрацоўцы…

Так, мова, як жывы арганізм, не можа скамянела стаяць на адным, цыркулярна вызначаным, месцы. Яна развіваецца, набывае дадатковыя марфалагічныя, сінтаксічныя, стылёвыя адценні, асвойвае новыя лексічныя далягляды, узбагачаецца. І даследванне ўсіх гэтых момантаў, фіксацыя і сістэматызацыя іх, з абгрунтаваным замацаваннем ва ўжытку — і побытавым, і літаратурным, — мусіць ісці ўпоплеч з натуральнымі моўнымі працэсамі ў іх дыялектычным руху. Гэтай мэце пакліканы служыць і Слоўнік Фёдара Піскунова.

Добрая доля працы здзейснена, — як для аднаго чалавека — дык цяжка і пераацаніць! 223 тысячы слоў сышліся стараннямі аўтара пад адну вокладку. І вядуць з намі гаворку па-беларуску. А як для мяне дык яшчэ і «правакуюць» пытанне: а колькі ж слоў сабраў у свой час і змясціў у «Толковом словаре живого великорусского языка» нястомны шукальнік Уладзімір Даль?

Сам ён прыблізна падлічыў, з пэўнымі агаворкамі: у слоўніку «…до 115/т. слов; на каком языке вы найдете их столько же? Откиньте 15/т., по разным причинам лишних или неуместных, да прикиньте несколько десятков тысяч — не могу сказать сколько — ныне собранных, — не говорю о десятках же тысяч, никем еще неподслушанных, — ужели вам этого запаса мало?..».

«Падрахаваць» тут лексічную «наяўнасць», пэўна ж, зусім не цяжка. І нагадаць лічбу –223 тысячы!

Дык вось жа: і наша — жывая наша беларуская мова — зусім не бяднейшая!.. Тут жа адкрываецца і падае голас яшчэ адна — прынцыповая — акалічнасць: Слоўнік сам сабою робіцца ў дадатак і яскравым, найважнейшым дакументам. То як жа — ставіць ён рубам пытанне, — як жа яна, такая мова, «адамрэ»?! Куды, у які свет, адляцець мусяць усе тыя 223 тысячы?..

Высновa адна: не дамо адбыцца такому!..

Не дамо, — як робіць гэта Фёдар Піскуноў, хімік па адукацыі, які жахнуўся аднойчы, што мова наша беларуская нябачна, але падступна, нібы «шчыгрыневая скура», сціскаецца ў сваіх абсягах — і фізічных, і духоўнага выкарыстання. І ён прамовіў тое самае «Не дамо!» — і адзін, на здзіўленне (ці на зайздрасць?) калектыўным інстытутам і кафедрам, — апантана ўзяўся за лінгвістычныя штудыі, каб з належным тэарэтычным забеспячэннем «увязацца ў справу» практычную — перайсці мяжу і ўступіць з выратоўнымі намаганнямі ў Царства лексікаграфіі…

Не дамо! — як парываецца ў гэтым памкненні дзіцячая душа магілёўскай дзяўчынкі Ялінкі Салаўёвай. Адна на ўвесь вялікі горад пажадала яна вучыцца па-беларуску. Аднак — дзе тая школа, ці клас, ці хаця б група беларускамоўная — у Магілёве Ялінцы дагукацца не ўдалося.

Адна… Астатнія (маюцца на ўвазе найперш бацькі) — хто запярэчыў, хто моўчкі адвярнуўся… Бацькоў, зрэшты, можна зразумець: не кожны палічыць магчымым праз увесь горад вазіць ці адпраўляць дзіцця ў той куточак, дзе сіратліва туліцца дзве-тры школьныя парты для беларускамоўнага навучання… І гэта — дома, у сваёй краіне!.. А перспектывы? — зноў жа бацькоўскае пытанне не з апошніх — і не знаходзіць адказу…

Дык што: адна — супраць усіх?.. Не — супраць сістэмы, супраць той ганебнай, антыбеларускай практыкі, што ўсталявалася ў школьнай — і не толькі школьнай — адукацыі.

Здавалася б, двух падыходаў тут быць не можа: беларуская — дзяржаўная (не прыватная ж!) — школа павінна — абавязана! — даваць адукацыю дзецям на мове тытульнай нацыі, — найперш!.. І таму — гэтае «Не дамо», што зрываецца з вуснаў і Фёдара Піскунова, і Ялінкі Салаўёвай, і многіх-многіх іншых, павінна пачуць дзяржава. І таксама сказаць: «Не дамо!». Гэтую сцяну «другой дзяржаўнай», якую ўзвялі і якою непрыступна, як здаецца ім, адгарадзіліся чыноўна-ўладныя мужы і дамы ад патрэб і праблем нацыянальнага ўсталявання, наспеў час рашуча парушыць. Інакш будзе позна…

Не палохайце толькі, шаноўныя, «усенародным непаразуменнем». Беларускі народ ніколі не адмаўляўся і не адмовіцца ад сваёй нацыянальнай сутнасці, ад сваёй беларускасці. Дайце толькі перспектыву. Дайце: ад дзіцячага садка — да вышэйшай навучальнай установы, ад «сямейнага парламенту» — да дзяржаўнага ўключна, — дайце прастору і дыханне беларускамоўнасці. Дайце ўсё афіцыйнае — падкрэсліваю: усё — і ў пісьмой форме, і ў вуснай, — па-беларуску.

Беларускамоўная аўра павінна вянчаць дзяржаву! Дайце беларусу рэальную магчымасць нацыянальна самаздзяйсняцца, народу — вольны шлях да ажыццяўлення спрадвечнай мары яго лепшых сыноў: пабачыць Беларусь па-сапраўднаму беларускаю. Народ толькі шчыра падтрымае дзяржаўныя захады ў гэтым кірунку. На тое ўжо быў, не такі яшчэ і далёкі, прыклад — пачатак 90-х гадоў нядаўняга XX стагоддзя. Пра тое ж сведчыць і вопыт народаў-суседзяў. Што — хіба ўкраінцы ўзбунтаваліся дзе-небудзь супраць украінскамоўнай школы? Не чутно было такога… Голас прыхадняў не можа быць вырашальным. Беларус у сваім доме павінен пачувацца беларусам!..

Усё сказанае згадваецца, калі бярэш у рукі том «Вялікага слоўніка беларускай мовы». Ён — і пакліканы спрыяць духоўнаму ўмацаванню нацыі, і разам з тым можа стаць сапраўды рэальным чыннікам нацыянальнага жыцця пры здзяйсненні ўмоў, пра якія толькі што мроілася. Тут узаемнасць лёсавызначальная. Інакш Слоўнік можа апынуцца ў ролі музейнага захавальніка лексікі. Як гэта пэўным чынам атрымалася з песеннымі тамамі выдатнага акадэмічнага збору веснай народнай творчасці: песні вясельныя, песні пра каханне, песні веснавыя, песні купальскія і пятроўскія, песні жніўныя, песні восеньскія і талочныя, песні зімовыя, песні валачобныя, песні жартоўныя (Гэта ўсё — тамы! Асобныя. Вясельных — дык ажно чатыры!), — а яны ж маўчаць…

Не дай Бог, каб «замоўк» і гэты лексічны скарб, зафіксаваны ў Слоўніку, замоўклі разам з моваю ўсе гэтыя 223 тысячы слоў…

Не дай Бог, — гаворым, — але ж трэба найперш і самім завінуцца, узварухнуцца — сэрцам і думкаю…

А што зерне падае не на камень, што знаходзіць водгук у юных душах роднае слова, што чакае яно вясны, шчодрых узыходаў, красавання і багатага духоўнага плёну, сумнявацца не варта. Вось яно, перакананне: «Радзіма і мова — з калыскі адной», — у ім — і глыбіннае разуменне каранёў, і адчуванне — у ключы аптымістычным — будучыні. Афарыстычныя словы гэтыя прамоўлены Аленай Радзевіч і Юрасём Каласоўскім у газеце «Наша слова». І гэта не голас «вопиющего в пустыне»… Ім, іх пакаленню — будзем спадзявацца — стане Слоўнік надзейным спадарожнікам. Ён ідзе да іх…

**Не дамо! — як парываецца ў гэтым памкненні дзіцячая душа магілёўскай дзяўчынкі Ялінкі Салаўёвай. Адна на ўвесь вялікі горад пажадала яна вучыцца па-беларуску. Аднак — дзе тая школа, ці клас, ці хаця б група беларускамоўная**

Не будзем спяшацца з выстаўленнем «ацэначных балаў», — праца яшчэ разгортваецца, яна яшчэ на ўзыходзе да жаданай вяршыні, а ўзняцца і ўтрымацца там, — о як гэта няпроста і як нялёгка!..

Маем пакуль што Слоўнік з пазнакай «Арфаграфія, акцэнтуацыя, парадыгматыка». А на чарзе — Слоўнік тлумачальны...

Удыхнуць у кожнае слова душу, раскрыць і паказаць яго сэнсавыя глыбіні, — задача задач. І вырашаць яе намерыўся — ды ўжо і вырашае — ён жа: Фёдар Антонавіч Піскуноў. Не дыпламаваны спец, а як бы чалавек паспаліты, шарагавы, — хімік, а па захапленні, па інтэлектуальным багажы і, нарэшце, па грамадзянскім пакліканні — варты па выніках у справах філалагічных чыну блізкага генеральскаму.

Тут можна толькі ўсклікнуць: пабольш бы нам такіх самаадданых энтузіястаў — і хімікаў, і фізікаў, і праграмістаў, і аграномаў з інжынерамі, і сейбітаў, і дойлідаў-будаўнікоў, і лекараў, і пекараў, і г. д., і г. д., — каб кола замкнулася ва ўсенародным трыумфе роднай мовы.

Што ж тычыцца навукоўцаў-прафесіяналаў, то іх пачэсны абавязак ісці насустрач такім людзям, дапамагаць ім, выслухоўваць (апаніруючы? — тым больш — праявіць увагу!)… Колькі спрэчак «адолеў» той жа Уладзімір Даль, а ў выніку — на стагоддзі: «Толковый словарь живого великорусского языка»… Дыскусія — рухавік, стымулятар навуковых пошукаў…

А як жа нам, літаратарам, хто працуе словам (а не проста са словам), для каго з'яўляецца яно рабочым інструментам, — як жа нам спакушацца спакоем «алімпійцаў»? Думаецца, што наша пісьменніцкая сябрына, Саюз беларускіх пісьменнікаў, усімі сваімі магчымасцямі — і творчымі, і арганізацыйнымі — будзе актыўна спрыяць і садзейнічаць здзяйсненню гэтай сапраўды ўнікальнай і надзённа-важнай задумы.

Ну, канешне ж, хто-кольвеч, згадаўшы сваё, «прыхаванае» ад усіх, слоўка, пачне шукаць яго ў наяўным томе і, што можа здарыцца, не пабачыць яго там. Нічога дзіўнага — моўны акіян невычэрпны…. А іншае — і адкрые для сябе. Я, прыкладам, узрадаваўся слову «Вазіла» (з тлумачэннем: «у беларускай міфалогіі: конскі апякун»). І тут жа, амаль што жартам, «выскачыла» слаўцо з гэтай жа «транспартнацяглавай» сям'і — сучасны наватвор: «вадзіла», — яно якраз і не напаткалася: «вадзіцель» ёсць, а «вадзілы» няма…

Ага, — на гэтай усмешлівай ноце згадаем яшчэ раз «запеўку» — пра ўзважванне. То як жа з ёю — з вагою? Забылася? Не. Я ўсё ж узяў ды зважыў гэты том, дзе матэрыялізаваліся 223 тысячы слоў… І не толькі зважыў (вагі не аптэкарскія, праўда), але і падзяліў вынік (цікаўнасць усё ж!..) на 223 тысячы. Што выпала на кожнае слова, — палічыце (залацінкі!..).

А калі па-сур'ёзнаму, то скарыстаемся тут словамі класічнага ўзору (А. Фет): гэты том «томов премногих тяжелей», — не той, фізічнай, а духоўнай вагою. Пра яе ж і ў Ніла Гілевіча: «Колькі ж тут золата ў кожным слоўцы!..».

Гэты том «Вялікага слоўніка беларускай мовы» ўяўляецца мне Вялікім вечавым звонам, што заклічна вястуецца да зняверaных сэрцаў і стомленых душ: «Паўстаньце!.. Не дамо!».

Не дамо знікнуць нашай мове і нашай існасці — ліцвінскай, беларускай, — як хочаце называйце… — НЕ ДАМО!..

ВОДГУК

# АНАТОМІЯ ЗАЛЕЖНАСЦІ,

## АБО ПЯЦЬ ДУМАК ПРА «СІНЮЮ КНІГУ БЕЛАРУСКАГА АЛКАГОЛІКА» АНТОНА КУЛОНА

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ




### Думка першая

Беларускі алкаголік нічым не горшы і не лепшы за ўсялякага іншага — рускага, французскага або амерыканскага. Ён співаецца паволі, непрыкметна, пакрысе трацячы ўсё, што ў яго ёсць: сям'ю, працу, здароўе, сацыяльны статус і, урэшце, само жыццё. У рэдкіх выпадках, калі яшчэ не цалкам сапсаваны моцным алкагалем мозг, ён спыняецца на краі прорвы, куды яго цягнуць лад жыцця ды здэградаванае атачэнне, і нават пачынае разумець, у што ён «уляпаўся» і што яму пагражае. Тады наступае ацверазенне. Перш часовае, бо, вырашыўшы «завязаць», чалавек час ад часу зрываецца. Думае пры гэтым: "Ну што такое куфаль піва? Дробязь!". Гэтая слабаалкагольная «дробязь» выліваецца ў чарговы запой, у прыезд «Хуткай», у бальніцу пэўнага профілю альбо ціхае кананне «на хаце». Ратунак толькі слаба свеціцца ўдалечыні, як ружавее ў начной цемры праблісак усходу. Пры гэтым кожны выратоўваецца сваімі спосабамі і шляхамі, часам вельмі дзіўнымі. А потым, азіраючыся на сваё бяздарнае мінулае, ціха жахаецца: як ён мог так жыць?!

### Думка другая

Кніжка падзелена на дзве часткі, якія розняцца і па змесце, і па стылю. Першая займае 200 старонак аб'ёма, другая — 100. Выданне як бы распадаецца на два, і калі механічна раздзяліць яго, згодна з часткамі, то можна было б падумаць, што ў іх розныя аўтары. Першую, настальгічную, пісаў алкаголік несвядомы. Другую, стрыманую і дзелавую, — свядомы. А былых алкаголікаў увогуле не бывае, як даведаўся Антон Кулон.

Першую мне чытаць катэгарычна не хацелася. Тут ішло асабістае супрацьўленне: завельмі добра я памятаю бялёсыя вочы чалавека, які, з прычыны прыроднай сілы і здароўя, з'язджаў у багну дзесяцігоддзямі, па сантыметру, і за кім, прывязаная сузалежнасцю, як сляпая, валаклася я сама. Мяне адварочвала ў творы ўсё: назвы «злачных» мясцін, дзе пры савецкім часе і пазней збіраліся прыхільнікі Бахуса («Прохлада», «Ясень», «Тэлевізар», «Мутнае вока» і г.д.), назвы розных гатункаў «чарніла» з цэнамі, незлічоныя прыгоды, звязаныя з міліцыяй, перабoрам па колькасці выпітага, дурнымі спаборніцтвамі, здабываннем грошай на апахмелку; пераказванне баек і аповедаў, пачутых у кампаніях, і г.д.

Перакажу праўдзівую гісторыю, як аўтар з такім жа, як сам, выпівохам наведалі ў глыбінцы нейкага Колю В. Яшчэ ў райцэнтры распілі «партвейн» у раённай газеце. У Моталі добра-такі прамоклі, а галоўнае — арганізма патрабавала: «Дай болей!». Аўтар дакладна апісвае стан пасля прыняцця «на грудзь»: «…праз пэўны час няўхільна ўзнікае стан прыгнечанасці, стомы, які часам нават пераходзіць у фазу незразумелай роспачы і беспрычыннай тугі». А калі пешкі дабраліся да вёскі, то сябра не аказалася дома. Хацелася — не тое слова. Каб сказалі: ідзеце назад у Менск, і там вам нальюць адразу і надоўга — то я б пайшоў!». «Выпілі, угрэліся…», "Зноў выпілі», «Жлопалі некалькі дзён». Толькі ў недалёкім Дастоеве, пасля візіту ў мясцовы рэстаран, сілы пакінулі беднага алканаўта.

Я пераказала адну толькі гісторыю, а іх там безліч. І многія з іх, на маю думку, не столькі перасцерагаюць ад бездані ўалкагольнай залежнасці, колькі маюць на мэце забавіць і пасмяшыць. Гэта было б больш апраўдана для мастацкага твора, а не для дакументальнага.

У кнізе сустрэла шмат знаёмых прозвішчаў — маіх калег па даўнейшым Саюзе пісьменнікаў. (Аўтар, як вы зразумелі, належаў да інтэлігентных п'яніц.) Змешчаны мартыралог на цэлую старонку, з якога вынікае, што мала хто з пішучых і п'ючых дацягнуў да 60-ці. У спісе ёсць вядомыя, знакамітыя асобы, але мне іх не хочацца нават згадваць у такім кантэксце, бо не тым яны ўвайшлі ў гісторыю беларускай літаратуры.

Магілу М. С. наведалі двое з трохлітровікам піва (тады якраз ішла антыалкагольная кампанія), а потым разам, дружна паснулі паабапал недагледжанай магілы. Якая сімвалічная карціна! Як блізка былі яны абодва да свайго пясчанага грудка!

Перад намі праходзіць цэлая галерэя мінскіх дэградантаў. Сярод іх былі журналісты, інжынеры, навукоўцы, мастакі, музыканты. Былі і тыя, хто паспеў прайсці турэмную школу. «Акадэміяй Кіма» называе аўтар тое, што па сутнасці было прытонам і дзе людзі заблытваліся, як мухі ў павуціне. Вы калі-небудзь бачылі, як у склепе пачынае гніць бульба? Дзе сапсавалася адна, там будзе некалькі гнілых побач. Але што характэрна: пра ўсе п'яныя прыгоды і няўдобіцы, пра агіднае і вартае сораму напісана неяк дабрадушна, са смяшком, са смакаваннем падрабязнасцяў. Як быццам і не страшна зусім співацца, траціць чалавечы воблік. Папросту — знікаць.

Паглядзіце, як паблажліва піша А. Кулон пра свайго сябра, які нападпітку «пасканадаліў са сваёй жоначкай і нават трохі пабіў яе». Слова «жоначка» тут вельмі недарэчы, як і выбачальнае «трохі». Бо, па-першае, за «трохі» не здаюць на 10 сутак (а калі здаюць, то за тое, што шлункі ад'еў); а па-другое, няма такой істоты, якую алкаголік сам не мог бы прадаць за чарку. Яны здрадніці па сваёй сутнасці, бо за момант задавальнення ператвараюць у пекла жыццё блізкіх.

Аўтар не хавае, што і яго сямейнае жыццё трашчала па швах. На шчасце, «Бог даў нам, алкаголікам, добрых жонак». Жонка — гэта тое, што бясконца церпіць, шкадуе, налівае пры вострай патрэбе, вязе лячыцца ў Навінкі, вылівае агрэсію ў крык і ў крайнім выпадку, ну зусім крайнім — здае ў міліцыю або ЛТП.

Пра дзяцей і іх пакуты ў такіх сем'ях далікатна не ўпамінаецца.

### Думка трэцяя

Багна засмоктвае. Але як бы нізка чалавек не апусціўся, ён мае шанец выбрацца, выдраць сябе, як Мюнхаўзен, за чупрыну з балота цяжкай хваробы і абставін. Гэта неверагодна цяжка, але магчыма.

«Кульмінацыяй узыходжання на прыступкі п'яніцы» быў 1996 год. А ў 1991 адбылася лёсавызначальная паездка А. К. у Грузію, на канферэнцыю дэмакратычнага кірунку. У гэтай краіне, як вядома, п'юць многа, але ў асноўным слабыя напоі — віно. Мне давялося пабываць у Тбілісі, і ў гэтым велічным горадзе кінуліся ў вочы шматлікія лужыны па вуглах дамоў. Частаваць там умеюць як нідзе, дык і не дзіўна, што грузінскі палітык праставіў беларускім гасцям не мала, не многа — скрыню сухога віна. Скрыню апрыходавалі, пасля «шліфанулі» гарэлкай. Ранішняя апахмелка белай зрабіла працэс некіруемым, а вяртанне на радзіму цэлым і здаровым — праблематычным. Чалавек да такой ступені страціў над сабой кантроль, што яго там можна было браць голымі рукамі. Што і зрабілі мясцовыя мачо. Яго збівалі і рабавалі двойчы за адну паездку: пакідалі без капейкі ў кішэні. І двойчы, з дапамогай чулых людзей, ён дзівосным чынам уваскрасаў, як той Фенікс з попелу.

Усявышні ўжо, мабыць, не спадзяваўся, што беларус нешта зразумее дома. Ён на чужой зямлі даў яму шанец схамянуцца і адумацца. А галоўнае — паслаў выратаванне ў выглядзе выпадковага земляка, вадзіцеля-дальнабойшчыка, які ноччу даў небараку прытулак. «…раніца надышла, і прачнулася круглае, асьляпляльна прыгожае грузінскае сонейка, вельмі падобнае да беларускага, і я зразумеў: усё цяпер будзе добра. (…) Але да цьвярозага жыцця яшчэ трэба было прайсьці доўгі шлях працягласьцю ў трынаццаць гадоў…»

Гэты раздзел проста пераварочвае душу — як перавярнула перажытае ў Грузіі жыццё аўтара. Пасля такога кожны паверыць у Вышэйшую Сілу, якая кіруе светам і нашымі лёсамі. Так, Ён любіць нас усіх — грэшных і праведных, слабых і дужых, разумных і не вельмі. Мы ўсе ягоныя любыя дзеці і самі выбіраем, у які бок ісці, якой сіле падпарадкоўвацца, які атрымліваць вопыт.

### Думка чацвёртая

Аўтар насамрэч — чалавек мужны і гранічна шчыры. Ён не проста ў колерах малюе карціну душэўнага спустошання, але і паказвае з яго выхад. Кніга выразна даводзіць, што «ў кожнага ёсьць свой асабісты спосаб, часта таямнічы і незразумелы… які прывёў да цьвярозасці».

Пералічыўшы прыкметы класічнага алкагалізму і распавёўшы пра жудасці запою, А. К. расказвае аб сваіх спробах пазбавіцца хваробы. Кадаванне не хваліць, хаця яно і дзейнічала цэлы год. Надоўгі час прабыў з рухам аптымалістаў, якія робяць стаўку на самаўнушэнне і здаровы лад жыцця. Яшчэ год прытрымліваўся малітвамі бацюшкі. Прайшоў ТЭС-тэрапію (яшчэ восем месяцаў з яснай галавой). І ўрэшце далучыўся да сусветнага Руху Ананімных Алкаголікаў. (65 груп працуе ў рэспубліцы, з іх 15 — у Мінску.) Задача чалавека ў такой групе — не проста кінуць піць, а ўнутрана перарадзіцца. Прызнаць, што ён залежны. Не то калектыўная энергетыка робіць цуды, не то справа яшчэ ў чымсьці, але факт ёсць факт: методыка АА стала для аўтара найбольш эфектыўнай.

За восем гадоў цвярозасці А. К. здаў на правы і купіў машыну, замацаваўся на рабоце і захаваў сям'ю, аднавіў сваё добрае імя. Ён прызнаецца, што, пішучы кнігу, не ставіў перад сабой ніякай дыдактычнай мэты. Магчыма, і так. Затое яскрава, на асабістым вопыце дадзена: святло ў канцы тунэля ўсё-ткі ёсць. Ужо таму «Сіняя кніга беларускага алкаголіка» з'яўляецца карыснай і павучальнай.

### Думка пятая

У аўтара, фізіка-тэарэтыка па спецыяльнасці, ёсць несумненныя здольнасці да прыгожага пісьменства. Багаццю яго слоўніка і вобразнасці мовы можа пазайздросціць прафесійны літаратар. Вось адна цытата (для цаніцеляў), у якой ёсць нешта раблезіянскае: «…ўсё часьцей чуцён вокліч «Налівай!» і наліў спраўна робіцца, чыніцца, здзяйсьняецца, ажыццяўляецца, паўтараецца, і зноў куфлі і шклянкі напаўняюцца, наліваюцца, разліваюцца, зліваюцца, пераліваюцца, дапаўняюцца, уліваюцца й падымаюцца, разьбіваюцца, абнаўляюцца, і так усё ідзе па нейкім зачараваным коле…».

Некалькі заўваг агульнага плану. Першая: іншай магла б быць будова кнігі, размяшчэнне раздзелаў у ёй. Бо які сэнс з алкагольным гумарам апавядаць пра сяброў ды іх незайздросныя лёсы, калі чытач не ведае галоўнага: а ці выбраўся ты сам?!

Неўразуменне таксама выклікае карыстанне тарашкевіцай. Рызыкую наклікаць на сябе агрэсію прыхільнікаў старога правапісу, але пераканана: нельга двойчы ўвасці ў адну ваду. У асобных момантах правапіс проста патыхае архаікай, асабліва ў перадачы запазычанняў: мінэрал, пэрыяд, сытуацыя, кілямэтры, дырыжэр, філязофскі, мастак-манумэнталісты… Штучна перанесеная ў наш час тарашкевіца служыць фактарам расколу беларускамоўнай грамады, а яе прыхільнікам дае ілюзію нейкай асаблівай, «лепшай» беларускасці. Тут мне бачыцца тая самая настальгія — настальгія па часе, калі пісьменнікаў яшчэ не расстрэльвалі сотнямі за ноч, а справаводства на беларускай мове вялося нават у тэатрах і дробных кантарах…

І апошняе: перад намі споведзь аўтара перад Богам і людзьмі. Але, як мне падалося, глыбіні і шчырасці пакаяння ў ёй якраз і не адчуваецца. Не стае таго, што ў царкоўнай літаратуры называецца «сокрушением»… Зрэшты, пакаянне — вельмі асабістае пачуццё. Можа, і не было патрэбы яго выстаўляць напаказ?

Не буду хаваць, што добра знаёмая з аўтарам кніжкі, які назваў сябе Антонам Кулонам. Ён выпраменьвае пазітыўны настрой і рэалізоўвае сябе ў розных сферах грамадскага жыцця. Пры гэтым адчуваю, што яму ёсць куды расці. Вера, да якой чалавек прыйшоў, яшчэ не знак якасці, і тым больш — не падстава для гардыні. «Душа обязана трудиться». Гэта напамінак для ўсіх нас.

АГЛЯД

# «НЕ БЫЛО, ЯК БЫЛО — А БЫЛО, ЯК НАПІШАМ»

ЛеГАЛ

**Прамінуў яшчэ адзін год жыцця, у тым ліку і літаратурнага.**




Для «Дзеяслова» ён таксама быў адметным. Былі выдрукаваны запамінальныя мастацкія творы. Можна ўспомніць раман Г. Далідовіча «Рурыкавічы і Рагвалодавічы», аповесці А. Паплаўскага «Lapido» і Б. Пятровіча «Спачатку была цемра», запісы «Знакі прыпынку» У. Някляева, цыкл мініяцюр «Абібокі» В. Казакова, вершы А. Разанава, А. Пашкевіча, А. Хадановіча, А. Брусевіча, А. Данільчык, А. Рудака, эсэ А. Тарановіча «Галопам па Еўропах», В. Акудовіча «Нацыянальны канон: партытура для рэквіума», гутарку М. Скоблы з паэтам І. Шклярэўскім…

А вось само жыццё беларускае па-ранейшаму было кволым і апатычным. Кіне хто апазіцыйны камень у настаялую палітычную ваду — пойдуць кругі, разыдуцца і зноў ціш і спакой… Глыбока ў самім нутры нашым, ведама, месцамі баліць, пячэ, турбуе, але ў цэлым сітуацыя нязменная. Адназначна, пацыент хворы, аднак спрабуе аказваць супраціў сваім уласным болькам, мацуецца як можа і па часе збіраецца акрыяць. Пакуль аніякай апакаліпсічнай думкі пра смерць. Хоць паўнакроўнае жыццё зноў адкладваецца на заўтра. А наша заўтра з нашага сёння заўжды бачыцца нам хоць і светлым, але ж надта далёкім. Таму, якім бы яно, у рэшце рэшт, ні наступала, азіраемся назад мы без шкадавання і настальгіі… Ну хіба толькі на ўласна пражытае жыццё.

Таму — з надышоўшым Вас чарговым Новым Годам! А найбольш яркая і адметная публікацыя апошняга (61-га) нумара 2012 года, безумоўна, раман Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». Гэта, пэўным чынам, сфакусіраваная панарама гарадскога мінскага жыцця перыяду хрушчоўскай адлігі з рэтраспектывай на зусім нядаўнія (2010) прэзідэнцкія выбары і разгон мітынгуючай Плошчы… Трэба сказаць, што прамінулая рэчаіснасць і мастацкая праўда ў творы балансуюць на хісткім канаце чалавечага выжывання. Аднак жа, дзякуючы таленту аўтара, захоўваюць раўнавагу. Галоўнае ў рамане, на мой погляд, не яго ідэйная глыбіня, а — дух часу, які, як ведома з Бібліі, «лунае там, дзе хоча». Паэзію, джаз-музыку, моду, флёр, флірт, любоўныя жарсці ды ўсёбачнае вока КДБ — агулам увесь стыльны вобраз жыцця пачатку 1960-х аўтар ненавязліва, але не без заўважнасці для чытача прыцягвае да парасткаў тадышняга беларускага дысідэнцтва. Бальшыня герояў рамана маюць сваіх (у тым ліку жывых) прататыпаў (адзін з з іх Віл — Віктар Ледзенёў — заваршае публікацыю сваім пасляслоўем). Твор чытаецца на адным дыханні. Знойдзены правільны рытм, удала расстаўлены акцэнты і паўзы, што і стварыла адпаведны і прыймальны для рамана стыль. Чытаючы, мне не раз падавалася, што гэта і не раман зусім, а — меладрама. Выдатная драматургія, а не проза. Бо і сам сюжэт сцэнічны, і дзеі ёмкія, і рэмаркі да месца, а дыялогі проста фенаменальныя. Абсалютна пастановачная рэч.

«— Ты ведаеш, — раптам спыняецца Саламон Майсеевіч, — чаму я хачу, каб ятка стаяла менавіта на Нямізе, а не дзе-небудзь яшчэ? — І тлумачыць, не чакаючы майго адказу. — Бо ўсе ведаюць, што на Нямізе — гэта на Нямізе. А калі дзе-небудзь на Кастрычніцкай ці на Гастэла, дык кожны другі перапытае: гэта дзе? На Лекерта?

— А дзе гэта на Лекерта? — пытаю я, і Саламон Майсеевіч кажа:

— Дык на Кастрычніцкай і на Гастэла.

Я намагаюся ўцяміць, як такое можа быць, каб «на Лекерта» было адразу і на Кастрычніцкай, і на Гастэла, па розныя бакі Нямігі, але ўцяміць не магу, бо Косця Воран яшчэ не распавёў мне, што імя Гіршы Лекерта, які няўдала замахнуўся некалі на жыццё Віленскага генерал-губернатара фон Валя, называлася ў Мінску спачатку адна вуліца, цяперашняя Кастрычніцкая, колішняя Ніжне-Ляхаўская, а пасля другая, цяперашняя Гастэлы, колішняя Правіянцкая.»

Вось так цягам усяго рамана чытач змушаны ўдасканальваць свой досвед адносна прамінулага ў дачыненнях з сучаснасцю, складваючы разрозненыя пазлы часу ў адну цэласную выяву беларускага жыцця…

Міжволі ўзнікае толькі адно шкадаванне, што праз лёгкасць і феерычнасць стылю нейк міжволі прападае глыбіня душэўнага ўспрыняцця і суперажывання і спакваля з'яўляецца насцярожанасць у абсалютным даверы аўтару… Асабліва ў звязку з па-за раманнымі афіцыйна-дакументальнымі дадаткамі, у тым ліку і з пасляслоўем Ледзенева. Складаецца ўражанне, што У. Някляеў гэтым хацеў як бы «застрахаваць» сваю аўтарскую біяграфічную непагрэшнасць… Ад каго і навошта? Бо, як бы там ні было, раман выдатны. І гэта галоўнае.

Паэма «Самалёт» Алеся Чобата — гэта гістарычна-філасофскі водгук самотнага скідзельскага лірыка на авіякатастрофу пад Смаленскам, у якой разам са шматлікай світай загінуў прэзідэнт Польшчы Качыньскі. Твор (бадай, як паэма ў класічным разуменні, да канца не акрэслены) прыцягвае ўвагу геапалітычнай абвостранасцю ва ўзаемасувязях Расіі-Беларусі-Польшчы і балевым порагам самога аўтара, дзе тонкія матэрыі суседнічаюць і ўступаюць у дачыненні (дыялог у часе) з матэрыямі прагматычнымі — адсюль, на мой погляд, крохкасць асноўнай тэзы і некаторых празаічных высноў паэта (дарэчы, радок з паэмы стаў назовам гэтага артыкула). Хоць нельга не пагадзіцца з паэтам, што пакуль толькі вялікія трагедыі змушаюць чалавека на запозненыя прызнанні і пакідаюць некаторыя спадзяванні на будучае агульнае ўзаемаразуменне:

*«Бо жыць далей яму трэба —*
*не так, як «людзі жылі»! —*
*бо кожнага сваё Неба*
*чакае ў канцы зямлі.*
*Бо мала «хацець як лепей»,*
*каб выйшла — як ты хацеў,*
*і позна прасіць на Небе,*
*чаго на зямлі не смеў».*

Аповед Вінцэся Мудрова «Мех авечай воўны», як заўсёды ў пастаяннага аўтара «Дзеяслова», поўны гумару ды іроніі да савецкага часу, які ў беларусаў да гэтай пары па сутнасці застаецца нязменным, як, дарэчы, і яго нацыянальная ментальнасць. Яму роўна бывў і ёсць«бацькам» і колішні першы сакратар абкама кампартыі, і сённяшні кіраўнік краіны.

«— Не, бляха, я цаліну на ДТ-54 разворваў, а ён дзевак у райкаме камсамолу ціскаў; я паехаў у самы адсталы раён сельскую гаспадарку ўздымаць, а ён у выканкаме дваццаць гадоў порткі праціраў. І цяпер гэты к-казёл будзе мне партыйныя вымовы выпісваць?! На амаралцы сёлета ўжо двое прагарэлі… Чуў, як ён ім на пленуме мараль чытаў?! А сам… — Халімон мімаходзь азірнуўся, суцішыў голас, — каханку сабе надыбаў.»

Каб быць «у курсе» — трэба чытаць высновы аповеда Мудрова: былі астравы авечыя — сталі аграгарадкі чалавечыя… Час беларусаў прыпыніўся ў вечнасці…

Вершы Віктара Жыбуля неардынарныя, як кажуць па-расейску: «из ряда вон», зрэшты, тым і вылучныя. Аўтар ужо ведомы, ён чалавек адораны і ўніверсальны. Праўда, у дадзеным выпадку вершаў занадта шмат.

*«Муза наадварот…*
*І натхняе яна ад адваротнага,*
*Натхняе падступна і жорстка,*
*Прымушаючы звярнуць увагу*
*На тое, што натхненне,*
*Аказваецца, бывае двух відаў:*
*Затхненне і растхненне*
*(ну, па аналогіі з зачараванасцю*
*І расчараванасцю).»*

Пажадаем спадару Віктару адухоўленага натхнення дзеля чытацкай зачараванасці.

Нізка вершаў Ірыны Багдановіч — лірыка вандроўнай назіральніцы. Творчая паездка на шведскую выспу Вісбю вылілася ў «абразкі» натуралісткі. Дзякаваць Богу, ёсць тут вершы высокага палёту, але, на жаль, сустракаецца і «справаздачная» прыземленасць.

Працытую ўпадабаныя радкі:

*«У Visby чароўным жыву,*
*а нібыта я ў Вільна,*
*Дарэчы, падобныя месцы*
*па водарах даўных:*
*Не вулкі, дамы тут, а россып*
*каменных пярлінаў —*
*Утульна-святлістых, у ружы*
*пры ганках прыбраных.*
*У людзе тутэйшым — прыгожая*
*стрыманасць продкаў,*
*Сурова-чароўная Балтыкі*
*вольнай пячатка.*
*О, як жа мне дыхаць тут,*
*думаць узнёсла-салодка!*
*О, як жа прыўкрасная неба й*
*зямлі тут апратка!»*

Чамусьці з прамінулага года многія пачалі «бэсціць» Паўла Касцюкевіча. А я вось з задавальненнем прачытаў яго апавяданне «Кава на дарожку» і зразумеў, што ў творчай біяграфіі Паўла здарыўся «часовы аблом» не таму, што ён кепскі пісьменнік (якраз наадварот), а таму, што яму пашчасціла атрымаць матэрыяльна важкую для Беларусі літаратурную прэмію Ежы Гедройца, застаючыся пры гэтым мужам самой Марыйкі Мартысевіч… У тутэйшых так бывае…

Вершам Ірыны Хадарэнкі (з папраўкай на жаночую логіку) не зашкодзіла б доля самаіроніі В. Жыбуля. Пры ўсім тым сустракаюцца запамінальныя страфы:

*Паміж пункцірамі дажджу,*
*Сярод шматкроп'я жвавых*
*промняў*
*Свой вобраз шыфрам запішу,*
*Каб ты мяне калісьці ўспомніў.*

Выдрукаваныя тры апавяданні Ігара Сідарука. Пад Новы Год, для шаснаццацігадовых і старэй, можа такі «літаратурны экстрым» і нястрашны… Аўтар з лірычнага пакутніка зноў вярнуўся да былых сваіх тэвээлаўскіх страшылак. Але, прызнаемся, што ёсць прыхільнікі і такой маніякальна-дэпрэсіўнай прозы. На фоне нашай жыццёвай аднастайнасці і гэтая проза была ўспрынята мной без асаблівых алергічных наступстваў…

Вершам майго земляка Ігара Канановіча не заўсёды хапае ўраўнаважанасці і гарманічнасці эмоцый і думак. Але там, дзе такі парытэт усё ж быў знойдзены, — праступаюць абрысы нязмушанай паэтычнай выявы:

*Хай вабяць зноў магутных зорак*
*галасы —*
*Не даспадобы мне сістэм*
*трывалых межы.*
*Я — астэроід. Я — Сусвету*
*блудны сын.*
*Я ў вечным пошуку. Жыву,*
*а не залежу…*

Казкі Марыны Яўсейчык вельмі арыгінальныя, але прыземленасць і народная мудрасць былі б ім не лішнія. Надта ўжо яны «адвязаныя» ад лагічных парасткаў жыцця. Аднак цікава будзе назіраць за далейшым творчым ростам адоранай дваццацігадовай літаратаркі.

У 57 нумары «Дзеяслова» ўжо друкавалася трагедыя Эўрыпіда «Медэя» ў перакладзе Л. Баршчэўскага. У гэтым нумары публікуецца твор гэтага ж антычнага аўтара «Бакханкі» ў перакладзе беларускага музыколага Юльяна Дрэйзіна. І тады пісаў і цяпер паўтару, што да любой славутай спадчыны трэба адносіцца з беражлівай павагай. Але лепш было б, каб абедзьве трагедыі былі выдадзены асобнай кніжкай, бо літаратурны перыёдык павінен найперш аддаваць свае старонкі для твораў сучасных літаратараў (часопісаў у нас не густа, ды і выходзяць яны не часта). І абсалютна правільна піша ў прадмове да гэтай публікацыі Л. Баршчэўскі: «Хочацца спадзявацца, што апублікаваная нарэшце праца Юльяна Дрэйзіна, аднаго з першых класікаў беларускага літаратурнага перакладу XX стагоддзя, выкліча зацікаўленасць тых, каму неабыякавае беларускае слова, а можа, і апынецца на працоўным стале рэжысёраў сучасных беларускіх тэатраў». Я думаю, з апошняй фразы гэтай цытацыі і трэба было пачынаць.

Запісы Валерыя Гапеева пра армейскую службу ў савецкім войску (другая палова 1980-х) нічым асаблівым не вызначаюцца ад таго, што калісьці я перажыў сам і чуў ад іншых. Але ў Гапеева ўспаміны спецыфічныя сваім адметным стылем, гэта значыць, літаратурна апрацаваныя. А занатоўка пра Назгуль і ўвогуле выцягвае на паўнавартасны мастацкі аповед.

Публікуецца праца арыгінальных лірычна-філасофскіх мініяцюр ведамага пісьменніка Валерыя Казакова «Абібокі». Да прыкладу, такое, прыдатнае сучасным беларусам: «Шануйце ноч, бо ўначы жыццё праходзіць міма нас».

Эсэ «Пазыка ў спадарыні вечнасці» Рыгора Сітніцы — гэта штрыхі да творчага партрэта ведомага сучаснага мастака Уладзіміра Савіча. Гэтым разам мастак малюе вобраз свайго таварыша і калегі словам — і атрымліваецца вельмі ўдала, пазнавальна і загадкава…

Шырока заяўлена ў нумары крытыка, што важна для літаратурнага працэсу. Прычым тут вычэрпваюца своеасаблівых крыжаванкі. Сяргей Кавалёў разважае пра раман А. Клінава «Шалом», а Марыя Палякова — пра п'есу «Інтымны дзённік» С. Кавалёва. Леанід Галубовіч піша пра кнігу вершаў польскага паэта Яна Твардоўскага «Разам з табою», а Ірына Шаўлякова — пра зборнік вершаў Л. Галубовіча «З гэтага свету»… У гэтым жа раздзеле Сяргей Вераціла дзеліцца сваімі ўражаннямі ад першай паэтычнай кніжкі С. Сыса «Стрэмка», а жонка С. Сыса, паэтка Галіна Дубянецкая — пра кніжку ўжо вышэй намі згаданай І. Багдановіч «Душа лістападу»… Займальна, скажу я вам, і, месцамі крэатыўна (спецыяльна звяртаю ўвагу на гэта спадара Яна Максімюка)…

Рубрыка «Дзеяпіс» скіруе ваш досвед у бок новых літаратурных выданняў.

Прыемнага вам дзеяслоўнага чытання ў новым — 2013 — годзе!

ЛІТЭКАЛОГІЯ

# ЭЛЕКТРОННЫЯ КНІГІ: ЭКАЛАГІЧНАСЦЬ ПАД ПЫТАННЕМ?!

**Экалагічная рада кнігавыдавецкай прамысловасці ЗША (BIEC) паставіла перад сабой мэту на 20% да 2020 года і на 80% — да 2050-га года зменшыць «вугляродны след» і, як вынік, уплыў на глабальнае пацяпленне друкаванай прамысловасці краіны. Раней кампаніі «Kindle & Nook», лідары вытворчасці букрыдэраў, толькі пачыналі асвойваць рынак, і ўзровень іх продажаў складаў толькі 5% агульнага аб'ёма кніжнай прадукцыі.**



Цяпер жа шматлікія кампаніі прынцыпова адмаўляюцца ад выкарыстання папяровых носьбітаў, раздрукоўваючы толькі найбольш неабходныя дакументы, а астатні дакументазварот вядуць у электронным выглядзе. Паступова і электронная літаратура пачала выцясняць папяровую, аднак ці будуць дасягнуты тыя планы, на якія разлічваюць эксперты BIEC?

Калі ў развітых краінах электронная «чыталка» ці планшэт ёсць у кожнага чацвёртага карыстальніка, дык у астатнім свеце з-за нізкай даступнасці інтэрнэта і лічбавых тэхналогій аб'ём продажаў букрыдэраў пакуль параўнальна нізкі. Акрамя таго, колькасць матэрыялаў і энергіі, якія выдаткоўваюцца на вытворчасць, транспартаванне, захоўванне і продаж гаджэтаў, таксама вельмі значная.

Паводле слоў Алена Тэлліса, карэспандэнта «National Geographic», які выказаўся ў падтрымку электронных кніг, досыць прачытаць на букрыдэры 14 кніг, каб перакрыць шкоду, якую наносіць яго вытворчасць навакольнаму асяроддзю, а далейшае яго выкарыстанне выводзіць чытача ў чысты «плюс». Аднак Тэлліс не згадаў, што папяровыя выданні па-ранейшаму выходзяць нароўні з электроннымі, і апошнія толькі дадаюць да ўжо наяўнага вугляроднага следу свой уласны. Журналісты «New York Times» апeруюць іншымі лічбамі: след ад вытворчасці і выкарыстання букрыдэра прыкладна роўны 40-50 прачытаным кнігам. Тэрмін жа эксплуатацыі сучаснай электроннай «чыталкі» не перавышае двух гадоў, пасля чаго карыстальнікі пераходзяць на навейшыя і больш функцыянальныя мадэлі, таму для дасягнення эка-нейтральнасці на рынак ЗША павінны быць выпушчаны 10 мільёнаў рыдараў, якія заменяць 250 мільёнаў папяровых выданняў…

З планшэтамі, якія многія таксама выкарыстоўваюць дзеля чытання электронных кніг, сітуацыя яшчэ больш складаная: на чытанне адной кнігі на iPad неабходна выдаткаваць энергіі ў 50 разоў больш, чым для электрычнага асвятлення працоўнага месца чытача на аналагічны тэрмін. Экалагічны эфект за адну гадзіну працы планшэта «Apple» супастаўны з выкідам 2,5 г вуглякіслага газу ў атмасферу. Такім чынам, з улікам хуткасці чытання сярэднестатыстычнага амерыканца, заяўляе ўплывовае выданне, вугляродны след ад выкарыстання iPad на працягу года ў 5 разоў перавышае шкоду ад выкарыстання папяровай літаратуры. Калі ж прыняць да ўвагі і неабходнасць змены прылады на больш функцыянальны аналаг кожныя два гады, атрымаецца, што першапачатковa набыццё планшэта на 200–250% менш экалагічна, чым след ад вытворчасці і продажы аналагічнага аб'ёму традыцыйных папяровых кніг.

Вядома ж, букрыдэры, якія працуюць на тэхналогіі электронных чарнілаў і выдаткоўваюць энергію пераважна на абнаўленне старонак, спажываюць мінімум электрычнасці, у меншай ступені састарваюцца і даўжэй трымаюць зарад акумулятара. Аднак сучасны карыстальнік, задумваючыся пра набыццё гаджэта, шукае хутчэй не «бібліятэку ў кішэні», а шматфункцыянальную прыладу, якая дазволіла б і музыку паслухаць, і ў нескладаную гульню згуляць, і ў інтэрнэце «пасядзець». Таму ўсё больш пакупнікоў аддаюць перавагу не чорна-белым букрыдэрам, а планшэтам, якія, па сутнасці, з'яўляюцца мініяцюрнымі кампутарамі і наносяць навакольнаму асяроддзю большую шкоду, звязаную, у першую чаргу, з вытворчасцю і наступнай утылізацыяй. А існуюць яшчэ і выдаткі энергіі на падтрымку дата-цэнтраў, зарадку і перыядычную замену акумулятараў, пакаванне і дастаўку гаджэта, немагчымасць падзяліцца ім з сябрамі і роднымі: сёння рыдар — прылада персанальная ў адрозненне ад папяровых кніг, якімі звычайна абменьваюцца са знаёмымі ці шляхам буккросінга.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў www.novostiliteratury.ru, Молдова-пресс, Вести, Lenta.ru і New York Times.**

ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

# ПОМНІК ГУГУЦЭ Ў КІШЫНЁВЕ

**У малдаўскай сталіцы будзе ўсталяваны помнік Гугуцэ — знакамітаму персанажу казак Спірыдона Вангелі. Таксама імем Гугуцэ будзе названы парк, які ўлады плануюць разбіць у Кішынёве ў першым квартале новага года. Гэта прадугледжвае распрацаваны міністэрствам культуры план Года Спірыдона Вангелі.**

Рашэннем парламента Малдовы 2013 год абвешчаны годам Спірыдона Вангелі ў сувязі з 80-м юбілеем пісьменніка і з улікам «адмысловага значэння яго літаратурнай творчасці і значнага ўнёску ў развіццё нацыянальнай і сусветнай літаратуры». Кнігі Спірыдона Вангелі перакладзены на сорак моў свету, выдадзены ў ЗША, Нямеччыне, Японіі, Расіі, Вугоршчыне, Фінляндыі, Кітаі, Балгарыі, Італіі, у краінах Балтыі і СНД і інш. Агульны наклад кніг — больш 8 мільёнаў асобнікаў. Адмысловую папулярнасць малдаўскі пісьменнік заваяваў дзякуючы сваім гісторыям пра Гугуцэ.

Месца будучага парка мінкультуры пакуль не ўдакладніла.

У плане мерапрыемстваў таксама выданне кніг Спірыдона Вангелі, пастаноўка спектакляў па яго творах, адкрыццё лагера для таленавітых дзяцей імя Спірыдона Вангелі, правядзенне міжнароднага тэатральнага фэсту «Пад шапкай Гугуцэ», міжнароднага кніжнага салона і міжнароднай канферэнцыі «Сучасная філалогія: дасягненні і перспектывы ў еўрапейскім кантэксце: Спірыдон Вангелі — універсальны дзіцячы пісьменнік». Акрамя таго, мінкультуры прапануе адчаканіць памятную манету і аддрукаваць маркі, прысвечаныя знакамітаму малдаўскаму дзіцячаму аўтару.

# «ШЧАСЦЕ І СТРАТЫ» ЯЎГЕНІЯ ЕЎТУШЭНКІ

**Яўген Еўтушэнка прэзентаваў у Маскве новы зборнік вершаў «Счастья и утраты», у які ўвайшлі творы апошніх гадоў. Творчы вечар адбыўся ў Вялікай аўдыторыі Політэхнічнага музея.**



Зала сустракала паэта стоячы і гучнымі апладысментамі. Галоўнай падзеяй стала чытанне паэмы «Дора Франко», якая ўпершыню прагучала на расійскай мове. Раней паэт чытаў яе па-ангельску і па-італьянску. «Любоўна-прыгодніцкая паэма», як характарызуе яе аўтар у прадмове кнігі, — даўняя гісторыя кахання аўтара.

«У мяне заўсёды была вельмі спавядальная паэзія. Я ўступіў у такі перыяд доўгай споведзі. Вось адна з іх у мяне і склалася пасля некалькіх сур'ёзных аперацый. Я ўспомніў, што пра гэта абавязкова трэба напісаць. Паэма называецца сапраўдным імем яе гераіні, гэта 68-ы год, Калумбія…», — распавёў Яўген Еўтушэнка.

Паэму аўтар чытаў каля гадзіны. Падзякаваўшы гледачам, ён пад песню «Санта Лючыя» прадэкламаваў верш, прысвечаны рыбалцы, на якой яму давялося застрэліць рыбу. Затым, папрасіўшы дапамогі залы, Еўтушэнка працягнуў вершам «Балада пра пятага бітла», прысвечаным легендарнай групе «The Beatles». Яго радкі перамяжоўваліся прыпевам «We all live in a yellow submarine», які паэт паўтараў разам з залай.

У другім аддзяленні творчага вечара на сцэну падняліся сябры паэта: Веніямін Смехаў, акцёры Тэатра на Таганцы, Леанід Рашаль, Сяргей Нікіцін (які выканаў некалькі песень на вершы Еўтушэнкі) і іншыя.

# КУПРЫНА ЗАМЕНЯЦЬ ПЯЛЕВІНЫМ

**У асобных школах Расіі ў 2013/2014 навучальным годзе ў парадку эксперымента будзе апрабавана новая праграма па літаратуры, распрацаваная Расійскай акадэміяй адукацыі.**

Са зместа метадычкі, якую ўжо можна набыць у маскоўскіх кнігарнях, вынікае, што спіс абавязковых да вывучэння аўтараў будзе грунтоўна адрэдагаваны. У прыватнасці, колькасць савецкіх і сучасных пісьменнікаў (накшталт Пялевіна і Уліцкай) узрасце ў чатыры разы, прычым за кошт «скарочаных» з праграмы класікаў: Мікалая Ляскова, Аляксея Талстога, Аляксандра Купрына, Мікалая Рубцова, Віктара Астаф'ева і Аляксандра Вампілава.

Вядома, што «ўсерасійскі маштаб» чарговая «напасць» прыме толькі ў 2020-м годзе.

Аднак да сучасных беларускіх школьных літпраграм, з якіх цягам мінулых гадоў актыўна «скарачалі» незалежных пісьменнікаў ды іх творы (як і наогул гадзіны выкладання прадмета), нашым усходнім «саюзнікам» яшчэ далёка…

## ПРЭМІІ

### РУСКІ БУКЕР

**Вызначаны пераможца літаратурнай прэміі «Рускі Букер» за 2012 год. Ім стаў аўтар кнігі «Крестьянин и тинейджер» Андрэй Дзмітрыеў.**

Раман «Крестьянин и тинейджер» выйшаў сёлета ў маскоўскім выдавецтве «Время». Раней, у кастрычніку 2012 года, твор атрымаў прэмію «Ясная Паляна» ў намінацыі «Детство, отрочество, юность». Акрамя таго, у траўні раман патрапіў у шорт-ліст прэміі «Вялікая кніга».

Апроч пераможцы ў шорт-ліст «Рускага Букера» сёлета ўвайшлі 5 твораў: «Дневник смертницы. Хадижа» Марыны Ахмедавай, «Арбайт, или Широкое полотно» Яўгенія Папова, «Лёгкая голова» Вольгі Слаўнікавай, «Женщины Лазаря» Марыны Сцяпновай і «Немцы» Аляксандра Церахава.

Журы прэміі ў гэтым годзе склалі: генеральны дырэктар фонда «Пушкінская бібліятэка» Марыя Ведзяняпіна, паэт Уладзімір Салімон, празаік, рэжысёр і сцэнарыст Павел Санаеў, пісьменнік і крытык Раман Сенчын. Старшынём абраны пісьменнік Самуіл Лур'е.

«Рускі Букер» уручаецца з 1992 года. Сёлета лаўрэат атрымае 1,5 млн расійскіх рублёў, а фіналісты — па 150 тысяч.

### ПРЭМІІ «НОВОГО МИРА»

**Часопіс «Новый мир» падвёў вынікі літаратурнага 2012 года.**

Рэдакцыя прысудзіла традыцыйныя прэміі. Лаўрэатамі 2012-га сталі: Дмітрый Данілаў — за раманы «Апісанне горада» і «Гарызантальнае становішча», Канстанцін Краўцоў — за падборку з цыкла «На доўгіх хвалях», Таццяна Каханоўская і Міхаіл Назаранка — за цыкл артыкулаў «Украінскі вектар», а таксама Аляксандр Секацкі — за артыкул «Ізраільскія нататкі».

Былі названы і пераможцы прэміі «Anthologia», якую часопіс прысуджае з 2004 года. Лепшымі названыя Уладзімір Гандэльсман, Святлана Кекава, Рыгор Кружкоў і Марыя Сцяпанава.

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 3 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.20** Меладрама.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.55** Серыял «Мужчына ў мне» (Расія).
**10.55** Медычныя таямніцы.
**11.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.10** Камедыя «Асаблівасці нацыянальнага палявання» (Расія).
**14.05** «Трыўмф. Героям спорту». Дзённік.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Заўтра - гэта мы!
**16.05** Культурныя людзі +.
**16.40** Рэтра-камедыя «Пакроўскія вароты» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**19.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**20.00** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Драма «Мора ўсярэдзіне» (Іспанія-Францыя).
**00.35** Серыял «Мужчына ў мне» (Расія).

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі» са Зміцерам Крыловым.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** «Дзелавыя людзі».
**12.25** Прэм'ера. «Леанід Гайдай. Вялікі перасмешнік».
**13.25** «Самая абаяльная і прывабная».
**15.00** Да юбілею акцёра. Прэм'ера. «Ігар Кваша. Асабісты боль».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Той самы Мюнхгаўзен».
**18.50** «Я кахаю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Цырымонія ўручэння народнай прэміі «Залаты грамафон».
**00.30** «Ты - мне, я - табе».

### СТВ

**06.25** «Салдаты. Дэмбель непазбежны». Серыял.
**08.05** «Месяцам поўніўся сад». Расія, 2000 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Жыць будзеце».
**10.50** «Вялікі сняданак».
**11.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.25** «Добры дзень, доктар».
**13.00** «Вялікі перапынак». СССР, 1972 г. 2 серыя.
**14.20** «Тэрыторыя памылак з Ігарам Пракапенкам».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Уявіце сабе».
**17.40** Канцэрт Міхася Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Сенсацыя». ЗША, 2006 г.
**22.30** «Цуды запаветныя».
**23.30** «Арт-хаўс»: «Апошні ўрок». Францыя-Бельгія, 2008 г.

### 2 Беларусь

**07.05** Таямніца душы.
**07.30** Камедыйны серыял «Святлафор».
**08.35** Камедыя «За запалкамі» (СССР-Фінляндыя).
**10.35** Телебарометр.
**10.40** Пазакласная гадзіна.
**10.55** Альбарутенія.
**11.30** Пра мастацтва.
**12.00** Вышэй за дахі.
**12.35** Меладрама «Снежнае каханне, ці Сон у зімовую ноч» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**14.55** Спартовая камедыя «Дамажыся поспеху» (ЗША).
**16.50** Камедыя «За запалкамі» (СССР-Фінляндыя).
**18.50** Суперлато.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Фантастычны баявік «Трынаццаты раён» (Францыя).
**22.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга.
**00.45** Камедыйны серыял «Святлафор».

### Россия телеканал

**07.00** «Сіла сэрца» (2012 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весці.
**11.15** «Смехапанарама Яўгенія Петрасяна».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** «Мядовы месяц».
**14.00** Весці.
**14.15** «Сталінградская бітва». Фільм 2-і «Пералом».
**15.10** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.05** «Маша і мядзведзь». Мультфільм.
**16.20** «Сваты».
**18.15** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весці тыдні.
**21.25** «Мама выходзіць замуж» (2012 г.).
**23.10** «Нядзельны вечар з Уладзімірам Салаўёвым».

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо хаты!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.50** «Паедзем, паядзім!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Версія».
**15.05** «Сталінград. Супрацьстаянне».
**16.00** Сёння.
**16.20** Вострасюжэтны серыял «Грамадзянка начальніца. Працяг».
**18.05** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.45** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.55** «Ты не паверыш!».
**22.50** «Рэакцыя Васэрмана».
**23.25** «Прамень Света».
**23.55** Фільм «Штукар-2».
**01.35** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

### Eurosport

**01.30** Ралі: Латвія - Дзень 1.
**02.00** Санкавы спорт.
**03.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**03.45** Санкавы спорт: Чэмпіянат Свету. Жанчыны 2-я спроба.
**10.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Жанчыны.
**11.45** Лыжнае дваяборства: Кубак свету. Сочы.
**12.45** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Сочы.
**13.45** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Сочы - Камандны спрынт.
**15.00** Лыжнае дваяборства: Кубак свету. Сочы.
**16.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**17.45** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. Паўднёвая Афрыка - 1/4 фіналу.
**20.00** Снукер: прафесійны снукерный турнір - Фінал.
**21.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.45** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 5 серыя.
**08.10** Над Немнам (тэлечасопіс).
**08.25** Зона «Свабоды».
**08.55** Еўропа сёння.
**09.25** Навігатар.
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Музычныя кліпы.
**10.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**11.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.15** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.35** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Прыгоды і паходы».
**12.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 5 серыя.
**12.35** «Гадзіна гонару», серыял: 7 серыя.
**13.20** «Польская кухня», серыял: 4 серыя.
**14.30** «Ваенныя гульні», дак. фільм, рэж. Дарунак'юш Яблоньскі, 2009 г., Польшча, 2 серыя.
**15.10** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.30** Макрафон: Рамантычны канцэрт, ч. 2.
**15.55** «Вяселле, Польшча.
**17.40** Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча.
**18.10** Невядомая Беларусь: «Гуканне вясны», дак. фільм, рэж. Зоя Катовіч, 2009 г., Беларусь.
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Польскія казкі і паданні».
**19.00** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Вайна імператараў».
**19.25** Макрафон: «Салідарныя з Беларуссю-2012», канцэрт: выступ «Wawamuffin».
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.00** Дакументальная гадзіна: «1863 год», 2013 г., Польшча.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт.
**21.55** Форум (ток-шоў).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Дзеці славы».
**00.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 16.
**01.10** Два на два (тэледыскусія).
**01.35** Жаўтуха (сатырычная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 044) 755 66 48, Марына

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Кассир

Пеня ______
Всего ______

ДЫСКУСІЯ

# ЦІ ІСНУЕ КАЗАЦКАЯ НАЦЫЯ?

Алег НОВІКАЎ

**Частка казакоў Усевялікага Войска Данскога перадала петыцыю Уладзіміру Пуціну, у якой патрабуе прызнаць іх як народ і даць афіцыйнае права на нацыянальнасць «казак». Гэта выклікала шырокую грамадскую дыскусію.**



Сваю ініцыятыву адзін з атаманаў Павел Серыкаў тлумачыць вельмі проста: людзі стаміліся ад шырокага брэнда «казацтва», які вабірае разнастайныя, і часам надзвычай эксцэнтрычныя з'явы. Напрыклад, у інтэрнэце можна натыкнуцца на інфармацыю пра тое, што ўсурыйскія казакі арганізавалі конкурс малюнку на асфальце, або пра тое, што казакам дазволена насіць званне «сябра пажарнага». Яшчэ адно шырокае поле для падобнай дзейнасці ўзнікала пасля партыйнай рэформы ў Расіі. Толькі за год на палітычнай сцэне ўзніклі чатыры казацкія партыі або аргкамітэты: Усерасійская палітычная партыя «Казацкая палітычная партыя», Палітычная партыя «Казацкая партыя», Палітычная партыя «Казакі Расіі», Палітычная партыя «Сусветнае братэрства казацкага і афіцэрскага спецназу».

Павел Серыкаў лічыць, што пазбавіць рускае грамадства ад псеўдаказакоў можа толькі адно — прызнанне казакоў нацыяй. Па ягоных словах, пасля гэтага казацкі рух набудзе логіку і атрымае правы. Пакуль Міністэрства юстыцыі РФ рэгулярна адмаўляе ў рэгістрацыі рэгіянальным казацкім нацыянальна-культурным аўтаноміям (НКА) ці спрабуе іх ліквідаваць, калі казакам усё ж удаецца падобныя аўтаноміі зарэгістраваць. Мінюст матывуе гэта тым, што стварэнне НКА не ўпісваецца ў дзяржаўную палітыку ў дачыненні да казацтва і што нібы такога народа, як казакі, не існуе.

Яшчэ падчас кіравання Ельцына быў прыняты шэраг дакументаў па рэабілітацыі казакоў, аднак сваёй аўтаноміі яны не атрымалі. Лічыцца, што казакі — гэта саслоўе, аднак якія правы мае саслоўе ў Расіі, нікому не зразумела.

На інтэрнэт-форумах Растоўскай вобласці можна сустрэць такую ацэнку дзейнасці сучасных казакоў: «Асабіста ў мяне адна асацыяцыя сучаснага казацтва — гэта п'яныя людзі ў форме, якія хістаюцца на набажэнстве ў царкве на Вялікдзень... усё! Хай спачатку пытанне з алкагалізмам вырашаць, а потым, можа, здолеюць вырашаць і іншыя пытанні».

Магчыма, крызіс мадэлі казацкага руху паўплываў на колькасць ахвочых называць сябе казакамі. Паводле перапісу 2002 года, казакамі назвалі сябе каля 140 тысяч чалавек, а паводле перапісу 2010 года да казакоў сябе прылічылі ўдвая менш — 67 573 грамадзяніна Расіі. З іх у Растоўскай вобласці пражывае 29 687 чалавек, у Валгаградскай вобласці — 18 452, у Краснадарскім краі — 5 261. Іншыя раскіданыя паміж рэспублікамі і краямі Паўночнага Каўказу. Пры гэтым нават афіцыйныя крыніцы ў Крамлі лічаць, што казакоў у Расіі некалькі мільёнаў.

Аднак не ўсе казакі згодныя на формулу вырашэння праблемы праз атрыманне статусу «нацыя». Гэта звязана з тым, што казацкі рух разглядае сябе часткай агульнага руху рускіх нацыяналістаў. Ідэолагі гэтага руху бачаць у казацкім сепаратызме вушы сусветнай антыславянскай змовы.

Сайт «Русский форум» піша: «Калі прызнаць казакоў асобным народам — абывацель зразумее гэта так: «Казакі — не рускія». Пры гэтым некаторыя тэарэтыкі казацкага народа гэтага і не хаваюць, сцвярджаючы: мы не можам быць рускімі, паколькі казакі фармаваліся з запарожцаў, з горскіх народаў, калмыкаў і г.д. Што будзе азначаць прызнанне казакоў асобным народам? Ланцужковую рэакцыю — з рускай нацыі пачнуць вылучацца спачатку сібіракі, паморы і ўсякія інгерманландцы, а затым мы пойдзем дзяліцца, баюся, на ўсякіх крывічоў, радзімічаў, палян і драўлян. Іншымі словамі, назад — у сляпую і глухую архаіку. Калі даць волю ўсім гэтым ідыётам, яны канчаткова знішчаць Рускую цывілізацыю. Самі ж рускія (частка іх) у дадзеным выпадку дапамагаюць англасаксонскім цэнтрам!»

Такога кшталту падазрэнні яшчэ больш узмацніў канфлікт Серыкава з уладамі, якія даюць зразумець, што не ў захапленні ад яго ініцыятываў. Так, мітынг у абарону петыцыі да Пуціна мэрыя Новачаркаска дазволіла праводзіць толькі ў прамзоне.

У гэтым канфлікце антыпуцінскія лібералы адназначна падтрымалі прыхільнікаў канцэпцыі казацкай нацыі. Адзін з блогераў нехта Polina піша: «Папросту звычайных казакоў улада баіцца. Калі «ряженые», кшталту Вадалацкага (адзін з лідараў праўладных казакоў), якіх можна прыгнаць на пуцінскія мітынгі і прымусіць галасаваць за антынародных дэпутатаў — гэта добрыя для ўлады казакі. А калі яны вырашылі самі на мітынг выйсці, іх адразу — у няблізкі свет».

Дарэчы, сярод саміх казакоў паступова ўсё больш папулярнай робіцца думка, што крамлёўская адміністрацыя сапраўды баіцца адраджэння казакоў па ідэйных меркаваннях. Таксама, як, дарэчы, у царскія часы. І тады, і цяпер, як піша сайт «Казацкая нацыя», Маскву палохала «захаванае на ўзроўні менталітэту пачуццё народаўладдзя і вольнага народа — «усвядомленыя ўсімі казакамі патрэба і здольнасць арганізоўваць сваю вайсковую ваенна-грамадзянскую ўладу і грамадскае жыццё на прынцыпах казацкага народаўладдзя».

Праўда, тыя ж казакі часта спісваюць адсутнасць кансенсусу з цэнтрам на каўказскае лобі. «Нельга цалкам выключыць версію, што за гэтым зацятым нежаданнем (прызнаць казацкі этнас) стаіць адміністрацыйны рэсурс нацыянальных рэспублік Паўночнага Каўказа, а таксама фінансавы патэнцыял Паўночнакаўказскіх дыяспар у Маскве. У гэтым сэнсе Крэмль дзейнічае, магчыма, па засвоеным яшчэ з 1917 года шаблоне: вырашаць праблему забеспячэння палітычнай лаяльнасці народаў Каўказа ў тым ліку і генацыдам казацкага насельніцтва (казакі ішлі ў авангардзе царскай каланізацыі Паўночнага Каўказа)», — піша «Казацкая нацыя».

Атаманы пужаюць Крэмль, што вынікам цяперашняй палітыкі на адрас казацтва стане «страта Расіяй ужо ў сярэднетэрміновай перспектыве ўсяго рэгіёна Каўказа пры больш-менш сур'ёзным унутраным крызісе ці пры больш-менш адчувальным штуршку звонку».

Аднак ці не наблізіць такую катастрофу прызнанне казакоў нацыяй? Гаворка не пра тое, што такая рэформа ажывіць сепаратысцкія рухі іншых этнасаў. Хутчэй, у Крамлі баяцца з'яўлення новых кропак міжэтнічных канфліктаў на Кубані і Доне.

Ідэолагі казацкай нацыі бачаць свой праект выключна праз прызму мінулага: «Аднаўленне рэальнага этнасацыяльнага статуту казакоў немагчыма без аднаўлення самабытнай казацкай палітычнай культуры на карэнных казацкіх землях. Толькі казацкая палітычная культура можа зноў аднавіць сапраўдны казацкі ўклад жыцця, а з ім і здольнасць сучасных казакоў да эфектыўнага вядзення хутарскіх гаспадарак дый ваеннай мабілізацыі таксама».

Аднак як можа існаваць самабытная казацкая культура без прававых і палітычных забабонаў часоў Вялікага Войска Данскога, а дакладней, без сацыялізацыі зямлі (яна належала казацкаму кругу), права казакоў на нашэнне зброі, абмежавання ў правах неказацкага насельніцтва, вяртання ў склад казацкай вобласці тэрыторый, якія пасля яе ліквідацыі адышлі да суседніх рэгіёнаў. Пытанняў, як бачым, шмат.

Аднак галоўнае, што выклікае скепсіс у гэтым праекце, — рэтраспектыва апошніх спробаў казакоў дасягнуць большай аўтаноміі. Падчас параду суверэнітэтаў і распаду СССР сярод іншых казацкіх дзяржаўных адзінак у кастрычніку 1991 года было абвешчана аднаўленне ў якасці суб'екта РСФСР Данской Казацкай Рэспублікі са сталіцай у Новачаркаску. Стварэнне казацкай рэспублікі падтрымаў II Вялікі Круг Саюзу казакоў, які прайшоў 7–10 лістапада 1991 года ў Стаўрапалі на фоне абсалютнай слабасці цэнтральнай улады. Аднак у выніку нічога не атрымалася. Калі ўжо тады, у часы масавага энтузіязму і мабілізацыйнай гатоўнасці насельніцтва, не ўдалося рэалізаваць казацкі праект, то наколькі рэальна вярнуць да яго шырокі інтарэс цяпер, тым больш, калі само казацкае асяроддзе неаднароднае?

Адказ на гэты пытанне, магчыма, мы атрымаем пасля таго, як пачуем рэакцыю грамадства на петыцыю казакоў да Пуціна.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Аляксандр Лукашэнка сцёр сваю краіну з палітычнай карты свету — упэўнена, размашыста, без адмысловых эмоцый. Яму ёсць што прадстаўляць, але няма дзе. Менавіта таму ён мог бы абысціся без дарагіх гарнітураў, рэзідэнцый і гадзіннікаў. Калі беларускага кіраўніка і клічуць на сустрэчу з яго расійскім калегам, дык толькі ў якасці таго, хто выпрошвае падачкі на пражытак і, вядома ж, на гарнітуры, рэзідэнцыі, гадзіннікі і іншыя раскошныя рэчы. Так што хай Лукашэнка не распавядае журналістам казкі пра мятае паліто Шушкевіча і пра свае пратакольныя абавязкі. Шмат часу ён праводзіць дома, ездзіць яму няма куды, сустракацца няма з кім. А свае дарагія гадзіннікі ён носіць выключна дзеля ўласнага задавальнення, дэманструючы, як спрытна ён трымацца на паверхні за чужы — няхай нават і вельмі братэрскі — кошт.

**politcom.ru (Расія)**

Як бы Лукашэнка ні намагаўся давесці тое, што ў Мінска выдатныя стасункі з Масквой і поўнае паразуменне двух лідараў, палітычна актыўная грамадскасць добра памятае «мух і катлет» ад расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна. Ды і падзеі апошніх дзён пацвярджаюць далёка не бясхмарны характар адносін аўРасіі і Беларусі — баланс па нафце не падпісаны, ніводны гучны эканамічны праект не дайшоў да рэалізацыі. Лукашэнка не можа адмовіцца ад заходняга «фронту», паколькі баіцца за сваю ўладу, абапіраючыся толькі на Расію, мяркуюць эксперты ў Мінску. Таму, гучна заяўляючы пра глыбокую інтэграцыю з найбліжэйшай суседкай, ён будзе ціха весці перамовы з Брусэлем.

**«Независимая газета» (Расія)**

Прагназуючы развіццё сітуацыі, эксперты сцвярджаюць, што ўзмацненне кантролю Крамля за беларускімі нафтахімічнымі схемамі не дазволіць Беларусі паўтарыць рэкорд першых сямі месяцаў 2012 года, калі ў Беларусі быў вялікі прафіцыт гандлёвага балансу. Не атрымаецца паўтарыць і тэмпы росту рэальных прыбыткаў. Гэта будзе азначаць ліквідацыю большай часткі дзяржпраграм і паставіць на павестку дня пытанне пра структурныя рэформы, у тым ліку — пра прыватызацыю. Прымус да рэформаў — непрыемны для афіцыйнага Мінска працэс, але ён выцякае з логікі рэалізацыі праекта «Мытны саюз». Спробы Аляксандра Лукашэнкі ў ручным рэжыме мадэрнізаваць дзяржсектар, па ацэнках адмыслоўцаў, ужо правалены. І асобныя выключэнні толькі пацвярджаюць гэтую выснову.

**BBC (Вялікабрытанія)**

У 2014 годзе ў Рэспубліцы Беларусь павінен адбыцца чэмпіянат свету па хакеі. У сувязі з чым мінскія ўлады заявілі, што транспартныя таблічкі ў горадзе будуць утрымліваць надпісы па-беларуску і па-англійску. Пра рускую мову, як здараецца апошнім часам, «забылі». У падземцы з'явіліся надпісы лацінскімі літарамі, але грамадзяне са здзіўленнем выявілі, што гэтыя дзіўныя надпісы выкананы на польскі манер, з выкарыстаннем літар польскага алфавіту. Зразумела, што такія моўныя навіны не засталіся без увагі грамадскасці і журналістаў. Калі ж апошнія пацікавіліся ў метрапалітэнаўскага начальства, што б гэта значыла, дык атрымалі даволі бесцырымонны адказ, што «нічога змяняцца не будзе». Адсюль зразумела, што «польскія» назвы мінскіх станцый метро — гэта не выпадковасць, а свядомы курс на «паланізацыю» Беларусі. Для чаго падыходзіць любая «нагода».

**«Материк» (Расія)**

Пасля рэзкай дэвальвацыі нацыянальнай валюты і эканамічнага крызісу ў 2011 годзе ў Беларусі заробкі людзей пачалі змяншацца, і гэта спарадзіла ў іх расчараванне Аляксандрам Лукашэнкам. Такая змена настрояў і знайшла адлюстраванне ў сацапытаннях. Аднак гэты факт не азначае, што беларусы захацелі змяніць уладу.

**«Deutche Welle» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. У НЯМЕЦКАЙ МОВЕ НЕ БУДЗЕ СЛОВА «НЕГР»

Прыкладна месяц таму Крысціна Шродар (Kristina Schröder), міністр па пытаннях сям'і ў кансерватыўным урадзе Ангелы Меркель, дала інтэрв'ю, у якім падзялілася сваім поглядам наконт таго, як трэба распавядаць казкі дзецям. Сярод іншага Крысціна заклікала пазбягаць выкарыстання слова «негр», якое, на яе думку, мае расісцкі і дыскрымінацыйны падтэкст. Словы міністра выклікалі вялікую палеміку, аднак займелі практычны вынік. Такім чынам, шэраг выдавецтваў ФРГ абвясцілі, што прыбяруць слова «негр» з усіх літаратурных тэкстаў. Перш за ўсё гэта, безумоўна, будзе тычыцца дзіцячай літаратуры. Так, выдавецтва «Thienemann» «мадэрнізуе» тэкст славутай казкі «Маленькая Баба-Яга» (аўтар Отфрыд Пройслер), якому, дарэчы, сёлета споўнілася б 90 гадоў. Цікава, што некаторыя кансерватыўныя аднапартыйцы Крысціны заявілі, што будуць змагацца супраць, як яны кажуць, «dénégrification» (дэнегрыфікацыі) дзіцячай літаратуры, паколькі бачаць у гэтым напад на арыгінальнасць твораў. Яны сцвярджаюць, што працэс барацьбы за палітычную карэктнасць можа прывесці да перагляду тэксту Бібліі і Евангелля, дзе таксама шмат ксенафобскіх пасажаў. У сваю чаргу, левыя адзначаюць, што ў перыяд фармавання асобы дзіцяці важна, каб у яго былі выпрацаваныя добрыя эмоцыі на адрас іншых народаў, і таму падтрымліваюць Шродар.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ВЕНЕСУЭЛА. ПЕРАЕМНІКАМ ЧАВЕСА БУДЗЕ КАСТРА

Такой сенсацыйнай ідэяй падзялілася з чытачамі іспанская газета «El País». На думку выдання, пра гэта сведчыць сустрэча, якая прайшла нядаўна ў Гаване. Гэта было незвычайнае пасяджэнне дзевяці міністраў і чыноўнікаў Венесуэлы пад кіраўніцтвам кубінскага прэзідэнта Рауля Кастра. Такім чынам, як зразумець «El País», хворы Чавес даручыў братам Кастра кіраваць краінай у выпадку сваёй смерці. Дарэчы, у 1959 годзе Кастра наведаў Венесуэлу, дзе толькі што закончыўся этап дыктатуры, і папрасіў танную нафту. Тагачасны прэзідэнт краіны адмовіўся. Хутка дыпламатычныя адносіны паміж краінамі былі разарваныя, а дакладней, перайшлі ў фармат халоднай вайны. Планавалася забойства Кастра, а кубінцы двойчы няўдала спрабавалі ўзняць герылью ў стане ворага. Калі, зноў жа, верыць гэтай версіі, менавіта з-за помсты браты Кастра адразу пасля выхаду Уга Чавеса з турмы, куды ён трапіў за спробу путчу ў 1992 годзе, запрасілі яго ў Гавану і дапамаглі зрабіцца палітыкам. На думку газеты, бліжэйшым часам можна чакаць пачатку кубінізацыі венесуэльскага заканадаўства.

**Паводле іспанскай прэсы**

### УКРАІНА. ЯПОНЦЫ ПЛАНАВАЛІ ЎКРАІНСКАЕ ПАЎСТАННЕ

Калі верыць публікацыі ў адной з украінскіх газет, Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў мела добрыя кантакты з японскім урадам. У 1937 годзе ў Японію нават была накіраваная місія бандэраўцаў. Украінскія нацыяналісты спатрэбіліся японцам для таго, каб дапамагчы арганізаваць украінскае паўстанне ў Сібіры і на Далёкім Усходзе. Тут у часы рэформаў Сталыпіна сфармавалася вялікая калонія перасяленцаў з Украіны. Украінцы, колькасць якіх была да мільёна чалавек, захавалі сваю ідэнтычнасць, нягледзячы на спробы асіміляцыі (тут выходзілі ўкраінамоўныя газеты, часопісы і г.д.), акрамя таго, у Маньчжурыі дзейнічала адносна вялікая ўкраінская палітычная эміграцыя, якая марыла пра стварэнне ў Прымор'і асобнай украінскай дзяржавы «Зялёная Украіна». Дапамагаць ім і прыехалі сябры АУН. Спачатку ўсё ішло добра. Японцы дапамаглі сродкамі, каб ствараць вайсковыя атрады для дыверсій па той бок мяжы. Аднак у 1943 годзе Токіа вырашыў рабіць стаўку на белаэмігрантаў, якія марылі пра Вялікую і непадзельную Расію. Украінскі праект аказаўся незапатрабаваным. Да заканчэння вайны ён існаваў на ўзроўні дзейнасці культурніцкіх арганізацый. Пасля капітуляцыі Японіі ў Маньчжурыі, якая нейкі час знаходзілася пад кантролем Масквы, НКУС правёў чыстку ўсіх антысавецкіх элементаў. Лічыцца, што тады былі фізічна знішчаныя апошнія рэшткі ўкраінскіх нацыяналістаў Далёкага Усходу.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. ПАД УДАЛЬЦОВА КАПАЮЦЬ СВАЕ



У Маскве адбыўся з'езд арганізацыі «Левы фронт», сярод лідараў якой Сяргей Удальцоў — адзін з дзеячаў антыпуцінскай апазіцыі. Падчас з'езду частка «франтавікоў» асудзіла дзейнасць Удальцова. Імі сфармаваная так званая «Левая платформа», якая лічыць, што ўдзел у «агульнаграмадзянскіх акцыях» разам з лібераламі шкодзіць левай справе. «Мы ставім сваёй задачай аздараўленне «Левага фронту», ачышчэнне яго ад нацыяналістычных і ліберальных тэндэнцый, наладжванне сістэматычнай працы», — гаворыцца ў дакументах платформы. На думку палітолагаў, гаворка як мінімум ідзе пра раскол «Левага фронту», калі не наогул пра адстаўку Удальцова. Адзінае, што пакуль застаецца незразумелым, — хто «плаціць за музыку». Некаторыя лічаць, што за «платфармістамі» стаіць Крэмль, якому патрэбна дыскрэдытаваць Удальцова любымі сродкамі. Другія мяркуюць, што фронда — прэява сектантаў, якіх заўсёды хапае ў расійскім левым руху.

**Паводле расійскай прэсы**

ПРАБЛЕМА

# АД КРЫЗІСУ ВЫРАТУЕ МАНАРХІЯ

*Алег НОВІКАЎ*

**Яшчэ адна грымаса крызісу: у краінах, дзе даўно ўсталяваўся рэспубліканскі лад, назіраецца рост манархісцкіх настрояў. Яскравы прыклад таму — Партугалія.**

У той час, як у суседняй Іспаніі рэйтынг каралеўскага двара імкліва падае (зараз Хуану Карласу давяраюць каля 40 працэнтаў іспанцаў), у суседняй Партугаліі, наадварот, назіраецца рост папулярнасці Дуартэ Піу — галоўнага нашчадка партугальскіх каралёў, якія былі пазбаўленыя трону ў выніку рэвалюцыі 1910 года.

Так здарылася, што абвяшчэнне рэспублікі не вырашыла эканамічных праблемаў краіны. Наадварот, пасля 1910 года партугальцы сталі жыць цыклічна — ад аднаго ўрадавага ці карупцыйнага скандалу да наступнага. У дадатак рэспубліканскі путч сімвалічна значыў канчатковы разрыў з імперскім мінулым Партугаліі, якая калісьці ўключала ў свой склад Бразілію, Анголу, Мазамбік, Макао, Гоа...

Не дзіўна, што мела месца некалькі спробаў рэстаўрацыі дынастыі, самай буйной з якіх быў мяцеж на поўначы краіны ў 1919 годзе. Паўстанцы трымаліся каля месяцу, аднак у выніку склалі зброю. Манархісты яшчэ нейкі час заставаліся ўплывовым рухам, пакуль у 1928 годзе ў краіне не быў усталяваны аўтарытарны рэжым — так званая «Новая дзяржава», лідар якой Антоніу дзі Алівейра Салазар запазычыў у манархістаў шмат іх фішак: нацыяналізм, клерыкалізм, імперская ідэя і г.д. І хаця дыктатар, як і Франка ў суседняй Іспаніі, не знайшоў агульнай мовы з манархістамі, ён час ад часу кідаў ім костку.

Пасля краху дыктатуры ў 1974 годзе прыхільнікі манархіі сфармавалі партыю «Народны манархісцкі рух» (PPM), якая спачатку карысталася падтрымкай выбаршчыкаў. PPM нават удзельнічаў у другім кааліцыйным кабінеце новай рэспублікі. Але на наступных выбарах электарат манархістаў пачаў галасаваць за правы цэнтр. Апошні раз дэпутат ад PPM быў абраны ў парламент дзесяцігоддзе таму. Шэсць гадоў таму апошні прадстаўнік палітычнага сямейства манархістаў быў заўважаны ў адным з гарадскіх муніцыпалітэтаў.

У такой сітуацыі манархісты вырашылі змяніць мадэль руху і зрабілі стаўку на грамадскую дзейнасць. Так узнікла «Раялісцкая асацыяцыя», галоўная мэта якой — папулярызацыя манархісцкай дактрыны. Самі манархісты дастаткова пазітыўна ацэньваюць вынікі сваёй дзейнасці.

Аднак цяпер прыходзіцца думаць пра больш глабальныя рэчы. Партугалія, як і сто гадоў таму, — нацыя-банкрут, і зноў у



Герцаг Браганса Дуартэ Піу з жонкай Ізабэль

масах назіраецца вялікі недавер да рэспубліканскіх установаў і карумпаваных палітыкаў. Паводле апошніх сацыялагічных апытанняў, ідэя манархіі падабаецца прыкладна кожнаму трэцяму партугальцу. Не так даўно група манархістаў-інтэлектуалаў апублікавала свайго кшталту зварот да суайчыннікаў з заклікам адмовіцца ад рэспубліканскага ладу. На іх думку, аднаўленае партугальскае каралеўства зробіцца перадумовай выхаду краіны з крызісу.

Праўда, пакуль канструктыўная праграма манархістаў гучыць вельмі абстрактна. Аўтары маніфесту пішуць: «Мы павінны запатрабаваць сапраўдную дэмакратыю, падмурак якой — баланс паміж правамі і абавязкамі для ўсіх грамадзян. І манархія, дзякуючы якой у нас будзе гістарычны каралеўскі інстытут, дазволіць глядзець на Партугалію комплексна. Манархія аб'ядное нас, партугальцаў, вакол агульнай мэты: павагі да нашай Радзімы. Гэта перадумова для дабрабыту кожнага з нас. Гэта прывядзе да адказнасці палітыкаў і ўраду! Гэта будзе праўдзівая сістэма правасуддзя, што цалкам незалежная ад партыйных разборак. Барацьба з карупцыяй пры любой манархіі — прыярытэт, таму гэта сапраўдная дзяржава дэмакратычнага права!»

Але ў манархістаў ёсць значна больш важная праблема. Галоўны прэтэндэнт на трон, здаецца, займаць яго не жадае. Дуартэ Піу — 24-ты герцаг з роду Браганса (каралеўская дынастыя ў Партугаліі) прызнаецца большасцю галоўным нашчадкам трону. Ён нарадзіўся 15 мая 1945 года на тэрыторыі пасольства Партугаліі ў Берне (Швейцарыя). Ідэя нараджаць у пасольстве не была забабонам бацькоў Дуартэ. Каралём Партугаліі, адпаведна старадаўняму закону, можа быць толькі прадстаўнік, які нарадзіўся на партугальскай зямлі, а тэрыторыя пасольства фармальна лічыцца партугальскай. Хросным бацькам немаўляці быў, дарэчы, рымскі папа Пій XII.

У 1950-я гады сямейству Браганса было дазволена вярнуцца ў Партугалію. Там Дуартэ Піу атрымаў вайсковую адукацыю, пасля праходзіў ваенную службу пілотам у Анголе. У 1995 годзе Дуартэ Піу ажаніўся і цяпер мае траіх дзяцей.

Нашчадак трону далёкі ад ідэі зрабіцца каралём. Напрыклад, калі ён быў у Анголе, якую заваявалі яго славутыя продкі, Дуартэ дапамагаў тубыльцам зладзіць выбары ў першы ангольскі парламент.

У 1975 годзе ён арганізаваў кампанію за прызнанне незалежнасці іншай партугальскай калоніі — Усходні Тымор. Калі ў 1997 годзе гэтая краіна канчаткова стала незалежнай (пасля сыходу партугальцаў край захапілі войскі Інданезіі), кіраўніцтва краіны дало арыстакрату пашпарт Усходняга Тымора за яго заслугі ў справе дэкаланізацыі.

Дуартэ таксама ніколі не падтрымліваў манархісцкі палітычны рух, хаця самі манархісты нават прасілі ў парламенце ад ураду афіцыйна замацаваць за ім тытул нашчадка партугальскай кароны. Усе свае палітычныя амбіцыі дафін кампенсуе актыўнай грамадскай дзейнасцю. Ён узначальвае адзін з культурных фондаў і працуе ў апараце Садружнасці партугаламоўных краін (CPLP) — міжнароднай арганізацыі, што створаная 17 ліпеня 1996 года і аб'ядніала краіны, у якіх партугальская мова з'яўляецца афіцыйнай.

Нядаўна «El País» апублікавала вялікі рэпартаж з яго рэзідэнцыі, дзе ў тым ліку запытала герцага наконт перспектываў рэстаўрацыі. Герой рэпартажу дыпламатычна адказаў, што галоўнае для яго і яго 16-гадовага сына, які цікавіцца біялогіяй, — не захапляцца абстракцыямі, а разумець адказнасць за сям'ю, якая амаль 500 гадоў была на троне.

Праўда, Дуартэ Піу не з'яўляецца прамым нашчадкам апошняга караля Партугаліі Мануэла II, які ў 1932 годзе памёр у выгнанні, не пакінуўшы дзяцей, братоў і сясцёр. Дуартэ Піу належыць да лініі роду былых бразільскіх імператараў, якія таксама былі з дому Браганса. І пытанне ў тым, што адзін з продкаў Дуартэ Піу афіцыйна пакляўся, што яго нашчадкі не будуць займаць партугальскі трон. Аднак пра тую клятву забылі, калі памёр Мануэл II. Існуюць таксама іншыя галіны дому Браганса, бліжэйшыя да галоўнай галіны, але па жаночай лініі, што тым не менш не выключае іх правоў на карону.

У сакавіку 2008 года на сайце Mona'rquicos.com з'явіўся фатаздымак, на якім разам выяўленыя абодва асноўныя канкурэнты Дуартэ Піу ў барацьбе за партугальскую карону. Меркавалася, што паміж імі існуе хаўрус супраць Дуартэ Піу, але далейшых пацверджанняў наконт гэтай кааліцыі не паступіла.

КАНФЛІКТ

# НАВОШТА ФРАНЦЫІ МАЛІ?

Алег НОВІКАЎ

**У той час як французскія вайскоўцы змагаюцца ў Малі з ісламістамі, у тыле назіраецца поўны хаос. Французскі палітыкум і грамадства не маюць кансэнсуса ў пытанні — ці трэба было Францыі дасылаць войскі ў Афрыку?**



Рашэнне Франсуа Аланда адправіць 11 студзеня экспедыцыйны корпус на дапамогу прэзідэнту Малі, які быў напужаны вайсковымі поспехамі ісламістаў, было нечаканым для усіх. Аланд нават не параіўся з урадам і парламентам. Елісейскі палац вырашыў абмежавацца шэрагам аргументаў «Атака групы тэрарыстаў, якія захапілі частку краіны, спраавала дэстабілізацыю дзяржавы Малі і падарвала яе суверэнітэт, а таксама дзейнасць яе законаў на тэрыторыі памерам у 2500 квадратных кіламетраў. Стабільнасць рэгіёну пад пагрозай, што пагражае таксама Францыі і Еўропе. Францыя павінна дзейнічаць, каб мабілізаваць міжнародную супольнасць і мы верым, што нашая ініцыятыва будзе мець пазітыўныя вынікі», — піша сайт французскіх сацыялістаў.

Довады добрыя, аднак... Хаця кепскія навіны з Малі прыходзілі даўно, тэма сітуацыі ў гэтай краіне не была ў палітычнай павестцы дня. Інакш бы цяперашнія ацэнкі інтэрвенцыі ў Малі ад розных партый былі больш кансалідаваныя. Пакуль што ніводная з галоўных партый не мае канчатковай пазіцыі па гэтым пытанні. Таму дастаткова папулярная думка пра тое, што сапраўдныя прычыны аперацыі звязаныя з унутранай палітыкай. Французскае грамадства хутка палярызуецца і, адпаведна, усё большай папулярнасцю карыстаецца апазіцыя. У гэтых умовах «цэнтрысцкі» ўрад сацыялістаў паспрабаваў «перафарбавацца» — пазбавіцца ад іміджу «мяккіх і нерашучых».

Але вызначацца ў пытанні Малі неяк трэба. Найбольш цяжкая задача стаіць перад правай апазіцыяй. З аднаго боку, яе лідары традыцыйна абараняюць ідэю пратэктарату над былымі французскімі калоніямі. З іншага, блакавацца з сацыялістамі няма вялікага жадання. Як вырашыць гэтую дылему правыя, відавочна, не ведаюць.

Так, унутры Саюзу за народны рух (UMP) узнікла група, што праводзіць паралель паміж Малі 2013-га і Іракам 2003-га (10 гадоў таму Жак Шырак рашуча адмовіўся ад прапановы Бушамалодшага пасылаць французаў у Багдад). Найбольш яскравы праваднік гэтай лініі Дамінік дэ Вільпэн, прэм'ер-міністр Французскай рэспублікі ў 2005–2007 гадах. Ён апублікаваў у «Journal du dimanche» артыкул пад красамоўнай назвай: «Не, вайна — гэта не Францыя».

На ягоную думку ў Малі няма ніякіх прыкметаў нацыянальнага адзінства і французскаму дэсанту, па сутнасці, няма на каго абапірацца. «Мы усляпую будзем ваяваць, не маючы нават канкрэтнай вайсковай мэты…Прыпыніць наступ ісламістаў на поўдзень, заваяваць поўнач краіны і знішчыць базы Аль-Каіды ў Магрыбе — гэта тры розныя задачы, для выканання якіх патрэбныя мінімум тры вайны», — адзначае Дамінік дэ Вільпэн. Яго таксама турбуе адсутнасць рэгіянальнай салідарнасці: дасюль не выказаўся па праблеме Афрыканскі саюз і рэгіянальная арганізацыя краін заходняй Афрыкі.

Ален Жупэ, які ў часы Сарказі адказваў за МЗС, лічыць аперацыю ў Малі надзвычайна рызыкоўнай, асабліва што тычыцца правядзення наземных аперацый. «Я баюся, што мы патрапім у спіраль, над якой не маем кантролю. Трэба ясна зразумець мэты і задачы французскай інтэрвенцыі», — кажа ён.

А вось былы міністр абароны Жэрар Ланге, які праславіўся сваімі скандальнымі заявамі наконт таго, што французскі каланіялізм меў пазітыўны баланс для тубыльцаў, ахвотна раіць Мінабароны як дзейнічаць у цяперашняй сітуацыі, што і як бамбіць і г.д.

На жаль, сваю пазіцыю дасюль не выказаў Нікаля Сарказі, які паводле апытанняў лічыцца галоўнай альтэрнатывай Франсуа Аланду. Нікаля маўчыць, аднак магчыма ягоную думку часткова перадае адзін з журналістаў, якога лічаць галоўным спіч-райтарам былога прэзідэнта. Ён кажа: «Калі Францыя знаходзіцца ў стане вайны (гутарка пра вайну, а не пра паліцэйскую аперацыю), мы павінны быць разам з нашымі салдатамі, якія рызыкуюць сваім жыццём».

Хітрую пазіцыю заняў Нацыянальны фронт Марын Ле Пэн, які прапануе Аланду быць паслядоўным і «ганяць» ісламістаў не толькі ў Малі, аднак і ў Францыі. На думку ультраправых гэта патрабуе скарачэння іміграцыі з ісламскіх краін. Франтавікі таксама звяртаюць увагу на тое, што ў апошнім сацыялістычным бюджэце выдаткі на абарону скарочаныя і прапануюць іх павялічыць, каб Францыю баяліся хаця б у яе былых калоніях.

Французы цэнтрысцкіх поглядаў, здаецца, таксама прытрымліваюцца пацыфісцкіх поглядаў. Былы ліберальны прэзідэнт Францыі Валеры Жыскар д'Эстэн выступіў супраць інтэрвенцыі, назваўшы яе акцыяй «неакаланіяльнага тыпу». «Я не разумею як неакаланіяльны вірус змог падпарадкаваць сабе ўсе розумы. Аднадушнасць ваякаў, відавочная паспешнасць, паўтор аргументаў з часоў «вайны супраць тэрарызму» мяне турбуюць», — кажа былы прэзідэнт. На ягоную думку, ахвярамі аперацыі стануць мірныя туарэгі, якія не маюць дачынення да ісламістаў, што ў сваю чаргу можа стварыць ў Малі сапраўдны фронт. Варта адзначыць, што Валеры Жыскар д'Эстэн у бытнасць прэзідэнтам быў з візітам у Тымбукту — горадзе, што сёння знаходзіцца ў франтавой зоне. Дарэчы, у той час палітыка Францыі ў рэгіёне была вельмі рашучай.

Самыя незвычайныя наступствы мела інтэрвенцыя для Зялёных, якія ўваходзяць у склад сацыялістычнага кабінета. Наэль Мам'ер, зялёны дэпутат, запатрабаваў не толькі вывесці войскі з Малі, а ўвогуле канцэптуальна перагледзець французскую афрыканскую палітыку. Эколаг мяркуе: «Урады і прэзідэнты як правых, так і левых партый рабілі толькі тое, што дапамагалі дыктатарам і карупцыянерам. І цяпер пасылкай нашых салдат мы проста плацім па рахунках за тую палітыку».

Такія выказванні Наэля падаліся незразумелымі шмат каму з зялёных. Адзін з іх так адказаў Мам'еру: «Пазіцыя зялёных вельмі ясная: мы падтрымліваем інтэрвенцыю». Па ягоных словах, у адваротным выпадку зялёныя мусяць пакінуць урад сацыялістаў, аднак паколькі яны ў складзе ураду, «дык маюць дзейнічаць як урадавая партыя». Яшчэ далей пайшоў Даніэль Кон-Бендыт, зялёны еўрапарламентарый. Пасля таго як на пасяджэнні Еўрапарламента падтрымалі акцыю французаў, ён патрабаваў ад краін ЕС канкрэтнай вайсковай падтрымкі французскага корпуса ў Малі.

Засталіся камуністы. Як не парадаксальна Фронт левых крытыкуе Аланда дастаткова мякка. Жан-Люк Меленшон лічыць, што мэты вайсковай аперацыі на поўначы Малі спрэчныя і патрабуюць парламенцкіх дэбатаў, і ўвогуле «трэба асудзіць практыку прыняцця падобных рашэнняў без кансультацый з урадам і парламентам».

А вось левая прэса вінаваціць Аланда ў намеры адрадзіць французскі імперыялізм. Увогуле, на думку аднаго з публіцыстаў, ісламісты ніякія не ісламісты, а байцы нацыянальна-вызвольнага руху туарэгаў або простыя людзі, якім патрэбны грамадскі парадак, што ўрад нязДольны забяспечыць.

Такім чынам, аперацыя ў Малі пакуль не мае шырокай падтрымкі ў Францыі і любы буйны правал можа дорага каштаваць адміністрацыі Франсуа Аланда.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МАРЭК ПАЗНАНЬСКІ



Дэпутат польскага Сойму ад партыі «Рух Палікота» выступіў з незвычайнай ініцыятывай — прапанаваў польскаму ураду запатрабаваць ад Швецыі кампенсацыі наступстваў «Патопу». «Шведскі патоп» (таксама Крывавы патоп) — інтэрвенцыя шведскага войска ў Польшчу ў XVII стагоддзі. У выніку, як лічаць гісторыкі, Польшча панесла страты, якія можна параўнаць з наступствамі Другой сусветнай вайны. Сваю пазіцыю Пазнаньскі, дарэчы, па прафесіі археолаг, аргументаваў так: «Шведы — гэта злодзеі, якія не гатовыя прызнаць сваю віну». Аўтар ідэі таксама лічыць, што шведскія жаўнеры прыхапілі з сабой ў Скандынавію шмат культурных рэліквій, якія патрэбна знайсці і вярнуць на радзіму. Уся гэтая камічная прапанова на самой справе сведчыць пра суперэчлівы характар «Руху Палікота», які год таму прайшоў у парламент. Хаця сам рух эксплуатуе левыя лозунгі, рыторыка Пазнаньскага безумоўна правая і нацыяналістычная. Цікава, што некаторыя палікотаўцы выступілі з заклікам не сварыцца са шведамі, а лепш падумаць як імпартаваць ў Польшчу іх сацыял-дэмакратычную мадэль. Між тым сам Марэк Пазнаньскі настроены вельмі рашуча і збіраецца прыцягнуць Стакгольм да адказнасці праз еўрапейскія судовыя інстытуты.

### ДАЛАЙ ЛАМА



Змена кіраўніцтва ў Кампартыі Кітая, што адбылася ў лістападзе, выклікала плёткі па тое, што Далай Лама, духоўны лідар і палітычны правадыр тыбецкага нацыянальна-вызвольнага руху, можа вярнуцца на радзіму. Пра пацяпленне адносінаў сведчыць нядаўняе вызваленне з кітайскіх турмаў групы тыбецкіх нацыяналістаў і аднаўленне наўпроставых кантактаў паміж тыбецкай эміграцыяй і Пекінам. Прадстаўнік Далай Ламы двойчы наведаў КНР за апошні час. Пакуль цяжка сказаць якімі могуць быць вынікі гэтага дыялогу. А вось прычыны таго, чаму Пекін пайшоў на перамовы, відавочныя. На думку аналітыкаў, кітайскім уладам трэба прымусіць працаваць турыстычны сектар у Тыбеце. Пасля таго як у Тыбеце некалькі гадоў таму пачаліся палітычныя хваляванні ўлады абмежавалі допуск турыстаў, што негатыўна паўплывала на эканамічны стан краю (дарэчы, Тыбет самы бедны з кітайскіх рэгіёнаў). Аўтарытэт Далай Ламы мог бы нармалізаваць абстаноўку і надаць імпульс развіццю турыстычнай інфраструктуры. Тым больш сам ён як перакананы будыст выступае супраць актаў гвалту. Між тым, сярод тыбецкіх нацыяналістаў з'явіліся чуткі, што Далай Лама можа прадаць справу барацьбы за незалежнасць. Быццам духоўны лідар, які нарадзіўся ў 1935 годзе, марыць памерці на радзіме і гатовы за гэта на любыя саступкі. Так ці інакш цяпер бакі размаўляюць пра магчымы візіт Далай Ламы ў адзін з будыскіх манастыроў Кітая, што само сабою можна лічыць прарывам.

### ЯЎГЕН ГЕЛЕР



Дэпутат Вярхоўнай рады Украіны ад Партыі рэгіёнаў, які яшчэ ўчора быў мала вядомы публіцы, сёння — зорка прэсы. Прарвацца на першыя старонкі газет яму дапамог унітаз. Журналісты дакапаліся да схемаў рамонтных прац ў кабінеце рэгіянала ў будынку парламента. Аказалася, што сэнс рэканструкцыі быў у тым, каб паставіць у кабінеце дэпутата кабінку туалета з унітазам. Напэўна Гелеру сорамна хадзіць у агульны клазет, які знаходзіцца на калідоры Вярхоўнай рады (будынак узведзены пасля вайны і таму асабліва вялікага камфорту там няма). На першы погляд, справа асабістая, тым больш, што Гелер і яшчэ 8 дэпутатаў якія пачалі падобны рамонт, заявілі, што фінансуюць яго са сваёй кішэні. І вось тут пачаўся скандал. Як высвятлілася, спецыяльны закон Украіны дазваляе правядзенне рамонтаў унутры адміністрацыйных будынкаў выключна за бюджэтныя сродкі. Такім чынам атрымліваецца, што ўнітаз Гелеру аплаціў падаткаплацельшчык. Па-другое, намер Гелера ўстанавіць ў дзяржаўным памяшканні ўнітаз за свой рахунак фактычна можна лічыць спробай даць хабар, паколькі прыватнае фінансаванне дзяржаўных устаноў забаронена. Цяпер усе гадаюць, чым скончыцца ўнітазны скандал. Юрысты кажуць, што калі трымацца літары закону, Гелер мае звярнуцца ў Канстытуцыйны суд, каб той даў яму права мець асабісты ўнітаз у парламенце.

ЦІКАВА

# ДРУГІ ФРОНТ АДЧЫНІЛІ ТУВІНЦЫ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Здаецца, што гісторыя Другой сусветнай вайны вывучаная дасканала. Аднак да сённяшняга дня застаюцца тэмы, якім даследчыкі прысвяцілі недастаткова ўвагі. Адной з такіх з'яўляецца ўдзел Тувінскай Народнай Рэспублікі (ТНР) у Другой сусветнай вайне. Менавіта гэтая дзяржава першай падтрымала СССР у вайне з нацысцкай Германіяй.**



Кызыл. Май 1945



Тувінскія салдаты. Чэрвень 1941

## Паміж Кітаем і Расіяй

Да моманту пачатку ў Кітаі Сінхайскай рэвалюцыі ў 1912 годзе тэрыторыя Тувы знаходзілася пад уладай кітайскай дынастыі Цын і мела назву «Тану-Уранхай». Калі пачаліся рэвалюцыйныя выступы, кіраўнікі тувінскіх тэрыторый звярнуліся да паўночнага суседа — Расіі — з просьбай узяць гэтыя землі пад сваю апеку. У красавіку 1914 года Мікалай ІІ прыняў рашэнне аб устанаўленні расійскага пратэктарату над тувінскімі тэрыторыямі. Край быў уключаны ў склад Енісейскай губерні. Зрэшты, ужо вясной 1917 года ў Туве пачалося актыўнае стварэнне Саветаў. Справа ў тым, што на тэрыторыі Тувы пражывала пэўная колькасць рускіх сялян і рабочых, якія сталі своеасаблівымі «рэтранслятарамі» ідэй марксізму на тэрыторыі Уранхайскага краю.

У ліпені 1918 года Тува была акупавана войскамі Калчака. Праўда, праз год бальшавікі выбілі белых з Уранхайскага краю, а ў 1921 годзе была абвешчана незалежная Народная рэспубліка Тану-Тува, якая з 1926 года пачала называцца Тувінскай Народнай Рэспублікай.

## Незалежнасць пад «савецкім крылом»

У жніўні 1921 года быў праведзены Усетувінскі ўстаноўчы хурал, у працы якога прымалі ўдзел і прадстаўнікі Савецкай Расіі. На сходзе была прынята дэкларацыя аб стварэнні незалежнай тувінскай дзяржавы. Дзіўная справа — бальшавікі паўсюдна душаць любыя нацыянальныя праявы, а тут такая павага да незалежнасці былой рускай правінцыі.

У 1923 годзе адбываецца і зусім цікавая падзея: тэрыторыю ТНР пакідаюць часткі Чырвонай Арміі. Сталіцай рэспублікі быў абвешчаны горад Кызыл. У хуткім часе былі заключаны дагаворы з СССР і Мангольскай Народнай Рэспублікай аб прызнанні незалежнасці ТНР. У 1925 годзе быў падпісаны савецка-тувінскі дагавор аб узаемадапамозе, у адпаведнасці з якім на вучобу ў СССР паехалі і маладыя тувінскія «камсамольцы». У будучыні яны адыграюць сваю ролю ў саветызацыі ТНР.

Першым кіраўніком рэспублікі стаў Буян-Бадыргы. Пад яго кіраўніцтвам была распрацаваная і прынятая канстытуцыя краіны. Зрэшты, у 1929 годзе гэты чалавек быў арыштаваны і праз 3 гады па надуманым абвінавачванні ў шпіянажы на карысць Японіі пакараны. У 1930-м уладу захапілі сталіністы, што атрымалі адукацыю ў СССР. Тут жа пачаліся ганенні на будызм і шаманізм. У 1930-х гадах пад рэпрэсіі падпалі каля 2 тысяч грамадзян ТНР.

Новым лідарам рэспублікі стаў выпускнік маскоўскага Камуністычнага ўніверсітэта працоўных Усходу Салчак Току. На працягу ўсяго перыяду незалежнасці ТНР Савецкі Саюз пільна сачыў за працэсамі, якія адбываліся ў бурлівым рэгіёне. Першапачаткова моцны фактар кітайскага ўплыву ў пачатку 1930-х гадоў саступіў месца японскаму. «Імперыя ўзыходнага сонца» не хавала сваіх амбіцый у рэгіёне і ўсё бліжэй падбіралася да савецкіх межаў.

У 1938 годзе тувінскія добраахвотніцкія часткі ўдзельнічалі ў адбіцці японскай агрэсіі ля возера Хасан, а праз год біліся з самураямі на Халхін-Голе. У лютым 1940 года кіраўніцтва ТНР прыняло рашэнне аб стварэнні Міністэрства вайсковых спраў, якому было загадана пачаць пераўзбраенне і пераасначэнне арміі. Зразумела, што ўсе гэтыя задачы вырашаліся за кошт паставак савецкага ўзбраення і тэхнікі.

## Другі фронт ад Тувы

22 чэрвеня 1941 года, даведаўшыся пра напад Германіі на Савецкі Саюз, ТНР абвясціла вайну Трэцяму Рэйху і яго еўрапейскім саюзнікам. Адбываецца гэта ў сітуацыі, калі азіяцкі саюзнік Гітлера — Японія, па сутнасці, знаходзіцца ля тувінскіх межаў. Цікавым фактам з'яўляецца тое, што кіраўніцтва ТНР сваёй заявай аб падтрымцы СССР у вайне з нацысцкай Германіяй апярэдзіла Вялікабрытанію. Справа ў тым, што зварот прэм'ер-міністра Злучанага Каралеўства Уінстана Чэрчыля, адрасаваны савецкаму народу, быў перададзены ВВС у 23 гадзіны па маскоўскім часе, а тувінцы прынялі дэкларацыю 11 гадзінамі раней.

У сваім звароце брытанскі прэм'ер у прыватнасці сказаў: «Небяспека, якая пагражае Расіі, — гэта небяспека пагражае нам і Злучаным Штатам, справа кожнага рускага, які змагаецца за свой ачаг і дом — гэта справа вольных людзей і свабодных народаў ва ўсіх кутках зямнога шара. Засвоім жа ўрокі і будзем змагацца разам, колькі хопіць сіл і жыцця». У сваю чаргу, дэлегаты Х Вялікага Хуралу ТНР заявілі: «Тувінскі народ гатовы не шкадуючы жыцця, усімі сіламі і сродкамі ўдзельнічаць у барацьбе Савецкага Саюза супраць фашысцкага агрэсара да канчатковай перамогі над ім».


Салчак Тока

На наступны дзень урад ТНР прапанаваў Маскве адмабілізаваць часткі тувінскага войска і накіраваць іх на фронт, але Масква вырашыла пачакаць з гэтым. Тады было прынята рашэнне аб перадачы СССР усяго залатога запасу ТНР на суму ў 35 мільёнаў рублёў. У сваю чаргу, узброеныя сілы ТНР былі пераведзены на ваеннае становішча. 8 жніўня 1941 года Сталін павіншаваў кіраўніцтва ТНР з 20-годдзем рэспублікі і падзякаваў за гатоўнасць дапамагчы ў вайне з Германіяй.

За перыяд з 1941 па 1944 гады СССР атрымаў ад ТНР 50 000 баявых коней, на грошы, сабраныя жыхарамі рэспублікі, былі створаныя дзве танкавыя брыгады. У сакавіку 1943-га на падмаскоўным аэрадроме «Чкалаўскі» дэлегацыя ТНР перадала ў распараджэнне 133-га знішчальнага авіяпалка Чырвонай Арміі 10 знішчальнікаў Як–7Б, пабудаваных на рэспубліканскія сродкі. Вясной 1944 года Тува падарыла толькі што вызваленай Украіне 27 500 кароў. Усяго за час Вялікай Айчыннай вайны ТНР паставіла ў СССР звыш 700 тысяч галоў жывёлы. У траўні 1943 года ўсё ж было прынята рашэнне аб адпраўцы тувінскіх добраахвотнікаў на савецка-германскі фронт. 200 грамадзян ТНР пасля нядоўгага навучання былі залічаныя ў 25-ы асобны танкавы полк 52-й арміі 2-га Украінскага фронту. Тувінскія танкісты ваявалі ва Украіне, Малдове, Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі. У верасні 1943 года другую групу добраахвотнікаў залічылі ў склад 8-й кавалерыйскай дывізіі. Ім давялося ўдзельнічаць у баявых дзеяннях на захадзе Украіны.

Напрыклад, 31 студзеня 1944 года пад вёскай Дуражно на Валыні (Заходняя Украіна) тувінскія кавалерысты на нізкарослых, калматых, але надзвычай хуткіх конях, з шаблямі ўступілі ў бой з перадавымі нямецкімі часткамі. Выжыўшы пасля таго бою афіцэр вермахта Г. Рэмке падчас допыту распавядаў, што «гэтая атака была жахлівай і надзвычай дэмаралізоўна паўплывала на салдат вермахта». «На нас скакала процьма варвараў, ад якіх не было збаўлення», — распавядаў палонны. Справа ў тым, што тувінцы, прыхільныя ўласным паданням аб правілах вядзення вайны, прынцыпова не бралі ворага ў палон.

1 лютага 1944 года тувінскія кавалерысты прарваліся да горада Роўна. Развіваючы наступ, эскадрон на чале з капітанам Кечылаолам выйшаў да чыгуначнага вакзала і атакаваў варожы гарнізон. Дачакаўшыся падыходу асноўных сіл, тувінцы ўварваліся ў горад. За тую бітву 17 грамадзян ТНР былі ўзнагароджаныя ордэнамі Славы. Варта адзначыць, што тувінцы прынялі ўдзел у вызваленні 80 заходнеўкраінскіх населеных пунктаў.

Усяго за гады вайны ў Чырвонай Арміі служыла 8 тысяч грамадзян ТНР, з якіх у жывых засталося каля 300 чалавек. Вялікая колькасць тувінскіх салдат была ўзнагароджаная рознымі савецкімі ордэнамі і медалямі. Ёсць і героі Савецкага Саюза. Напрыклад, танкіст Хомушку Чургуй-аол, які ваяваў у 25-м танкавым палку.

## Канец незалежнасці

17 жніўня 1944 года VII сесія Малога Хуралу прыняла дэкларацыю аб уваходжанні ТНР у склад Савецкага Саюза на правах аўтаномнай вобласці. «Хадайніцтва» было задаволенае рашэннем Вярхоўнага Савета СССР у кастрычніку 1944-га. Неўзабаве Тува стала часткай РСФСР.

Салчак Току (той самы выпускнік маскоўскага вну — аўт.) стаўся першым сакратаром тувінскага абкама ВКП(б). Дарэчы, гэты чалавек прабыў на сваёй пасадзе да самай смерці ў 1973 годзе. Сакрэт яго палітычнага даўгалецця просты. Нават пасля смерці «правадыра народаў» Масква не жадала прыбіраць ідэйнага «сталініста», пабаяўшыся таго, што на змену дыктатару прыйдзе «ліберал», пры якім тувінцы зноў могуць успомніць пра «незалежнасць».

Спыніла сваё існаванне і тувінская армія. Нацыянальныя часткі ТНР, па ўзору прыбалтыйскіх дзяржаваў, былі пераўтвораныя ў 7-ы Асобны кавалерыйскі полк Чырванасцяжнай Сібірскай ваеннай акругі. У сваю чаргу Тувінскае міністэрства ваенных спраў ператварылася ў Абласны ваенны камісарыят.

З кастрычніка 1961 і па 1991 гады Тува была аўтаномнай вобласцю ў складзе РСФСР, а пасля развалу СССР стала суб'ектам Расійскай Федэрацыі.

* * *

На думку шматлікіх сучасных гісторыкаў, пастаўкі з Манголіі і Тувы для СССР у гады вайны па аб'ёме былі ўсяго на трацілу меншыя, чым агульны аб'ём саюзніцкіх паставак з ЗША, Канады, Вялікабрытаніі, Аўстраліі і іншых краін. У 2010 годзе ў сталіцы некалі незалежнай Тувінскай Народнай Рэспублікі Кызыле быў адкрыты мемарыяльны комплекс у гонар салдат і афіцэраў тувінскага войска, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. Так Расія ўшанавала памяць тых, хто стаў яе першым саюзнікам у Вялікай Айчыннай вайне.

УСПАМІНЫ

# СВАЁЮ ПУЦЯВІНАЙ

Арсень ЛІС

**Вяртаючыся памяццю ў маладосць, бачу пачатак самастойнай жыццёвай дарогі даволі памысным. Да часу заканчэння ўніверсітэта развітаўся з юначай марай, падказанай класікам, героем аповесці «У палескай глушы» Лабановічам — панастаўнічаць дзе-небудзь у беларускай глыбінцы. Гады навучання ў БДУ толькі прыадкрылі заслону над зманліва неабсяжным светам духоўнасці чалавецтва, яго культуры.**



Арсень Ліс. 1960–я гады

Пачуваўся душэўна ўтульна ў цішыні ўніверсітэцкага навуковага кабінета беларускай мовы, пры сціпланым перагортванні кніжных старонак у бібліятэках горада, улучна з цяперашняй нацыянальнай, якая тады была ў цэнтры, а не наводшыбе, як сёння.

Усцешна ўзрушвалі канцэрты-лекцыі ў філармоніі, калі ўведанае з вуснаў музыказнаўца пра жыццё і творы кампазітара раскрываў, даносіў аркестр. Асабліва калі ім дырыжыраваў Дубровскі. Будзілі штосьці глыбей схаванае, роднае канцэрты акадэмічнай капэлы незабыўнага Рыгора Раманавіча Шырмы.

Аднойчы, якраз у час канцэрта, на хвалі духоўнага ўзвышэння раптам востра адчуў нашу беларускую абдзеленасць гістарычным лёсам. Выбрынула думка-ідэя «Песня прасілася ў свет» — слова пра апантанага фалькларыста-этнамузыколага Антона Грыневіча, расстралянага ў Салаўках, ахвярнага рупліўца з яго непатольнай марай пра беларускіх чайкоўскіх, шапэнаў, грыгаў.

Да слова сказаць, тады яшчэ не ўсведамляў, што менавіта багаццем, ведамі сусветнай культуры, літаратуры былі захінёны ад усеўладнай казёншчыны ў жыцці, якую адчуў рана і балюча востра. Ведаў, што па-за Мінскам усё гэта багацце духу будзе маладасяжнае, і пакідаць сталіцу не дужа хацелася. Думаў, каб павучыцца далей, і такая магчымасць надарылася.

Пакуль я самаўладкоўваўся на працу, мне на хатні адрас, да бацькоў у вёску, прыйшло кароткае паведамленне. Падпісана яно было выкладчыцай беларускай літаратуры на філалагічным факультэце В.В. Казловай. Прадпісвалася неадкладна з'явіцца ва ўніверсітэт.

Калі прыехаў, Вольга Васілеўна сказала, што ў Акадэміі навук аб'яўлены прыём у аспірантуру, у тым ліку па спецыяльнасці «фалькларыстыка», і кафедра літаратуры рэкамендуе мяне. Я выказаў згоду ды ўдзячнасць, а яна неяк усцешна весела дадала, маўляў, яшчэ аднаго падуладкавалі. Адразу не паспеў і задумацца, чаму менавіта на мяне выпаў выбар. Пазней падумалася, можа таму, што ў навуковым семінары выкладчыцы прачытаў-засвядчыўся двума рэфератамі, — адным, прысвечаным пейзажу ў лірыцы Якуба Коласа, другім, дзе намагаўся асэнсаваць грамадзянскія матывы ў паэзіі Максіма Багдановіча. Гэта, мабыць, запомнілася маёй нечаканай апякунцы. Зрэшты, відаць, у той сітуацыі з аб'яўленай аспірантурай нешта заважыў мой дыплом «Народная песня ў творчасці Янкі Купалы». Праўда, пісаў яго пад кіраўніцтвам Івана Якаўлевіча Навуменкі...

Не сказаць, каб я быў захоплены фальклорам, звязваў з ім надзею на навуковую будучыню. Кароткі курс гэтага прадмета, прачытаны нам на філфаку адзіным знаным на 50-я гады беларускім фалькларыстам-этнографам Міхалам Грынблатам, прызнацца, мяне неяк не зачапіў. Праўда, няўзнак западалі ў душу матчыны песні. Пры нейкай лягчэйшай рабоце, пакалыхваючыся ў такт песні, яна часам ціха напявала сабе:

Ці свет, ці світае, ці на зоры займае...

Задумлівую:

«О, баравая зязюля, чаму ў бары не кукуеш,

Чаму ў бары не кукуеш, чаго ў наш сад прылятаеш?».

Або зажураную, восеньскую:

«Чаго, лосю, чаго сівенькі,
Так к сялу прылягаеш?
Ці ты, лосю, ці ты, сівенькі,
Блізкую зіму чуеш?.. »

У студэнцкія гады я запісаў ад маці з капу народных і літаратурнага паходжання беларускіх песняў, і той песеннай вязанкай можа нешта наканоўвалася пры смутным выбары жыццёвага занятку, будучыні.

Але тое было развагі, разважанні. А тым часам трэба было, не марудзячы, што называецца, сабрацца з духам ды здаць уступныя экзамены, да якіх заставалася нядоўга. Са сваімі ведамі па замежнай нямецкай мове я меў засцярогу што да поспеху. Але пашанцавала. Тэкст для перакладу, нешта з гэдээраўскай белетрыстыкі, адолеў я не да канца ды і перакладзенае выглядала каструбавата. На маё шчасце, у прыёмнай камісіі быў акадэмік Перцаў, германіст, даследчык сярэднявечнай Нямеччыны. Паважны Стары, нічога не сказаўшы, з-пад акуляраў паўглядаўся ў маладзёна, пацікавіўся, чым збіраюся заняцца ў аспірантуры, і нечакана запытаўся: «Вы чыталі Генрыха Гейнэ? Можа і ў арыгінале?» Так здаралася ў маім маладым жыцці, што пэўным цягам часу я захапляўся больш адным нейкім творцам, паэтам, празаікам, кампазітарам, потым, далей — нейкім іншым. На першым курсе — Тарасам Шаўчэнкам, Шандарам Пецёфі, на другім — Аляксандрам Блокам, на трэцім-чацвёртым — Рамэнам Раланам і Іванам Буніным. А на пятым — Генрыхам Гейнэ. Любіў яго «Германія — зімовая казка» за непрыняцце, дасціпнае высмейванне ўсяго фальшывага ў чалавеку і грамадстве. Пра палітыкаў, што «паціху цягнуць (смакуюць) віно, прапаведуючы ваду публічна». «Салаўі, я чую стукат вашых капытоў», — казаў паэт пра дэмагогаў ад практычнай палітыкі. Тое імпанавала юнаму студыёзусу.

Акадэмік-экзаменатар раптам стаў чытаць на памяць Гейнэ ў арыгінале. Я ж, беручы ладны том выбранага паэта ў рукі амаль што дзень перад тым, як легчы спаць, адразу здагадваўся, які гучаў верш, бо няблага ведаў тое ў рускім перакладзе і пераказваў нібы перакладаў пачутае.

Апошнім неардынарны экзаменатар кінуў мне па-нямецку ўлюбёны афарызм Фрыдрыха Энгельса: «Тэорыя, мой дружа, — шэрая. Вечна зелена дрэва жыцця».

Без помачы Гейнэ, адназначна, экзаменацыйнага бар'ера па нямецкай мове мне б не адолець.

Я мог радавацца. Хоць, па праўдзе, не выпадала рабіць гэта на фоне суцэльнай паразы брата-абітурыента: з 95-ці прэтэндэнтаў на месца ў аспірантуры прыблізна палова нашага брата экзамен па замежнай мове праваліла. І прычына была не ў завышаных патрабаваннях з боку акадэмічнай кафедры замежных моваў. Такі ўзровень быў аб'ектыўна абумоўлены нашымі рэальнымі ведамі прадмета.

Я спакойна адправіўся ў вёску да бацькоў. У чаканні выкліку на навучанне ў АН чытаў дзённікі Льва Талстога, упершыню даведаўся аб дзіўнаватым намаганні тытана пяра зрынуць з п'едэсталу тэатра Шэкспіра, поўнай негацыі ім опернага мастацтва, адмаўленні музыкі Шапэна, якая элегічна-мройліва азывалася ў маім сэрцы.

Тым часам мая прыкідка, план аб далейшым навучанні ўраз раскідваецца.

Прафесар Залескі, які месяц таму віншаваў мяне з паспяховай здачай экзамену, гаварыў аб маёй запатрабаванасці ў праектаваным у акадэмічнай сістэме Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, развёў рукамі. Толькі што выйшла новае распараджэнне аб правілах прыёму ў аспірантуру, дзе абазначана адназначна: паступіць у аспірантуру можна адно пры ўмове наяўнасці працоўнага стажу. Сказана катэгарычна, як у законе, інструкцыі. У маладосці ўдачы і няўдачы ўспрымаюцца, перажываюцца проста. І я з няўдачы не рабіў драмы. Трэба было шукаць працу. Не адкладваючы, зайшоў у Дом друку, балазе ён быў тут, побач з Акадэміяй.

Неацэненаму маладзёну, які не маючы не толькі вытворчай практыкі, а нават журналісцкай адукацыі, так папросту пастукаўся ў дзверы рэдактара рэспубліканскай газеты, нічога не заставалася, як падацца далей, можа нават вышэй.

Скіраваўся ў міністэрства культуры. Вядома, не наўпрост да самога міністра. Да такога нахабства яшчэ не дайшоў. Пастукаўся да загадчыка нейкага аддзела, на шыльдачцы дзвярэй якога прачытаў «Падбярэзкі». У непрасторным кабінеце, без сакратаркі, быў прыняты, здаецца, з разуменнем.

Пажылы, самавітага выгляду чалавек сядзеў не за сталом, а неяк збоку ад яго. Фактычна тануў у глыбокім фатэлі. Кіўнуў мне на крэсла непадалёк ад сябе. Пачаў сам з роспыту пра адукацыю, калі скончыў універсітэт, чаму без працы. Калі даведаўся, адкуль родам, сказаў, што Міністэрства культуры плануе адкрыць у Кушлянах музей у сядзібе Францішка Багушэвіча. Але яшчэ не ўсё падрыхтавана. І рэальна музей будзе адчынены на лета. Мне такая перспектыва вельмі імпанавала. Але гэта трэба было чакаць, і то нямала. Ішоў снежань месяц 1956 года. Ужо цяпер будзе паўгода па заканчэнні ўніверсітэта, як я фланірую з ромбам на лацкане пінжака. А што далей?

На той час горад, праз які я выбіраўся ў свет, у тым ліку ў Мінск, меў статус абласнога цэнтра. У Маладзечна перш-наперш завітаў у аддзел культуры. Застаў старога знаёмца па ўніверсітэце Федзю Барысевіча. Ён год, можа, два, як закончыў гістфак і быў задаволены працай пры ўстанове культуры тут.



Мінск. На скрыжаванні вуліц Рэвалюцыйнай і Рэспубліканскай. Канец 1950-х

Ці я зрабіўся нахабны ў сваёй самастойнасці, але пэўна сцяміў: калі хадзіць па начальству ў нейкай справе, то трэба браць вышэй. Кажучы канкрэтна, я пастукаўся ў кабінет трэцяга сакратара Маладзечанскага абкама партыі. Прама сказаў, што не ўдалося паступіць у аспірантуру і таму запознена шукаю працу. Спадзяваўся, што адкрыецца музей Францішка Багушэвіча.

«Можа, месца літаратурнага супрацоўніка пры вашым жаданні вучыцца далей было б, відаць, дарэчы». Але яшчэ калі той музей адкрыецца, пройдзе нейкі час. А як вы, малады спецыяліст, будзеце без работы? Ураз гэты чарнявы, у самым прыгожым мужчынскім веку чалавек сагнаў са свайго твару хмурасць і кажа: «Ёсць месца... Папрацуеце два гады сакратаром у раённай газеце ў Відзах... А потым я Вас пашлю ў партыйную школу ў Маскву: нам трэба нацыянальныя кадры».

У маладзёна, якога таварыш трэці сакратар бачыў першы раз, на той час не было нават цьмянага ўяўлення, што такое кар'ера. Ну ніякага, зусім. А я што ж. Ну які з мяне газетчык, ды яшчэ сакратар, нешта як начштаба «раёнкі»? У мяне ж ні адпаведнай адукацыі, ніякага, нават зялёнага ўяўлення аб газетнай справе. Падзякаваў зычліваму гаспадару паважнага кабінета. Застаўся пры сваіх нічыіх. Пазней даведаўся, што прымаў мяне Аляксандр Хацкевіч, які неўзабаве сам сышоў з партработы ў навуку. Працаваў у Інстытуце гісторыі АН... У 90-я гады, адышоўшы ад прыярытэтных тэм савецкай гістарыяграфіі, нешта паспеў яшчэ апублікаваць з рэальнай палітычнай гісторыі Беларусі.

Прапанова гэтая магла ўразіць перспектывай, але не бянтэжыла, як тая, што быў атрымаў год таму, падчас выкліку ў ваенкамат. З'явіўся па павестцы як ваеннаабавязаны, лейтэнант запасу. Такое званне нам прысвойвалася пасля навучання на ваеннай кафедры Белдзяржуніверсітэта.

Ваенкам, асвядоміўшыся, хто прыйшоў, сказаў: «З вамі хоча пагаварыць чалавек, і адчыніў дзверы поруч з уласным кабінетам. Я не паспеў разгледзець таго, каму раптам спатрэбіўся, як пачуў: «Вы заканчваеце ўніверсітэт?» Паспеў адно пацвердзіць, што так, як пачуў: «Мы прапануем вам паехаць працаваць у газету пры воінскай часці ў ГДР, — і паспешліва дадаў: — Там вы будзеце атрымліваць заробак у нямецкіх марках, а тут вам будуць ісці грошы на кніжку». Мяне, маладога наіву, гэта адразу не ўразіла і не збянтэжыла. Не зарыентаваўшыся ў сітуацыі, адказаў адно, што я не журналіст па спецыяльнасці і ў мяне іншыя планы. Толькі праз нейкі час старэйшы мой сябра, які прайшоў вайну, партызаніў растлумачыў мне, што ад мяне хацела салідная ведамства, якое стаяла за такой неардынарнай прапановай.

Неяк нядаўна, ужо на старасці, я распавёў пра даўні гэты эпізод аднаму літаратару. Той узгарэўся: «Ах, каб мне такое прапаноўвалі, я б не задумваўся...» І мне стала сумна не ад вяртання думкаю ў маладосць і ўпушчаную, так бы мовіць, магчымасць, а ад яго старых гарачнасці, шкадавання, можа, марнай, вартай жалю зайздрасці.

Працяг будзе

РЭЦЭНЗІЯ

# У ЛЕПШЫХ ТРАДЫЦЫЯХ САВЕЦКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Гісторыя Беларусі шчыльна звязана з гісторыяй суседніх дзяржаваў. Тэрыторыя нашай краіны ўваходзіла ў склад розных краін і дзяржаўных аб'яднанняў. Гэта акалічнасць наклала пэўны адбітак як на фармаванне нацыянальнай свядомасці беларускага народа, так і на працэс пабудовы беларускай дзяржаўнасці.**




Значны перыяд нашай гісторыі звязаны са знаходжаннем нашых земляў у складзе І Рэчы Паспалітай, якая, нягледзячы на памылковыя меркаванні некаторых расійскіх і польскіх даследчыкаў, не была «Польшчай» у сучасным, этнічным успрыманні гэтага слова. Гэта была шматнацыянальная дзяржава, якая складалася з Вялікага Княства Літоўскага, «каронных тэрыторый» непасрэдна Польшчы, прыбалтыйскіх і «ўкраінных» земель. Гэты правобраз Еўрапейскага саюза праіснаваў да канца XVIII стагоддзя і знік з палітычнай карты пасля падзелаў І Рэчы Паспалітай агрэсіўнымі суседзямі.

Другі найважнейшы перыяд узаемаадносінаў Беларусі і Польшчы прыпадае ўжо на XX стагоддзе, калі ў складзе польскай (тут мы ўжо з упэўненасцю можам выкарыстоўваць гэта пазначэнне — аўт.) дзяржавы II Рэчы Паспалітай у выніку кровапралітнай вайны з бальшавікамі апынулася значная частка беларускіх земляў, якія ў польскай гістарыяграфіі называюцца тэрмінам «паўночна-заходнія крэсы», а ў савецкай і сучаснай беларускай гістарыяграфіі называюцца «Заходняй Беларуссю».

Менавіта падзеям XX стагоддзя прысвечаны зборнік дакументаў і матэрыялаў «Польшча — Беларусь (1921–1953 гг.)», выдадзены пры садзейнічанні Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь (складальнікі А.М. Вабішэвіч, І.А. Валахановіч, В.В. Даніловіч, А.Р. Дзюкаў, А.А. Каваленя і інш.).

Варта адзначыць, што ў беларускай гістарыяграфіі досыць фрагментарна вывучана гісторыя знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе польскай дзяржавы. Галоўнымі аспектамі, якім гісторыкі БССР і сучаснай Рэспублікі Беларусь прысвяцілі свае даследаванні, была дзейнасць Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі на тэрыторыях, якія ўваходзілі ў склад Польшчы, акрамя гэтага, вялікая ўвага ў айчыннай гістарыяграфіі нададзена падзеям, звязаным з так званым «Вызваленчым паходам Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну 17 верасня 1939 года» і антысавецкай дзейнасцю польскіх партызанскіх атрадаў Арміі Краёвай на тэрыторыі заходніх абласцей БССР. Іншыя тэмы і гістарычныя сюжэты даследаваны толькі часткова.

У сувязі з гэтым публікацыя любога зборніка дакументаў, звязаных з эпохай няпростых адносінаў Беларусі і Польшчы ў XX стагоддзі, выклікае вялікую цікавасць як у айчынных, так і ў замежных даследчыкаў. На жаль, зборнік, які ўбачыў свет у 2012 годзе, з'яўляецца чарговай калькай гістарычных прац, апублікаваных у часы «развітога сацыялізму». Штампы, уласцівыя савецкай гістарыяграфіі, прысутнічаюць практычна на кожнай старонцы «Прадмовы» да зборніка.

Пачнем з таго, што ў духу савецкіх выкрывальнікаў інтрыг капіталізму, сучасныя беларускія аўтары пішуць пра тое, што сучаснае «польскае кіраўніцтва праводзіць палітыку актыўнага ўмяшання ва ўнутраныя справы Беларусі, ствараючы напружанасць у асяроддзі польскай нацыянальнай меншасці» (с. 3).

Вялікае Княства Літоўскае аўтары выдання ўяўляюць нейкай марыянеткай у руках палякаў, якія «сутыкаюць ілбамі» беларусаў з рускімі. У сваю чаргу, уключэнне беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі, на думку складальнікаў зборніка, «спыніла працэс акаталічвання і паланізацыі беларускага насельніцтва». Але на змену паланізацыі прыйшоў не менш небяспечны для нашай нацыянальнай ідэнтычнасці працэс русіфікацыі і выцяснення


УПРАВЛЕНИЕ ВНУТРЕННИХ ВОЙСК НКВД БЕЛОРУССКОГО ОКРУГА 141

«16» октября 1944 г. № 1/00470 г. Минск

СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО

экз. № ..1..

ПРЕДСЕДАТЕЛЮ СОВЕТА НАРОДНЫХ КОМИССАРОВ – СЕКРЕТАРЮ ЦК КП/б/Б

ГЕНЕРАЛ-ЛЕЙТЕНАНТУ

товарищу ПОНОМАРЕНКО

При этом представляю докладную записку о чекистско-войсковых мероприятиях по ликвидации националистических белопольских бандформирований и местных бандгрупп в районах Барановичской и Вилейской областей Белорусской С С Р, за период с 8.9.44 г. по 13.10.44 года.

ПРИЛОЖЕНИЕ: по тексту на 13-ти листах и одна схема.

НАЧАЛЬНИК ВНУТРЕННИХ ВОЙСК НКВД БЕЛОРУССКОГО ОКРУГА
ГЕНЕРАЛ-МАЙОР
/ КИСЕЛЕВ /

беларускай нацыянальнай рэлігіі ўніяцтва праваслаўем. Пра гэта ў зборніку ані слова. Такія трактоўкі ўласцівыя сучаснай расійскай гістарыяграфіі праімперскага кшталту, якая ў чарговы раз імкнецца абгрунтаваць правы Расіі на «заходнія ўскраіны».

Аналізуючы сітуацыю ў міжваеннай Польшчы, аўтары зборніка робяць вялікі акцэнт на асіміляцыйнай палітыцы ўлад у адносінах да нацыянальных меншасцяў, якія пражывалі на ўсходзе краіны. Не абышлося і без лагера ў Бярозе-Картузскай, які па звычцы параўноўваецца з канцлагерамі ў нацысцкім Трэцім Рэйху.

Аўтары прадмовы адзначаюць, што «ўз'яднанне 17 верасня 1939 г. дазволіла адцягнуць пачатак германскай агрэсіі супраць СССР і стала адным з найважнейшых фактараў разгрому Германіі і яе саюзнікаў». Складваецца ўражанне, што чытаеш не кнігу, выдадзеную ў 2012 годзе, а гартаеш адзін з тамоў «Гісторыі Вялікай Айчыннай вайны», выдадзены ў 1973-м. Пра перадваенныя агрэсіўныя планы Сталіна напісана шмат, і няма сэнсу яшчэ раз пра гэта гаварыць. Варта толькі адзначыць, што тады, у верасні 1939 года, СССР стаў саюзнікам Трэцяга Рэйху, і не хапала малога, каб «мядовы месяц» перарос у трывалы сямейны саюз.

Зборнік складаецца з дзвюх частак, першая з якіх прысвечана падзеям 1921–1939 гадоў і ўключае 65 дакументаў. У другую частку ўвайшоў 81 дакумент, які ахоплівае падзеі 1939–1953 гадоў. У выданні прадстаўленыя дакументы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, Цэнтральнага архіва КДБ Рэспублікі Беларусь, Архіва УКДБ па Гродзенскай вобласці, а таксама дакументы з дыпламатычнага архіва Францыі і архіва Літвы, прадастаўленыя расійскім фондам «Гістарычная памяць». Акрамя гэтага, у зборніку выкарыстаныя матэрыялы з раней апублікаваных крыніц.

Спяшаюся расчараваць тых, хто чакаў, што ў зборніку «Польшча—Беларусь 1921–1953 гг.» будуць апублікаваныя дакументы, што тычацца палітыкі польскіх уладаў у галіне эканомікі. Тут іх, за выключэннем некаторых скаргаў з нагоды камасацыі (аб'яднання некалькіх дробных сялянскіх надзелаў у адзін, хутарызацыя сялянскіх гаспадарак — аўт.) і «рабаўнічых» падаткаў, няма. Затое вялікую ўвагу аўтары выдання надалі «прыгнечанаму» стану беларускага насельніцтва на «крэсах». Асабліва здзіўляюць дакументы савецкага боку, дзе бальшавіцкія чыноўнікі наракаюць палякам на дыскрымінацыю праваслаўнай царквы ў Польшчы. Так, у зборніку апублікаваная нота наркама замежных спраў СССР Г. Чычэрына пасланцу Польшчы ў Савецкім Саюзе Л. Дароўскаму аб парушэнні польскім урадам правоў нацыянальных меншасцяў. У дакуменце, у прыватнасці, адзначаецца, што «гвалты, захопы, разбурэнне рэлігійных помнікаў з'яўляюцца звычайнай справай у практыцы польскіх улад» (с. 57). І гэта пішуць тыя, хто руйнаваў цэрквы, касцёлы і тысячамі катаваў святароў.

Асобную групу апублікаваных матэрыялаў складаюць дакументы польскіх афіцыйных структур. Яны маюць пэўны інтарэс для даследчыкаў, бо ілюструюць некаторыя аспекты дзяржаўнай палітыкі Польшчы ў паўночна-ўсходніх ваяводствах. Завяршаюць першую частку зборніка ўспаміны вязняў лагера ў Бярозе-Картузскай. Трагедыя гэтых людзей была выкарыстаная савецкай прапагандай для фармавання негатыўнага вобраза міжваеннай Польшчы ў гістарыяграфіі і грамадскай думцы.

У другой частцы зборніка змешчаныя дакументы, звязаныя з барацьбой савецкіх спецыяльных органаў супраць польскіх падпольных і партызанскіх фарміраванняў на тэрыторыі заходніх абласцей БССР да і пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны. Большасць прыведзеных дакументаў аднатыповыя. Гэта альбо зводкі пра так званыя «бандпроявления», альбо справаздачы аб барацьбе з «белопольскими бандами». Дарэчы, гэты тэрмін прысутнічае і ў большасці пасляваенных дакументаў НКУСу. Аўтары зборніка імкнуліся зрабіць акцэнт на ўзаемадзеянні падраздзяленняў Арміі Краёвай і іншых польскіх партызанскіх груп з нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй, а таксама на фактах барацьбы польскіх падпольных фарміраванняў супраць савецкіх партызанскіх атрадаў.

Такім чынам, дадзены зборнік дакументаў змяшчае інфармацыю, сабраную ў адпаведнасці з прынятымі ў савецкай гістарыяграфіі канонамі і разглядае гісторыю ўзаемаадносінаў Беларусі і Польшчы ў 1921–1953 гадоў не з беларускіх нацыянальных пазіцый, а з пазіцый савецкай ідэалогіі, да таго ж з элементамі імперскіх штампаў, характэрных для сучаснай расійскай гістарыяграфіі.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 93

Падпісана да друку 25.01.2013. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.